# Крыніца

9(69)
2001
Штомесячны літаратурна-культуралагічны часопіс






© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

Крыніца № 9 (69)
2001

Штомесячны літаратурна-культуралагічны часопіс

Выдаецца са студзеня 1988 года

**Заснавальнік:**
Саюз беларускіх пісьменнікаў

Рэгістрацыйны нумар 630 ад 31 ліпеня 1996 года



Выдаецца на беларускай мове
Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца

**Пішыце:**
**220807, г. Мінск, ГСП,**
**вул. Кісялёва,11**

**e-mail:krynitsa@open.by**

**Звaніце:**
**2-366-113, 2-366-142**

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў 06.08.2001. Фармат 60х84 1/16.
Папера афсетная № 1. Гарнітура «Peterburg». Афсетны друк.
Ум.друк.арк. 9,3. Тыраж 759 экз. Зак. 2467.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.







# Юры Станкевіч

*Дзве навелы*

Юры СТАНКЕВІЧ

# *УСЕ ДЗЕЦІ ЛЮБЯЦЬ БАНАНЫ*

У пакоі стаялі: два ложкі (адзін меншы), канапа, стол і крэсла. Загрувашчаная ўсялякім хламам вітальня па баках раздвойвалася на кухню і прыбіральню. Вокны выходзілі на захад, і ў іх амаль не трапляла сонечнае святло. Хіба што ў другой палове дня ўлетку.

Ішла якраз другая палова.

"Не хадзі на вуліцу", – сказала жанчына.

Хлопчык – неахайна апрануты, з бясколернымі валасамі на дэфармаванай галаве – няўцямна, зацята і касавура зірнуў на яе цёмнымі неспакойнымі вачыма.

"Чаму? – спытаў ён незадаволена. – Я хачу!"

"Адыдзі ад дзвярэй".

"Я хачу гуляць", – настойваў хлопчык.

"Толькі не зараз, потым..."

"Калі гэта – потым?"

Замест адказу маладая жанчына нервова зацягнула фіранкі на вокнах, якія выходзілі ў двор, а потым асцярожна зірнула ўніз. Паверх быў пяты. На двары некалькі падлеткаў вяла бегалі за мячыкам. Амаль усе яны былі цёмныя і жукаватыя. Непаголены мужчына ў спартыўным трыко нёс на выбіўку пыльны дыванок. Бомж корпаўся ў сметніку. Дзяўчаты на лаўцы прагна палілі і гучна мацюкаліся.

Жанчына адышла ад акна і легла на канапу. У яе быў вялікі рот і амаль што гожы, але заўважна абцяжараны пажадлівасцю твар. Сукенка задралася, агаліўшы сцёгны.







Жанчына мяккім кацiным рухам адкінула з ілба пасму цёмных валасоў.

"Ты занадта ўпарты. Як твой увішны бацька. Калі будзеш такі, то, як і ён, апынешся ў турме".

"Хачу ў турму", – прамармытаў хлопчык.

Жанчына не дачула. Яна шукала цыгарэты.

"Што ты мармычаш? Ты ж ведаеш, што я гэтага не люблю..."

"Ты маніш, – узвар'яваўся хлопчык. – У двары кажуць, што яму ў турме лепей, чым тут, з табой..."

"Ах ты, падкалоднік!.. – незалюбіла жанчына. Твар яе адразу стаў непрыгожы і набыў зласлівыя рысы. – Маленькі юрод..."

"Я не юрод", – няўпэўнена сказаў хлопчык.

"А ты зірні ў люстэрка! Яно табе ўсё скажа! Малпа!"

Замест адказу хлопчык нядобра зірнуў на яе і зноў нешта замармытаў, але так ціха, што яна не разабрала слоў.

Пошукі працягваліся. Цыгарэты быццам праваліліся.

"Ты ўвесь час дома, а святло не ўключаеш. А паесці дасі? Хачу банан!"

"Ш-ш-ш-ш-ш, – сказала жанчына і прыслухалася. – Памаўчы крыху".

"Выпусці мяне. Там гуляюць у мяч".

"Потым, пацярпі", – яна шукала пачак. Там яшчэ павінна ляжаць пара-тройка цыгарэт.

"Ты баішся?" – раптам спытаўся хлопчык.

"Не".

"Тады чаго мы хаваемся?"

"Так трэба".

"На двары казалі – ты б... Я чуў. А ты – б..?"

Жанчына рыўком устала з канапы, пасунулася да хлопчыка і ўдарыла таго поўху. Раз'юшаная, моўчкі біла па чым папала.

Хлопчык з цяжкасцю выкруціўся з яе рук. Абодва задыхаліся. Жанчына села на канапу і раптам убачыла пад сталом пачак з цыгарэтамі. Яна дацягнулася да яго, выняла цыгарэту і запаліла. Малы між тым лёг жыватом на зэдлік і пачаў разгойдвацца назад-наперад, мармычучы напаўголасу. Слых жанчынін абвострыўся. Аднойчы прыкладна ў такой жа сітуацыі яна нейк прыслухалася да яго мармытання і вылавіла некалькі дзіўных

фраз. Яна тады не дала веры і вырашыла, што проста недачула ці зразумела штосьці не так.

Жанчына і зараз выцягнула была шыю, каб лепей чуць, але гукі на лесвіцы адразу адцягнулі яе ўвагу. Гудзеў і скрыгатаў ліфт.

"Не варушыся..." – сказала яна сыну.

Ляснулі дзверцы ліфта. Бомкнуў званок, зноў ляснулі дзверцы ліфта, зноў званок. Абое знерухомелі ў раптоўным прыступе страху. Страх перадаецца.

"Ш-ш-ш-ш, – прашаптала жанчына хлопчыку. – Маўчы..."

Званок яшчэ раз бомкнуў, а далей пачаў званіць бесперапынна. Потым стала ціха.

Паўза.

Абое сцішыліся, амаль не дыхаючы.

"Адчыні!" – прагучала з-за дзвярэй.

Голас быў жаночы.

Маўчанне.

Жанчына рабіла знакі хлопчыку, каб той ляжаў ціха.

"Адчыні! – зноў прагучаў голас. – Я ж ведаю, што ты дома і ўсё чуеш. Ну, я прашу цябе, адчыні!"

Паўза.

Дзверы раптам задрыжэлі ад дробных настойлівых удараў.

"Адчыні, адчыні, адчыні!"

Жанчына ў пакоі злёгку пабялела. Хлопчык заціх, нібы скамянеў.

"Адчыні! Я прашу цябе. Ну, не вымушай мяне чакаць, я гэтага не стрываю, ты ж ведаеш!"

У пакоі маці і сын замерлі на сваіх месцах. Страх нібы згусцеў у паветры і задушлівым воблакам абвалок іх целы.

"Я прынесла табе кветкі! І выпіць ёсць! Усё, што трэба. Адчыні, чуеш? Я ведаю, што ты дома. Не грузі мяне... Чуеш, не грузі..."

"Ціха, не варушыся, – зноў прашаптала жанчына хлопчыку. – Маўчы..."

"Я і мальцу твайму падарунак прынесла. Эй, малец! Пагуляеш пару гадзінак, а я табе аддзячу! Чуеш, піянер? Адчыняйце! Усё роўна я не сыйду, так што лепей вам адчыніць, дурыкі!"







"Падарунак! – раптам занерваваўся хлопчык. – Ты чула? Яна казала пра падарунак!"

"Ціха, прашу цябе, – выдыхнула жанчына. – Яна пойдзе. Пагрукае і пойдзе".

"Чаму ты яе не пускаеш? Мо яна прынесла бананаў?"

"Не хачу. Лепш два п'яныя мужыкі, чым яна адна. Ты не разумееш. Маўчы".

"Хачу бананаў! Хачу падарунак!"

"Ш-ш-ш-ш-ш..."

"Хачу!"

У дзверы зноў загрукалі.

Паўза.

Раптам хлопчык сарваўся з зэдліка і кінуўся да дзвярэй. Маці памкнулася была перахапіць яго, але не здолела.

Дзверы расчыніліся, потым зачыніліся.

У вітальні стаяла рослая жанчына з кветкамі ў руках. У яе былі рэзкія рысы твару. Ля куткоў вуснаў блішчэлі каронкі з простага металу. Яна ўсміхалася шырокай усмешкай.

"Не чакалі? – прыязліва спытала госця з прыхаванай і злой іроніяй. – Чаму так доўга не адчынялі? Ну, прывет!"

"Падарунак, – напомніў ёй хлопчык. – Ты абяцала мне падарунак!"

"Госпадзе, – сказала яго маці, – гэта ж трэба так зацыкліцца. Не прасі ніколі!"

Гаспадыня кватэры, вымавіўшы гэтыя словы, устала з канапы і зноў нервова запаліла. Пусты пачак яна кінула на стол. Адначасова яна зірнула ў твар госці, і нібы нейкая іскра прабегла паміж імі. Абедзве сцішана дыхалі. Вочы іх сустрэліся.

Паўза.

"Дзе падарунак?" – амаль крыкнуў хлопчык.

"А я з понтам, піянер, – зноў усміхнулася госця. – З сабой няма, але..."

Яна паклала кветкі, дастала з сумачкі грошы і дала хлопчыку.

"Ідзі купі сабе сам. Што хочаш".

Хлопчык таропка выхапіў у яе з рукі паперкі. На далоні госці на кароткі міг ён убачыў сінюю наколку. Чытаць хлопчык

не ўмеў. Ён паспеў яшчэ кінуць позірк і ў сумачку незнаёмкі. Але там, акрамя бутэлькі, быццам нічога не было.

“Колькі бананаў дадуць на гэтыя грошы? – спытаўся ён. – Ты чуеш?”

"Думаю, шмат. Вось і купі сабе іх сам, – усміхнулася госця. – Што, не фурычыш?”

Яна лёгкім рухам піхала яго да дзвярэй.

“Ідзі...”

Хлопчык выйшаў. Дзверы за ім зачыніліся. Сціснуўшы ў кулаку грошы, ён спусціўся ўніз.

На двары гулялі ў мяч.

“Гэй ты, станавіся побач”, – прапанавалі яму, але ён адмовіўся.

За домам, на вуліцы грувасціліся некалькі кіёскаў. Ён скіраваў туды. Грошы. У яго былі грошы. Маці яму амаль ніколі не давала іх. Хіба, калі загадвала схадзіць па хлеб. А ён любіў бананы. І не любіў маці. Не любіў ніколі. Ён купіць бананаў. Шмат бананаў.

Хлопчык таропка прайшоў праз двор і апынуўся на вуліцы. Ля кіёскаў ён спыніўся. Вочы яго разбегліся, разглядаючы мноства каляровых этыкетак. Прахожыя елі бананы.

Як добра змеркласся, ён вярнуўся дамоў. Смуродны ліфт звыкла павёз яго на пяты паверх. Парыпвалі тросы і блокі. Хлопчык намацаў на шыі шнурок ад чаравікаў. На ім вісеў ключ. Ліфт спыніўся. Ён выйшаў і перад дзвярыма прыслухаўся. Там, у кватэры, было ціха. Ён уставіў ключ у адтуліну замка і павярнуў яго, потым зайшоў.

Нюх у яго заўсёды быў абвостраны. Тытунь. Парфума. Смуродны пах парфумы, тытуню і яшчэ чагосьці, чаго хлопчык не ўмеў назваць. Ён ціха прайшоў праз вітальню і зазірнуў у залу. Нешта было не так. Ён насцярожыўся, як звераня.

Целы. Два голыя жаночыя целы. Жанчыны спалі абняўшыся. Стаяла пустая бутэлька на століку і дзве шклянкі. Парфума і тытунь. Ён задыхаўся. Нейкі час ён стаяў нерухома і глядзеў. Страх. Ён адчуў страх. А яшчэ пакутлівы сорам і пагарду.







І яшчэ нянавісць. Нялюбасць да гэтых жанчын скаланула яго. Адступаючы, ён пасунуўся назад.

Кухня. Газавая пліта. Прыбіральня. Там яго званітавала. Зноў газавая пліта. Ён прыпыніўся ля яе і павярнуў адну фаерку. Газ пайшоў у паветра, ён адчуў яго лёгкае шыпенне і пах. Хлопчык адкруціў другую фаерку, трэцюю і апошнюю, чацвёртую. Потым адступіў да дзвярэй, выйшаў на пляцоўку, старанна зачыніў за сабой дзверы.

Ён сядзеў у пустым ужо і цёмным двары і назіраў за вокнамі сваёй кватэры. Там таксама было цёмна. Аніякага руху, ціха.

Ён думаў, што цяпер яго абавязкова возьмуць у турму. І няхай яму кажуць, што там дрэнна, – гэта не так. Бо горш, чым тут, няма нідзе на свеце. І калі кажуць, што людзі добрыя, любяць і паважаюць адзін аднаго і любяць дзяцей, – гэта няпраўда.

І ён пачаў разгойдвацца і звыкла мармытаць сваё. Ён, як вырасце, будзе іх забіваць. Кожнага, хто будзе палохаць яго, хто зманіць яму хоць у самым дробным. І як яму добра і ўтульна будзе там – у турме. Ці даюць там бананы?

Цемра агортвала яго. Яна была казытліва-жорсткая ад шуму вялікага горада, які ніколі не спаў. Ні раніцай, ні днём, ні ноччу.

А тыя, у кватэры, спяць?

Яго зноў званітавала. Бананы. Ён з’еў іх зашмат.

# *КОТКІ Ў БІБЛІЯТЭЦЫ*

**П**радвызначана, што неўзабаве яны дабяруцца да катоў. Яны – гэта малалеткі, дзеці прыхадняў, і самі прыхадні, што з’явіліся тут апошнім часам, а катоў, дакладней котку з кацянятамі, яшчэ раніцай я бачыў ля іх кацінай схованкі пад бляшанай трансфарматарнай будкай, побач з пунктам прыёму шклатары. Набрыдзь, бамжы і п’яныя сантэхнікі заўсёды спаганяюць тут сваю злосць і б’юць

забракаваныя бутэлькі аб жалезны верх будкі, і цяпер кацяняты, калі часам выбіраюцца са сваёй нары, змушаныя бегаць па бітым шкле. Цераз дарогу стаяць вялізныя скрыні для смецця, у якіх увесь час корпаюцца галодныя каты. Між іншым, месца катоў, на мой погляд, у цёплых і пpасторных пакоях, на лецішчах ці ў бібліятэках. Так, у бібліятэках. Ва ўсякім разе не ў памыйных скрынях ці на бітым шкле. Але так заўсёды адбываецца, калі з-за нейкіх прычын навокал пачынае панаваць нізасць, і гэта становіцца правілам, і ёй даюць магчымасць развівацца далей па сваім жаданні, а галоўнае яе, нізасці, жаданне – нішчыць тое, што вылучаецца з агульных шэрагаў, а потым наогул больш нічога не жадаць. І калі яе, нізасць, не вызначыць адразу і не пачаць з ёй змагацца, ужываючы ўсё, што толькі можа прынесці ёй згубу, то яна імгненна запалоніць усе нішы і нахабна перакрые любыя шляхі. Яна аб’яднаецца з пасрэднасцю і шэрасцю, і яны разам вызначаць сваіх ворагаў з жывёльным інстынктам прадбачання. І тады вакол пачнуць віраваць крыклівыя прыхадні, вуліцы пакрыюцца смеццем, да школ скіруюцца прадаўцы гераіну, а на дошках для аб’яў ля крам і міліцэйскіх пастарункаў з’явяцца фотаробаты маньякаў, каб праз нейкі час даваць месца іншым фотаробатам, бо хто-хто, а монстры ў нас не пераводзяцца, як не пераводзіцца і сама нізасць. Гэта яна робіць людзей зайздрослівымі і дробязнымі, з ліслівымі тварыкамі гаспадаркоў, і на тварыках гэтых лёгка чытаюцца ўсё тыя ж пасрэднасць і шэрасць. Гэта яна расхінае межы і прыводзіць сюды набрыдзь, павялічваючы ўвесь той гной, які ў выніку мае толькі адну схільнасць – да самазнішчэння. Яна множыць “графіці” сатаністаў на сценах і цупка сочыць за тым, што пішуць яе антыподы. Напішыце, паспрабуйце, толькі адно слова “жыве” ці яшчэ што-небудзь у гэтым сэнсе, і адразу ўсчынецца вэрхал, а збраяносцы пасрэднасці і шэрасці пачнуць сапраўдны гон, быццам пажаданне жыцця – злачынства і самы цяжкі грэх. Смяротны грэх, не інакш.

...Праз акно сваёй кватэры я раз-пораз аглядаю вуліцу. Я жыву ў невялікім, забруджаным радыяцыяй гарадку, раённым цэнтры, бо ў свой час не ўцёк адсюль назаўсёды. А цяпер ужо занадта позна – я ўжо не той, што раней. Я гляджу ў акно і бачу, як у двары завіхаюцца прыхадні: брудныя і крыклівыя асобы абодвух полаў; тут жа бегаюць іх дзеці з распухлымі ад паразітаў жыватамі; і зноў усё тыя ж бамжы, бамжы, бамжы... Калі над усім пануюць шэрасць і пасрэднасць, то большасць іх прадстаўнікоў апускаецца, і гарады становяцца бамжатнікамі. Тут, пэўна, дзейнічаюць законы Дарвіна, а мараль... Што ж, яна мяняецца разам з генамі. Я гляджу ў акно і бачу, як яны ходзяць па вуліцы: купкамі і паадзіночцы, а то, апошнім часам, і парамі – зусім па-сямейнаму. З пакетамі ў руках, дзе боўтаюцца дзве-тры пустыя бутэлькі, у зашмальцаваных і вязаных шапачках, якія на зонах называюць “педараскамі”. Часам яны спраўляюць свае натуральныя патрэбы, не надта зважаючы на іншых і не адыходзячы нават за які вугал, а то і мастурбуюць тут жа.

...Грукат ад нязграбных грузавікоў прарываецца праз шкло. Я гляджу ў акно і думаю, што заўтра, як толькі развіднее, паспрабую забраць котку з кацянятамі да сябе, накармлю як-небудзь, а потым, як кацяняты вырастуць, раздам знаёмым... Але, раптам узгадваю я, у мяне ж ёсць у кватэры гаспадыня. Котка. Цын. Па-старабеларуску гэта азначае “волава”: дымчата-шэрага колеру з ледзь бачнымі крэмавымі падпалінамі; азірнуўшыся, я бачу яе на сваім звычайным месцы – пад батарэяй ацяплення. Яна ўжо старэнькая і шмат спіць. Але чужых наўрад ці пацерпіць на сваёй тэрыторыі. Жывёлы абачлівейшыя і лепшыя за нас. Тыя, што купкамі, парамі ходзяць зараз па вуліцы, часам горшыя за жывёл. Гэта яны аднойчы надзелі на сябе лепшае, што мелі ў сваіх убогіх гардэробах, і пайшлі на свае свята, каб прадаць разам усё, што ў іх было, тым жа чужынцам. Корабам тапырыліся на іх плячах парадныя касцюмы і віселі цяжкія скураныя курткі на нязграбных постацях іх жанчын, і яны ўсё ішлі і ішлі ў той дзень, і на іх тварах была напісана шэрасць.

Не, мяркую я, Цын не пусціць у свой дом чужынцаў. У адрозненне ад людзей, коткі паважаюць і шануюць свабоду і свой дом, бароняць яго, ахвяруючы нават жыццём. Так, жывёлы першыя прымаюць на сябе ўдары лёсу, і гінуць таксама першыя.

Сёння з раніцы я праводзіў жанчыну. Яна прыехала з іншага горада, значна большага за той, дзе жыву я, і правяла ў мяне паўдня, ноч і яшчэ крыху: амаль суткі.

Усяго якую гадзіну таму я размаўляў з ёй, седзячы на

лаўцы ў неспакойным прывакзальным скверы, які наскрозь прадзьмухвала ветрам, бензінавымі выпарэннямі і рыканнем рухавікоў. Некалі, шмат гадоў назад, у мяне было да тае жанчыны даволі моцнае пачуццё, і яна ведала пра гэта, і таму паводзіла сябе вольна, вось толькі ранейшай упэўненасці ў яе не было. Стройныя яе ногі былі аголены крыху больш, чым звычайна, яна часта ўсміхалася, зазіраючы мне ў вочы, але без надакучлівасці і залішняй, робленай клапатлівасці, неяк нават ласкава і амаль пасяброўску. Я падумаў чамусьці, што ад яе больш не вылучаецца фермонаў, а што гэта значыць – можна і не тлумачыць. Хоць, магчыма, я і памыліўся. Дык вось, жанчына раптам спыталася ў мяне:

"Чаго б ты хацеў зараз больш за ўсё?"

"Менавіта ў гэты час, у гэтую хвіліну?" – пацікавіўся я.

Але яна адказала, што задала пытанне і не хацела б удакладняць яго. Я глядзеў ёй у вочы і раздумваў. Адказ напрошваўся сам сабой, і я ўжо раскрыў быў рот, каб сказаць тыя некалькі слоў, якіх яна чакала: штo-небудзь кшталтам "каб мы зноў апынуліся ў кватэры і каб ты распранулася..." і гэтак далей што-небудзь такое, жанчыны любяць слухаць рызыкоўныя рэчы, але я змушана зацягнуў паўзу.

Паўза была сапраўды працяглая. Я раптам задаў сам сабе яе пытанне і ўсур'ёз і надоўга задумаўся: са мной такое здараецца. А потым сказаў, што хацеў бы вярнуць да жыцця некалькіх котак і сабак, якія жылі раней побач са мной і якіх я перажыў, і што гэта самае маё вялікае жаданне. Я нават сам здзівіўся з такога свайго дзікага адказу, але перайначваць што-небудзь было позна; жанчына відочна страціла цікавасць да гутаркі, і я правёў яе да электрычкі і развітаўся. Потым я пайшоў дамоў.

І вось цяпер я паціху дапіваю бутэльку віна і падводжу вынікі. Многа піць мне нельга, але іншым разам хочацца пляваць на забароны. Многа піць нельга таму, што сасуды ў мяне зусім ні на што не прыдатныя пасля таго, як пятнаццаць год таму ваенкамат скіраваў мяне на ліквідацыю, як яны казалі, аварыі. Нізасць заўсёды падганяе ўсё пад сваю выгоду. Не катастрофа тысячагоддзя, а аварыя. Цяпер я хутка стамляюся, у мяне слабыя і крохкія сасуды, а сэрца збіваецца з рытму, пакуль не наглытаешся



розных таблетак. Сёння, у тым самым скверыку, я збольшага патлумачыў усё гэта жанчыне, але яна сказала, што і сама не маладзела ўвесь гэты час і што яна не супраць быць са мной да самага скону. Так, не супраць; і тут яна, пэўна, разлічвала на маю асаблівую рэакцыю, але я зноў прамаўчаў. Урэшце, што я мог ёй сказаць? Што тады, пятнаццаць год таму, калі я вярнуўся з ліквідацыі, я ўжо меў на хвасце іх камітэт: чамусьці мясцовая адпаведная служба адразу вылічыла мяне і запісала ў ворагі. Мяне элементарна праслухоўвалі; толькі потым я даведаўся: і з той жанчынай таксама. Ад пачатку і да таго часу, калі паміж намі, ёю і мною, усё скончылася. Быццам пасрэднасці і шэрасці мала было таго, што па сутнасці зрабілі з мяне інваліда. Тады, пятнаццаць год таму, яны навесілі мне ўмоўны тэрмін і скіравалі ў дворнікі. Урэшце, тую карту – дворніцтва – я сам тады выцягнуў, бо ў той час гэта была прафесія выключна для выбраных. Працуеш сабе паціху ў пустаце і адзіноце і думаеш. Думаць – вось хіба што было важна. Як трапна заўважана: "усякая думка – лянотная і хутка спыняецца. Думай, каб уцякаць..."

Толькі вось уцякаць тады не выпадала. Не было куды. Хіба што ў пустату ці ў алкаголь? Хоць і зараз усё – пустата, і нішто тут не варта чаго-небудзь. Але я не баюся адзіноты. Вось мой колішні сусед – мясцовы дробны дзялок – баіцца. Калісьці яму пашанцавала: ён не трапіў на тую ліквідацыю, куды нас гвалтам бралі разам, хоць і ў розныя дні. Не трапіў. Ён тэлефануе мне, калі не зусім п'яны, і калі-нікалі расказвае пра той дзень, як іх, яшчэ цёпленькіх, з пасцеляў, прывезлі ў ваенкамат, і ваенком падымаў са стоса асабовую справу чарговай ахвяры і, гучна зачытаўшы прозвішча і ўзяўшы з таго распіску, перакладаў паперы ў іншы стос. Так бы мовіць – з жывых у адносна жывыя, у такія, як зараз я. "І ты ведаеш, – расказвае мне былы сусед, – я раптам бачу, што памочнік ваенкома, старлей – знаёмы мне па жыцці, добра знаёмы, і тут я яму, ваўку драпежнаму, знакі раблю, паказваю на пальцах, міргаю вачыма, маць яго, каб папку маю з паперамі з верхняй часткі на самы ніз пераклаў, бо яны, ваенкомаўцы, як я ведаў, заўсёды з запасам набіраюць, а як патрэбную колькасць нашага брата забрыюць, то астатніх – адразу

па дамах. Каб не швэндаліся без работы за іх кошт. Той старлей мяне зразумеў, анягож, я яго потым каньяком некалькі разоў добра напаіў, і паперы мае пад ніз пераклаў, а што яму гэта каштавала? Дробязь... Так я тады дамоў і вярнуўся, у сям'ю, да жонкі, якую вось цяпер на сваю галаву, – дадае былы мой сусед, – скіраваў у Амерыку. Каб грошай зарабіла. А яна нядаўна прыехала, каб са мной развод узяць. І навошта мне цяпер тыя грошы? А я не магу, калі застаюся адзін. Я баюся і п'ю. Мне страшна, – працягвае сусед. – Калі б маці была жывая, не так піў бы. Ты ж памятаеш... Я ж круціўся нармалёва і грошы тыя не лічыў... Можна, я да цябе прыйду, га?"

Так ці прыкладна так ён размаўляе са мной па тэлефоне. Але я запрашаю яго вельмі рэдка, і справа тут не ў тым, што пятнаццаць год таму ён здолеў выкруціцца з той агульнай пахаванкі, а я – не. Я яму за гэта зусім не зайздрошчу. Не. Проста я не ўспрымаю людзей, якія баяцца і не выносяць адзіноты, а былы мой сусед менавіта з такіх.

***

Ноч. Я прачынаюся раптоўна, нібы выскокваю са сну. Цяпер да раніцы мне не заснуць. Вочы баляць, пэўна, ціск зноў вышэйшы за норму. Трэба выпіць чаго-небудзь. Вып'ю спіртнога – яго яшчэ крыху засталося, і, можа, засну зноў, хоць раніцай, прадчуваю, мне будзе блага. Я думаю пра жанчыну, якую ўчора праводзіў, якую калісьці кахаў і якая зусім нядаўна гаварыла мне ўсякія прыгожыя словы, а цяпер, пэўна, ужо вярнулася ў свой вялікі горад, а потым пачынаю думаць пра сваіх котак. І навошта я пра іх успомніў у тым скверыку?

...Рыска, адна з маіх котак, была колеру кавы з малаком – яна абмірала за рыбаю і хвалявалася, калі я зрэдку збіраўся з вудамі, а потым пільнавала мяне, калі я вяртаўся, і бегла мне насустрач па вуліцы. Тады я жыў яшчэ ў сваім доме, які даўно знеслі, засяліўшы мяне ў гэты грамадскі клапоўнік з запаскуджанымі пад'ездамі і загнюшанымі ліфтамі. Дык вось, Рыска была побач і зазірала мне ў вочы. Драбязу яна ела імкліва і прагна і прасіла зноў і зноў. Некалькі карасёў я кідаў у начоўкі з вадой, і яна яшчэ палявала на іх да раніцы, пакуль не павыцягвае ўсіх лапамі. Тады, па маладосці, я надта не звяртаў на яе ўвагу. Звычайная дваровая котка. Штогод яна прыводзіла з гарышча кацянят, спускала іх уніз. Кожны раз яна свяцілася шчасцем, дэманструючы сваё патомства, але ўнізе раздражняліся, бо гэта быў лішні клопат.

Дзень яе смерці я памятаю дакладна. Стаяла марозная зімовая ноч. Я вярнуўся моцна п'яны, і Рыска адразу спусцілася з гарышча і падала голас. Яна быццам хацела сказаць мне нешта вельмі важнае. Нягледзячы на свой стан, я заўважыў, што ёй дрэнна, і паклікаў у дом. Але яна не пайшла, і я толькі цяпер, праз гады, зразумеў – чаму. З носу і рота ў яе цякло. Яна была хворая, і ёй было блага. Памятаю, што я пагладзіў яе па спіне і зноў паклікаў у дом. Праз столькі год я і зараз шкадую, што не занёс яе тады на руках, але я быў пад уздзеяннем алкаголю і моцна хацеў аднаго – спаць. Я быў малады і яшчэ не разумеў, што значыць спагада. Не разумеў.

Цяпер я ведаю, што яна мне хацела сказаць і чаму не пайшла ў цяпло. Яна рыхтавалася паміраць і дачакалася мяне, каб развітацца назаўсёды. Гэта, пэўна, і быў славуты сорам смерці. Так, жывёлы саромеюцца назаляць сваім гаспадарам апошнім зямным клопатам і паміраюць як мага далей ад усіх нас. У адрозненне ад нас, яны не баяцца адзіноты.

Я гляджу на гадзіннік. Да раніцы яшчэ далёка. Але ў мяне было дастаткова катоў і сабак, каб было каго ўспамінаць не адну такую доўгую бяссонную ноч. Не ўсе з котак і сабак былі шчаслівыя ў маім доме, цяпер я разумею і гэта; здаралася, што я крыўдзіў таго-сяго. А некаторыя жывёлы, як і людзі, памятаюць пра тую крыўду ўсё жыццё. Цяпер я нікога не хачу крыўдзіць.

***

Яшчэ ўладарыць ноч.

Я быццам выныраю з вады. Кароткі сон сплывае ў падсвядомасць, але я паспяваю ўхапіць яго абрысы. Мне снілася тая самая жанчына, якую я ўчора праводзіў на электрычку. Яна прыснілася мне маладою, такою, якою яна была амаль дваццаць гадоў таму. І сам сон быў светлы, ціхі і пяшчотны. Але цяпер,

калі гады адфільтравалі ўсе падзеі, я ведаю, што ўсё гэта не так. Неяк мне сустрэўся адзін з тых збраяносцаў, якія займаліся маёй справай. Яго камісавалі па хваробе, і ён хутка апусціўся да збірання бутэлек. Шызафрэнія. "Так, – сказаў ён мне пры выпадковай сустрэчы, – ты дай мне на пляшку віна, а я табе раскажу тое-сёе". Ён расказвае мне пра маю мінулую справу падрабязна, часта імправізуючы і адхіляючыся з прычыны сваёй хваробы ўбакі, але я зноў вяртаю яго ў звыклую яму і мне каляіну, а памяць у яго яшчэ не сцёртая часам. Ён называе мне тых, хто здрадзіў мне. І кажа пра жанчыну таксама. Прыводзіць абгрунтаваныя доказы. Я ахвярую яму на віно. За ўсё трэба плаціць.

...Жанчыне я нічога не сказаў. Навошта? Урэшце, яна больш не выпраменьвае фермонаў. Бадай, я не нагадаю ёй пра тыя падзеі ніколі. Можа, яны тады проста запалохалі яе, і яна цяпер моцна шкадуе. І такое не выключана. Усякае бывае.

"Над жыццём няма суддзі", – сказана дзесьці ў Ніцшэ. Але ж над нізасцю павінен быць нейкі суд. Інакш яна апануе ўсю гэту няшчасную зямлю і запоўніць яе суцэльным гноем. Ну, а людзі... Што ж, хіба іх зменіш? Ці хіба адначасова палепшыш іх гены? Дый на што мне яны, людзі? Тыя, напрыклад, хто заўтра зноў выйдзе на вуліцы на свой чарговы рэферэндум. Ці тыя прыхадні, што гергечуць за вокнамі і мацюкаюцца зараз, ноччу, быццам ім не хапае дня? Іх усё большае і большае, дык нашто мне, урэшце, менавіта такі край? З прыхаднямі? Я не прыму яго ніколі. Не прыму.

...Цын, мая котка, зусім старэнькая, ціха пахропвае ў сне. Зусім па-чалавечы. Ёй, пэўна, мала засталося жыць. Але хто ведае, калі і як памрэ кожны з нас?

А пакуль я слухаю ўначы яе дыханне і думаю пра тое, хто мы такія ўвогуле: сапраўды – хто? Хіба што, як сказана дзесьці ў Вільяма Джэймса: "...магчыма, мы самі ў Сусвеце падобныя на сабак і катоў у нашых бібліятэках, якія бачаць кнігі і чуюць размову, але не маюць ні найменшага разумення, пра што яна"...









# Таццяна Будовіч

*У пошуках новых пачуццяў*
*мы вынайдзем дзейсныя сродкі:*
*як не адчуваць гэтак востра*
*душэўнай сваёй адзіноты.*

***

*Праз цёмнае поле*
*іду на святло вакна,*
*і мне ўсё адно –*
*ці чужое.*

**В.Слінко**

Каля агню
матыль начны
прымроіць сны
пра дабрыню.

...Хутчэй прабіць
сцяну са шкла –
і да святла –
і апаліць
начны адчай,
ці разам з ім –
халодным, злым,
загінуць – хай...

Святло ў вакне.
І ўсё адно,
каму яно
гарыць. Не мне...

***

Адсюль, дзе вада паўсюль,
туды, дзе няма вады,
змагацца са смагай ты
ідзеш. Я хачу з табой,
знясілены мой герой.
Не сілу табе аддаць,
не рэшту тваёй узяць –
засведчыць сабе ізноў,
засведчыць мільён разоў:
ёсць Нехта, жывы, як ты,
ёсць Нехта, але не ты,
рэальней за нас з табой,
знясілены мой герой...

## ХАТНЯЯ ІДЫЛІЯ

*(Наследаванне Бродскаму)*

Ідзе чацвер. Дэпрэсіі няма.
Яна была, ды выйшла ўся дарэшты.
А за вакном маім – зіма, зіма...
І ля вакна, на ложку, – муж. Ён нешта

На белай столі ўгледзеў і глядзіць
З гадзіну, мусіць, не міргнуўшы вокам.
Накормлены вуркоча кот пад бокам
Пра тое, як яму цудоўна жыць...

***

У пошуках новай радзімы
мы страцілі нашыя душы.
Калі ж пажадалі вярнуцца,
Дарога адрынула нас...

***

Ты не прачнешся, калі
ў снезе сагрэецца поле.
А на халоднай зямлі

снегу ўсё болей і болей.
Ты не прачнешся ніколі.

Снег саграе твае сны.
Сны
пра гуканне вясны.

***

Восеньская ноч
стукаецца ў вакно
дажджом –
няма з кім
раздзяліць холад...

***

...Бясконцасць шашы.
Намотваецца ўсё хутчэй
дарога на колы...

***

Стратэгія паводзінаў – гульня.
Прадуманая тактыка – без хібаў.
...Навобмацак знайсці
ў душы праціўніка
крывавыя рубцы,
не выдаўшы свае
нервовым рухам.

***

Заўтра ты атруціш блазна,
Што жыве ў душы маёй.







Каб дарэшты стаць тваёй,
Мушу я пазбыцца блазна.

...Не! Мне блазан даражэй.

***

да цябе ўсе шляхі да цябе
гладыятар разлітая кроў
над арэнай раз'юшаны роў
выбачай што не ты ў барацьбе
пераможца багі для сябе
абіраюць найлепшых прысуд
іх суровы пад спёкаю бруд
набрыняе засмяглы крывёй
улагодзіць плебейскі настрой

***

адсякаю мёртвыя
карані
а было ж балюча так
не крані
а цяпер смяюся я
над сабой
раны мёртваю
загаю вадой



# Леанід Маракоў

*Я не прывык мець стасункаў з геніямі. Пасля Вялікага Адсеву яны сталі надзвычайнай рэдкасцю.*







## ЛЁС ЧАЛАВЕКА

Апошнія трыццаць пяць гадоў ягонае жыццё ішло ў адпаведнасці з праграмай тэлебачання. Лёву за пяцьдзесят, не за гарамі пенсія, што, мне здаецца, будзе для яго прыемным сюрпрызам. Ён бесклапотна і шчасліва жыў з героямі экрана і не заўважыў, як большая частка жыцця засталася ззаду. Для такіх, як Лёва, не мае значэння, які дзяржаўны лад у краіне. Свядома ён памятае сябе з часоў Мікіты Сяргеевіча. Разам з усімі ў піянерскіх лагерах натхнёна запяваў: “Эх, картошка, объеденье-денье-денье, пионеров идеал-ал-ал...” ці “Вместе весело шагать по просторам, по просторам, и, конечно, подпевать лучше хором, лучше хором...” Хорам (разам з мамай і рэпетытарамі) Лёва скончыў школу. З дапамогаю зноў жа мамы, вядучага стаматолага ўрадавай паліклінікі, паступіў у інстытут. Яна ж пад канец вучобы выбіла Лёву аднапакаёвую кватэру.

Вучыўся Лёва ўрыўкамі паміж праглядам чарговага сацрэалістычнага, глыбока маральнага мастацкага фільма і матчу чэмпіянату СССР па футболе. Пасля атрымання дыплома з прычыны сціпласці набытых ведаў працаваў (мама з працаўладкаваннем дапамагчы не змагла, нечакана злегла з інфарктам у бальніцу, адкуль і сышла ў лепшы свет) то тут, то там, галоўным чынам на падхваце ў забеспячэнні. Бегаў па маршруце: склад – кліент – бухгалтэрыя – начальнік. Але неўзабаве працу пакінуў. На Саюз насоўвалася цывілізацыя, і ў праграмах перадач зніклі трох-чатырохгадзінныя дзённыя “рабочыя” перапынкі. Замест іх нярэдка запускалі фільмы. Адмовіць сабе ў такой халяве бедны

Лёва не мог. Давялося перакваліфікавацца на вартаўніка: ахоўваў у суседнім доме кантору будтрэста. На ноч, захапіўшы маленькі тэлевізар "Электроніка", ішоў на дзяжурства, каб уранку вярнуцца да вялікага "Рубіна".

У эпоху перабудовы нам сустракацца не даводзілася, а тут раптам зусім выпадкова напароўся на яго.

– Якія людзі, і без аховы! – прывітаў мяне Лёва першы.

– Усё пасміхаешся? І па-ранейшаму сядзіш перад тэлевізарам? – успомніў ягонае захапленне. – Як там твае скрынкі, ідуць яшчэ?

– Ідуць, куды ім дзецца, – усміхнуўся задаволены Лёва. – Некалі рабілі надзейна, сам ведаеш. А ты – змяніўся. Відаць, што жыццё пакруціла. Адразу і не пазнаць. Чуў, у пісьменнікі падаўся. Як жыццё людзей мяняе! Ты ж па свеце любіў матляцца, а не штаны праціраць. Але старэе наша братва, старэе... Ой, слухай, – паглядзеў Лёва на гадзіннік, – праз сем хвілін фільм пачынаецца. І адначасова нашы прыдуркі, як заўсёды, футбол транслююць. Савецкі Саюз, што ты хочаш...

Пярэчыць што-небудзь Лёву было бессэнсоўна. Ён нарадзіўся ў Саюзе, у ім і памрэ.

Вось такое тэлебачанне...

А фільм, дарэчы, пачынаўся добры. Наш, родны, савецкі. Асабліва мне падабалася ягоная назва – "Лёс чалавека".

# *ТАНДЭМ*

Крытык прачытаў, засмяяўся, абурыўся, плюнуў. Вырашыў: трэба разграміць, знішчыць, сцерці з твару зямлі гэтага недарэку-дылетанта, пісаку-графамана. Адбіць ахвоту пэцкаць паперу. Як? Ды проста: тыцнуць неандэртальца носам у ягонае ж дзярмо!

Ён узяў важкую, з тоўстым чырвоным стрыжнем аўтаручку, прызначаную акурат для такіх выпадкаў, і давай крэмзаць, рэзаць, знішчажаць. Словы, сказы, абзацы. Ох, гэтыя гора-пісьменнікі!

Тэксту было няшмат – чатыры старонкі. На першай крытык не пакінуў каменя на камені. Другую таксама спярэсціў-скрэсліў, але разабраць праўкі можна было. Паядынак з трэцяй – наздзіў – скончыўся ўнічыю. На чацвёртай адолеў нахабны пісака. У фінале ён трымаў сцяг пераможцы і размахваў ім у крытыка перад носам.

"Стаміўся, – зрабіў новую выснову крытык. – Што ж, няхай, для пачатку досыць. З фіналам разбяруся пасля. От ужо гэтыя графаманы! Яшчэ і ўпарцяцца!"

Пісьменнік прагледзеў праўкі. Падумаў: увогуле глупства, але нешта быццам і ёсць. Прайшоўся яшчэ раз. Уважліва, няспешна. Прасвятлеў. Зразумеў. Пераклаў старонкі, памяняў іх месцамі. Сёе-тое падправіў – так, драбніцы. Прачытаў. Цудоўна! Супер! Пакруціў галавой: "Ну крытык! Ёлупень з ёлупняў, а з нічога цукерачку зрабіў!"

Крытык паглядзеў: канверт знаёмы. Скрывіўся: што ж, прафесія, наканаванне, абавязак. Раскрыў. Прачытаў. Заціх. Разявіў рот. Зірнуў на подпіс: аўтар той самы.

– Вось табе й на, – пахітаў галавой і сціснуў вусны, – можа ж пісаць, сабака!

І ўзяўся чытаць зноў: трэба паспець з рэцэнзіяй першым...

Пачаў проста, без агаворак: "Так яшчэ ніхто не пісаў, і таму я хацеў бы адзначыць, што..." Ставячы ў канцы клічнік, падумаў: "От пісака! Ёлупень з ёлупняў, а з нічога цукерачку зрабіў!"

# *Зайздрасць*

I

Яна калупалася нажом у ягонай печані, драпала брудным пазуром па сэрцы, сушыла мазгі, сцінала горла.

От ужо гэтыя вырадкі, таленты, спрытнюгі, самародкі, шчасліўчыкі, падонкі, народжаныя ў кашулях, вынашаныя ва ўлонні ўдачы, вылупленыя з яечак-генаў, памечаных самім Богам! Улюбёнцы лёсу, шчасліўчыкі праклятыя! Быдлё! Даканаюць яны мяне, даканаюць!..

Рэдактар! Вош ён паўзучая, а не рэдактар! А хацеў жа пісаць! Ах, як ён хацеў пісаць! Тварыць! Адбыцца! Быць! Быць настаўнікам. Першым. Галоўным. Славутым. Усё жыццё! І пасля яго!

І пісаць, пісаць, пісаць!

Ды на трагедыях ягоных – смяяліся. На камедыях – засыналі. Ад вершаў – адплёўваліся. Песні – не спявалі. Не чулі. Не заўважалі. Спрэс. Усе. Як пад гіпнозам. Вырадкі!

І гэты хлапчук-пачатковец.

Учора сказаў, што мае задумку напісаць пра маці, ушанаваць яе памяць. І прывалок! Сёння! З самага ранку! За ноч накрэмзаў! Во гад! І як, падлюга, напісаў! Як, шчанюк бязвусы, выдаў! Слоўка ў слоўка ўліваецца, утварае хвалю, хваля паглынае цябе, і ты ў ім, у жыцці.

“Ліпень. Возера. Світанак. Усплыло сонца. Адарыла цёплым пацалункам. Мама сказала: гэта цяпло тваёй радзімы, сынок, нашай радзімы. Страпянуўся лебедзь. Прачнуўся, узмахнуў крыламі: “Вітаю вас, суседзі!” Вясёлкай рассыпаліся пырскі. Скочваліся па твары. Сонца палыхнула: “Не дурэй, шызакрылы!” Прыбеглі промнікі, дакрануліся пяшчотна, абнялі, абагрэлі, узялі ў свой палон... Мама засмяялася: “Добрага ранку, дзеці, добрага ранку, родныя”.

Ліпень. Возера. Ранак. Апошні мамін ранак...”

Злавіў сябе на тым, што вочы мокрыя. Пырскі ці слёзы? Выцер. Гэта ж ён маю радзіму апісаў. У-у, паскуднік таленавіты!

Я не прывык мець стасункаў з геніямі. Пасля Вялікага Адсеву яны сталі надзвычайнай рэдкасцю. Павыразалі разумнікаў. Столькі гадоў ціха – і раптам аб’явіўся. Вырадак! Зараз я табе аб’яўлюся, зараз я табе выдам, спісяжу, знявечу, пастрыгу пад нуль, налыса,ператвару ў сябе, у такога ж няздару!

Добра, што прыдурак прынёс свой цуд мне. Ах, як жа я пастараюся, каб ніхто не даведаўся, не пачуў пра яго талент, пра гэтага недарэку – самародка праклятага. Ото ўжо пастараюся! Слова даю! Будзе табе, гад, і азярцо з лебедзямі, і дзяцінства без мамы, і радзіма любімая.

“На табе! Трымай!” – крэсліў, рэзаў, правіў, рагатаў...

Скончыў. Упацеў. Пераглядзеў. Пераканаўся: вычысціў як след. Падумаў: “Шарачок, гэткі ж, як я. Ну і добранька!”

## II

Галоўрэд прачытаў:

– “Мы з мамай улетку кожнага ранку любілі купацца ў возеры. Неяк раз мы напаткалі лебедзя. Павіталіся, а ён і кажа...”

Галоўрэд усміхнуўся:

– Можа, яшчэ спявае?

Вярнуўся да пачатку:

– “Улетку кожнага ранку...” Улетку, улетку... лішняе слова. Само сабою, не зімою ж яны паплаваць надумаліся... Лета – не зіма, зіма – не лета, вось і песенька мной спета... Так. Пайшлі далей...

– “Улетку кожнага ранку...” Гм, ясненька: кожнага ранку – дзірка ад абаранку... Рыфмачка. Амаль вініпухаўская. Ён хадзіў у госці таксама ранкамі. Весела. Адным словам, глупства, праехалі...

– “Любілі купацца ў возеры...” Добра. Купацца – не рыбу лавіць. І я люблю купацца ў возеры, і мая сакратарка, і ўся матуля Зямля. Але калі ўсе землякі-зямляне пачнуць пісаць, як яны любяць купацца ў возеры... Ага-а... Звар’яцець можна...

Так, што яшчэ тузанула? “Неяк раз...” Гм. Неяк раз, неяк два – ідзе кругам галава... Двойчы два – чатыры... Накрэмзаў у сарціры... Вершык. Нясмешны. Добранька... Едзем далей. Штосьці яшчэ па вушах сцебанула? А, вось яно... “Мы з мамай... мы напаткалі...” Мы, мы, мы... Суцэльнае мычанне-рыканне. Ясненька. Шэрасць. Суцэльная, бледная, як Божы дзень кітайца. Цікава, а ў арыгінале лебедзь таксама па-чалавечы гаварыў? Ану, зірнем...

Галоўрэд перачытаў без правак. Памаўчаў. Уздыхнуў. Вырвалася: “Ага-а”. Паклікаў сакратарку:

– На пэцканне рэдактара не зважай. Перадрукуй – і мне на стол!

Дачакаўся. Узяў рукапіс. Зачыніў дзверы: “Мяне няма!” Выключыў тэлефон. “Вось гэтак лепей”. Прачытаў. Пераканаўся: “Ага-а, талент. От шчанюк. Малайчына рэдактар, адразу ўсёк, што да чаго. Кожны абзац, сказ, слова – усё асвечана талентам. Рэзаць! Рэзаць бязлітасна! Усё!”

– Перадрукуй з праўкамі, – кінуў ён сакратарцы.

Праз паўгадзіны тая прынесла гатовы тэкст. Прабег вачыма. Ага-а. Загасілі гада! Раскусілі і замачылі. Цяпер не праскочыць! Не! Ніколі! Хоць – стоп! Хвіліначку! Ідыёт! А калі таленавіты вырадак скеміў і аддаў рукапіс яшчэ куды-небудзь? І там дзеля асалоды агрэюць мяне па носе, ухопяцца, надрукуюць? На біс выдадуць? Адбяруць знаходку? Украдуць? Прысвояць? Геній будзе выдадзены ў іх. Стане іхнім адкрыццём, іхняй перамогай. А ты сядзі суткамі, чмыхай-смаркайся, чытай усялякую лухту. Графаманію. Якія там геніі-адкрыцці...

Стоп, стоп, стоп. Ну ўжо не! Кукіш вам! Усім! Наце, з’ешце! Я першы выдам. Усіх абганю. Надрукую, услаўлю, пракрычу: “Талент! Аграмадны!” І хто заўважыў? Не ўпусціў, даў ход? Хто першы надрукаваў?! Хто адкрыў?! – Я! Хто ж яшчэ?! Я заўважыў, надрукаваў, адкрыў генія. Геній адкрыцця...

Добра! Пачакайце ж...

– У бліжэйшы нумар! – загадаў галоўрэд сакратарцы. – Паставіць першым! Буйна! З партрэтам. Вялікім. Велізарным. Хуценька! Усё!

Супакоіўшыся, падумаў: “Во гад, талент, геній, вырадак, ледзь не падставіў, свалата, ледзь у інфаркт не ўвагнаў. Ну, падлюга! Ну, геній!”

## ПАЦУК

Сядзеў сабе пацук і пісаў. Доўга пісаў. Год напінаўся, два соп, дваццаць гадоў уходаў, а толку – нуль, выніку пшык. Не адбыўся пераход колькасці ў якасць. Не пашанцавала па жыцці пацучку, не выйшаў рылам зубасты. Атрымлівалася нешта нязграбнае, цяжка засваяльнае, мудрагелістае, з прэтэнзіяй на элітарнасць, а па сутнасці – бязглуздае. Нейкі несусветны гібрыд няздары і нахабнага дылетанта, не пазбаўленага да таго ж і іншых генетычных хібаў. Сумесь тупаватага вожыка з шалёным сабакам. І стаў пацук думу яхідную думаць, пытанні сабе гамлетаўска-чарнышэўскія задаваць, як далей яму з такой гора-пісанінай жыць? Думаў пацучок-працаўнічок, думаў і прыдумаў. Праяснілася на імгненне яго маленькая пацучыная галоўка. І вырашыў ён пісаць... на тых, хто ўмеў пісаць. Паспрабаваў раз, другі. Ціха. Яшчэ паспрабаваў – зноў нуль увагі. Так, азіраючыся пацiху-памалу, як на кудлу падваротнага, нямытага, шакалістага, каб, не дай Бог, не ўкусіў-заразіў якім-небудзь паскудствам, аднак жа – не болей за тое. Не кінуўся ў роспач пацук. Падцягнуўся, напнуўся, глыбей у бруд нырнуў і... чарговы пасквіль напісаў-выдаў. І раптам – о, дзіва! Атрымалася! Пайшло-паехала. Брыдотка сочыцца. Палілася памыйнай ручаінкай, каналізацыйнай канаваю атрута. Вельмі здзівіўся пацук, як гэта так лёгка, ні з таго ні з сяго, пачалі ў яго пісацца артыкульчыкі розныя. Як хутка яны ў яго шрайбуюцца. Усім пацукам на зайздрасць.

І заўважылі шэрага. Не прайшлі галоўныя шэрыя міма таленту пацучынага. Прызначылі яго адказным па задзёўбванні тых, у каго атрымлівалася.

І пайшоў гваздаць пацучок-пацуковіч без разбору, несціхана і нястомна, ой пайшоў! Крэмзаў і крэмзаў. Дзень і ноч, ноч і дзень. Спачатку ўзяўся за самага слабенькага з тых, у каго атрымлівалася. Распісаў яго, раздзяўбаў па самыя вушы, такога даў чосу, што родная маці не пазнае. Пастараўся, ужо ж так пастараўся! Зрабіў усё, што ўмеў і мог. А мог і ўмеў ён, як выявілася, у сэнсе кагосьці абылгаць, змяшаць з памыямі, у рэшце рэшт зніштожыць – шмат што. Самы сапраўдны талент па знішташэнні ў яго абудзіўся. І пайшоў шэры таптацца па тых, каму пісалася. Адзін за адным знікалі тыя, у каго атрымлівалася. Раз артыкульчык – і няма самародка, яшчэ адна брыдотка – і другога разумніка няма. І з кожнай чарговай ахвярай усё лягчэй яму працавалася-даносілася. Але чым лягчэй давалася знішташэнне, тым меней станавілася яго любімай работы, пацвярджэння

патрэбнасці яго таленту, тым больш і часцей сумаваў ён ад безрабоцця. Хваляваўся, прадчуваў надыход чагосьці благога. І, нарэшце, дапяў ён да самага галоўнага з тых, у каго атрымлівалася. І наступіў яго вырашальны бой-забойства. Напяўся пацучышча з усіх сіл, як не лопне. У экстазе шакала, які ўхапіў ягня, ён ліквідаваў апошняга з магіканаў, згрыз яго вялікае сэрца. "Малайчына, пацучок, пацук, пацучышча, – пахваліў сам сябе. – Усіх звёў са свету. Вось у чым геній твой".

Толькі да аднаго не дадумаўся пацук, не разлічыў – самага галоўнага. Таго, што, знішчыўшы апошняга са здольных, ён назаўсёды пазбавіў сябе працы натхнёнай. Не стала каго зніштажаць, у зямлю ўтоптваць. А жыць інакш ён ужо не мог. І замкнёны атрымаўся круг. Пісаць-пляваццa хочацца, а – няма на каго. І разбухнуў ад такіх напруг-супярэчнасцяў пацук. Брыняў-пухнуў і лопнуў! Ух, які выбух-выбуховіч атрымаўся!

Смурод пасля выбуху стаяў страшэнны…

Ды ўсё мінаецца. І самы першы, самы слабенькі з тых, у каго атрымлівалася, не дабіты пацучком з прычыны ягонай пацучковай нявопытнасці, забыўчывасці і глупства, ажыў, ачуняў, агледзеўся, сеў за стол, узяў пяро і вывеў: "СЯДЗЕЎ САБЕ ПАЦУК І ПІСАЎ…"









# Янка Юхнавец

*…яшчэ напэўна будуць сцяжна мерыць*
*мае радкі і словы смутныя*
*часіны ночаў.*

Янка ЮХНАВЕЦ

# Вершы розных гадоў

***

…даўгая вуліца канчалася тапалямі разрослымі.
З выхаду ейнага на вуліцу наступную
цішыні ніколі не было.
Слалася ўсігамі размётнымі, шуглівымі
увосень
лісцінёй з тапаляў.
…людзі, вопраткай ахіненыя надзённай,
глядзеліся маладзёнамі.
Хадзілі па лісціне ступнямі.
Спыняліся, уменшаныя, каля сцвалоў
у гутарцы сходлівай мяшчанаў.
Гутарку сыходлівую не назавеш закончанай:
будзе пэўна заўтра. А можа не, як лісціня апалая,
што апынулася на астатку вуліцы да наступнай.
…даўгая вуліца, і не скончаная вуліцамі наступнымі.
Людзі на ёй сустрэчныя
(уменшаныя каля сцвалоў тапаляў)
будуць слухаць гутарку меснікаў на вуліцы
пра наступныя здарэнні дзён.

*1986*

***

…яшчэ напэўна будуць сцяжна мерыць
мае радкі і словы смутныя
часіны ночаў.
Бо не скажу, не ведаю, калі,





Янка ЮХНАВЕЦ

як кажную галінку шэраш,
прытулак ночаў вобразна асочыць.
…я не скажу, бо яшчэ не бачу
завязь першую праменняў дня.
А вам, я ведаю, як мне, так вельмі хочацца
цемру расшчапіць агнямі дня.
…ды толькі…
Яшчэ сцяжна будуць мерыць
мае радкі і словы смутныя
часіны ночаў.
Іх чорны стан у вогкім падзямеллі
і кажаны ніяк, ніяк там не размочаць.

*1986*

## КАЛЯ ВЁСАК ЗАБРОДАК І ВУСКРАМЯ

…я месцы гэтыя любіў.
…канава, выкапаная шырэй для лесаплаваў,
рэчкай стрыміла ў раку Бярэзіну.
У канаве плаваў у чаўне із дубу чэсанага,
здаецца, ракі Бярэзіны тайніцу адчальваў
ад лясных бярэжкаў –
густа заросныя –
ім гэткая Радзіма ёсць.
…нездарма раку Бярэзіну знайшлі арабы,
а можа, грэкі ўпершыню –
да Беларусі падплысці,
бы да абтоку, яшчэ не знойдзенага.
…на здзіўленне ім:
сам Беларус-Крывіч,
зямлю пазнаць бліжэй ягоную
каля вёскі Вускрамя
паказаў куды, адкуль, да той ракі вада цячэ.

***

...не вельмі рэдзьва-часта
сустракаюся з табой.
Адбываю пакаранні нейкія.
Магчыма, і прынамсі,
а можа, пластна –
слова гэткае бывае –
назваць цябе: Любоў мая!
...гуляюся з тваёй прыгожасцю –
вечна торыцца адбыванне:
Любоў ад твару погляду пачынаецца.
...камусьць убачыць і пачуць каханне да цябе –
іншае ў суседстве із самім сабой.
Дні мяняюцца спадзеўна:
ці буду выгнаны з твае любові?

## СЛОВА

1. ...слова, калі б ты было жывой істотай,
   або існасцю,
   ты было б самае пакутнае ў нашым свеце.
2. ...слова беларускае, ты жывеш адвеку,
   і кожную часіну болесць адчуваеш
   ад ворагаў тваіх.
3. ...ты ў смерці нікога не назавеш
   імем абыякавым!
4. ...слова, і словы беларускія
   ў сучаснасці азначанай,
   бы той скаберца чужаніцкі, –
   уласныя Айчыны ювеліры:
   прадаў і пайшоў.

*1998*



У нас
Янка Юхнавец

***

...бы крыж павалены на зямлю,
рукамі распластанымі ляжаў
салдат загінуты на полі бойкі.
Нябачны вецер, праз пальцы
траве ўпобач зроснай,
ціхотна прашаптаў, папярэдзіў:
– Хай будзе ціхата над ім.
– Лёс яго пакінуўся нябёсам.
...і Боская цішыня,
так, мабыць, Богу трэба,
замоўкла, аціпэла.

*1948*
*Мюнхен, Нямеччына.*

## СОН

...на мост я ўзышоў.
Пабудаваны быў камусьці.
Апарашчы ягоныя не азіраў –
моцы вады ля шпаль даверыў.
...мне перайсці яго хутчэй барздзіла,
бо жаль у кроках адчуваў:
святло Айчыннае насустрач
за мостам, камусьці збудаваным,
не сустрэну.

## УВОСЕНЬ КАЛЯ ВОЗЕРА

...У небе месяц, бы ліхтар падчэплены,
у возеры не патухаў,
зырклiва свяціўся.

Цішыня навокал
цішынёй прасілася пабыць.
Ды неспадзеўна
гук савы яе пакволіў,
і бабёр – вадзянік азёрны,
не сцярпеў
глум ночны,
злосна плаўнікам плёснуў па вадзе,
і хвалькі, пясочаны ўзбярэжныя,
зацмоквалі сёрбна.

*1990*

## “УЛІС”

*Сп.Максімюку, надзвычай цярплівому*
*перакладчыку з ангельскай у беларускую.*

“Уліс” усім знаёмым адчуваннем,
і таксама незнаёмым,
у днях апошняе нядзелі, а можа, і раней
смяхотна перабіраў у думках пра цябе,
што здарылася-запамяталася
жыццём зіхлівым, у прысед асвойтаны
у мроях незабароненых
убогаму чалавеку на сёння і на заўтра.
Ухопліва чытай: Уваражэнне – станьва чалавечая,
станьвай чалавечай назначыцца!

...дарогі з “Улісам” адзінотна памятныя былі,
разблытаны жыццём, а калі й не былі, яны заўсёды
яткамі пакідаліся
у днях адлічаных у згодзе з кожным.

...”Уліс”, ты мрояй штосьці натварыў,
што моляй-плесняй станецца ў вяках,
і можа ў беларускай мове.

...У часе падарожжа каля Князь-возера –
ёсць гэткае ў нас –
я знайшоў парожнія шкарлупіны.
“Уліс”, на іх табой была напісана заяўка
да злыдняў ці нязлыдняў нейкіх, —
ты прасіў:
камусь дазволіць нарадзіцца з Палесся,
менавіта, лепш з яйка вылупіцца.

## З ТЭМАЎ СТАРЫХ

...сажа ад смалякоў папаленых
усюды ў хаце-будане.
Там шкляныя шыбы сціплыя, вузенькія,
у вокнах ёсць, — напэўна скажа падарожнік, —
закапцелыя таксама сажай.
...з гліняных місак тхне,
на пень пастаўленых, бы стол у хаце,
кіслай водарасцяй –
капуста беларуская з грыбамі,
гасподняя спажыва, што знікае ўзімку хутка.
Прызвычаеная ў хаце радасць:
ядуць з ахвотай дзеці капусту кіслую,
і растуць іх сэрцы маладыя
у адмове прадчаснай смерці.
...а на дварэ ўжо вясна ўшчымленая –
ледзь прыгнечаная апошняй завірухай.
...Трэска на трэску на дрывотні лезе, —
жартуе бацька-селянін
і на будынак ад яго сялібы,
праз лес, не вельмі спатны зіркам,

пазірае часта.
Стуль запоры – жалезны скрыгат чуцен:
замкі іржавыя на варотах моцяць штодня,
і скрыкі распачлівыя ад людзей, не інакш,
не аднойчы чуюцца, адтуль.
...там узгорак сярод лесу дрэва-гмахамі ўрос
у глыбіню зямлі трымацца
камком адкругленым
пад зорнымі прасторамі.
...жахлівае, Божа, там творыцца!

*1992*







# Алена Брава

*На развітанне ты адкрыў масіўны сейф і з усмешкай прадэманстраваў прылады забойства. На маю далонь лёг важкі ствол, здаецца, “макараў”.*

Алена БРАВА

# БЯЗЛІТАСНЫ МОЙ ВОІН

*Аповесць*

## Пралог

Юры Юркевіч, лекар з аддзялення неўрозаў Рэспубліканскай клінічнай псіхіятрычнай бальніцы (скарочана – РКПБ; частковае супадзенне з вядомай абрэвіятурай уяўлялася яму сімвалічным) быў задаволены. Гэтай ноччу хворы Баранаў прысніў, як ён здабывае з дна мора залатую манету. Юркевіч лёгка знайшоў інтэрпрэтацыю сну: бушаванне марскіх хваляў – неўсвядомленая частка псіхікі, круглая рэч – класічны вобраз цэласнасці. “Пэўна, асоба пацыента пачала ўжо інтэгравацца вакол нейкага цэнтра, як гэта, урэшце, і павінна быць у здаровай псіхіцы”, – думаў ён, ідучы па бальнічным калідоры.

У ардынатарскай утульна пахла кавай. Дацэнт Смелякоў за сваім сталом хутка запаўняў гісторыю хваробы.

– Не падзяляю вашага аптымізму, – сказаў ён, выслухаўшы навіну. – Якая розніца, што ён прысніў? Я не стаў бы на вашым месцы грэбаваць медыкаментознай тэрапіяй дзеля даволі сумнеўных метадаў. Дарэчы, я ўсё хацеў запытацца: у чым сутнасць вашай мадэлі лячэння?

Юркевіч даўно чакаў гэтага пытання і адчуў лёгкае хваляванне, быццам на дзяржэкзамене.

– Вы, пэўна, ведаеце, Ігар Паўлавіч, што прыхаванае “Я” выяўляе сябе праз сімвалы. Яго феномены – сны, казкі, міфы. Вывучаючы сімволіку несвядомага, я прыйшоў да высновы: правільна падабраны ключ-сімвал дазваляе “адамкнуць” брамку





у мінулае чалавека і праз гэтае мінулае выйсці на тыя сілы, што ствараюць яго будучыню.

І таму, што Смелякоў пазіраў на яго неўразумела, Юркевіч працягваў з імпэтам:

– Як вы мяркуеце, чаму псіхіка сучаснага чалавека такая ўразлівая? Чаму XX стагоддзе прынесла небывалы рост неўрозаў? Парадаксальна, але ўсяму прычынай празмерны рацыяналізм, безрэлігійнасць. Матэрыялізм, па-мойму, – самы небяспечны род вар’яцтва. Нашы продкі жылі ў сімвалічным універсуме, боскім Космасе, сярод добрых і злых духаў, і сябе ўспрымалі толькі як частку ўсеагульнага цэлага. Сучасны чалавек адарваны ад каранёў, ён моцна пакутуе па страчаным адзінстве з Сусветам. Сімвал, міф здольныя звязаць раз’яднаныя часткі псіхікі, усталяваць раўнавагу паміж свядомасцю і несвядомым.

– Усё гэта прыгожыя словы, Юры Алегавіч, – загаварыў, нарэшце, Смелякоў. – Вы начыталіся Юнга. Я не філосаф, я клініцыст. І мой досвед пераконвае ў тым, што ўсё залежыць ад двух фактараў: спадчыннасці і ўмоў выхавання, ад генатыпу і фенатыпу. Псіхалогія – гэта матэматыка, дарагі калега, а не філасофія.

Юркевіч захадзіў па пакоі.

– Усё не так проста, Ігар Паўлавіч, – не адразу загаварыў ён. – Мы жывём у эру Вадалея. Менавіта цяпер мусіць адбыцца пераход ад схаластычнай псіхалогіі да псіхалогіі трансцэндэнтнай. Інакш мы так і будзем чапляцца за той мізэрны астравок індывідуальнага досведу, які называем знешняй рэальнасцю. Чалавечае “Я” шматаблічнае. У самым простым афекце можна адчуць – калі ўмець слухаць – рытмы старажытных містэрый.

– Патлумачце, – Смелякоў сашчапіў рукі на патыліцы.

– Калі ласка. Вы, як псіхіятр, не станеце пярэчыць, што ў глыбінях несвядомага хаваюцца нейкія аўтаномныя праграмы, якія могуць абапірацца на ўспаміны мінулага, а могуць і не мець непасрэднай сувязі з асабістым досведам. Калі адна з такіх праграмаў раптам актывізуецца, чалавек адчувае, што гэтая сітуацыя *даўным-даўно яму знаёмая.* Возьмем каханне, самую ірацыянальную з усіх чалавечых праяваў. Вядома, я маю на ўвазе не звычайнае заляцанне, а нейкі фатальны ўсплёск эмоцый. Быццам

Алена БРАВА

нешта настройвае нас на сустрэчу з пэўнай асобай іншага полу, нібыта ў нашым несвядомым ужо ўтрымліваецца яго ці яе правобраз. І калі такая сустрэча адбываецца, для псіхікі гэта – вялікае ўзрушэнне. У самім пачуцці нібыта адкрываецца нейкая метафізічная глыбіня, жыццё чалавека становіцца незвычайна напружаным, шчырым, але ў той жа час і больш непрадказальным. Сутыкненне з абсалютным, на жаль, часта заканчваецца разбурэннем псіхікі, смерцю. Ва ўсялякім выпадку, ясна адно: за парогам свядомасці ляжаць нейкія вечныя праформы, мы носім іх у сабе, самі гэтага не ведаючы.

– Але якую тэрапеўтычную каштоўнасць маюць вашыя пошукі? – спытаў Смелякоў.

Юркевіч наліў сабе кавы ў керамічны кубак.

– Я зразумеў: з гэтымі сіламі нельга змагацца брутальна, скажам, шляхам гіпнозу, кадзіравання, – адказаў ён. – Іх нельга знішчыць ці сцерці з псіхікі. З імі можна толькі "дамовіцца", прычым на іх уласнай мове. А гэта і ёсць мова сімвалаў. Спасцігаючы прыхаваны сэнс сімволікі сноў, прадчуванняў, незвычайных станаў псіхікі, я выходжу на тыя недаступныя нашаму пазнанню сутнасці, якія кіруюць паводзінамі чалавека з яго несвядомага. Навошта мне гэта? У псіхіцы вобразна адлюстравана мінулае і гэтаксама будучае. Валодаючы ключом-сімвалам, можна паспрабаваць мякка змяніць будучае пацыента, калі яно дрэннае. Праўда, гэта не заўсёды атрымліваецца. Часам я знаходжу ў самім чалавеку НЕШТА, якое актыўна перашкаджае вылячэнню.

– Значыць, вы спрабуеце "дамовіцца" з Эрасам і Бахусам? – іранічна спытаў Смелякоў. – Брава! Найчысцейшая герменеўтыка...[1] Урэшце, вы яшчэ малады, – дадаў ён, зноў паглыбляючыся ў гісторыю хваробы.

Юркевіч задуменна круціў у руках пусты кубак. Раптам Смелякоў паклаў ручку і выцягнуў са скрынкі стала сшытак у сіняй вокладцы.

– Дарэчы, Юры Пятровіч, вас, напэўна, зацікавіць вось

[1] **Герменеўтыка** (вытлумачальнае мастацтва) – традыцыя і спосабы вытлумачэння шматзначных тэкстаў (у большасці – старажытных), якія не паддаюцца ўдакладненню.







гэта. Як я разумею, дзённік адной маладой асобы. Санітарка знайшла, калі перасцілала ложак. Я прачытаў пару старонак, на большае няма ні часу, ні ахвоты, дый навошта – хворая тыдзень як выпісалася.

– Які дыягназ? – спытаў Юркевіч.

– Рэактыўная дэпрэсія, – падумаўшы, адказаў Смелякоў.

Юркевіч успомніў пра сіні сшытак толькі дома, гэта значыць у інтэрнаце аднаго з прафтэхвучылішчаў, дзе ён па дамоўленасці з адміністрацыяй займаў асобны пакой. Хворы, якому ён мусіў даць кансультацыю, чамусьці не прыйшоў у прызначаны час. Юркевіч крыху пачакаў, потым звaрыў сабе кавы. Адчыніў "дыпламат" у пошуках цыгарэтаў. На вочы трапіў той сшытак. Уключыўшы настольную лямпу, ён пачаў чытаць.

***

"Пра цябе я ўпершыню даведалася ад Верабейчыка. Такую мянушку мы далі загадчыку аддзела крымінальнай інфармацыі па прозвішчы Вераб'ёў за ягоную невынішчальную звычку ў размове выкарыстоўваць не да месца памяншальна-ласкальныя суфіксы. Самы пагрозлівы факт у яго вуснах ператвараўся ў бяскрыўдны "факцік", нібыта губляючы сваю вагу і значэнне. Дый сам Верабейчык быў шэранькі, валаскі — як пярынкі.

"Тут сюжэцік ёсць, – пачаў ён, перахапіўшы мяне ў рэдакцыйным калідоры. – Адзін талковы опер вылічыў на пад'язных пуцях фабрыкі мяккіх цацак вагончыкі з кантрабандным алюмініем. Начальнік збыту ўжо арыштаваны, на арышт дырэктара будуць прасіць згоды сесіі гарсавета. Ну што, возьмешся? Дэтэктыўчык цікавенькі атрымаецца".

"Як прозвішча аператыўніка?" – удакладніла я.

...Горад мусіць ведаць сваіх герояў. Да таго ж тэма сапраўды выйгрышная. Цяпер журналісты робяць грошы і славу на крымінале, як калісьці – на нарысах аб перадавіках вытворчасці. Акрамя сваёй газеты, я падзарабляла яшчэ ў некалькіх сталічных выданнях. "Дэтэктыўчыкі" – тавар ходкі, а матэрыялу – хоць адбаўляй: крымінальны патэнцыял нашага горада сапраўды невычарпальны.

Патэлефанавала табе ў той жа дзень. На хуткую сустрэчу я, вядома, не разлічвала. Проста хацела пераканацца, што выданні канкурэнтаў мяне не апярэдзілі. Смутны наш час вызначыўся не толькі крымінальным, але і інфармацыйным выбухам. На дзвярах ледзь не кожнага паўпадвала, дзе раней бялізну прымалі ў мыццё, красуецца зараз шыльда "рэдакцыя газеты". З гэтае прычыны журналісту даводзіцца прыкладаць пэўныя намаганні, каб першаму давесці да чытача найсвяжэйшую навіну.

Памятаю: мяне адразу ж уразіў твой голас. Замест сухога казённага "следства толькі пачата, перазваніце праз тыдзень" я пачула жывы голас, які вібрыраваў інтанацыямі. Утаймаваная маладая энергія. Мірны атам. Нічога асаблівага не было сказана, але я адчула сябе саўдзельніцай граху.

Ад бацькоў мы атрымліваем у спадчыну хімію душы і крыві, толькі голас абсалютна непаўторны. Магчыма, у большай ступені, чым рысы твару і характару, ён выяўляе наша індывідуальнае "Я". Аб чым хоча паведаміць прырода, надзяляючы чалавека такім голасам? Ведаў пра гэта хіба што адзін славуты мараплаўца, дый тое толькі дзякуючы моцным канатам і надзейным спадарожнікам. У той момант я пазайздросціла Адысею, прывязанаму да мачты карабля.

Інтэрв'ю было прызначана на паслязаўтра. Аднак сустрэліся мы раней – на сесіі гарадскога саўдэпа. Там, як звычайна, кагосьці выкрывалі – на гэты раз дэпутата К., які заснаваў фонд з гучнай назвай "Шчыт" быццам бы дзеля барацьбы са злачыннасцю, а калі яму ахвяравалі на тую высакародную справу шмат грошай, ліха пусціў іх у абарот, папоўніўшы бюджэт – зразумела, не гарадскі. Падобныя падзеі даўно перасталі быць навіной для першай паласы. Знемагаючы ад нуды, я малявала ў блакноце крыжыкі і стрэлкі. Калі пагартаць мае журналісцкія блакноты, можна ўпэўніцца: чым мацней разгараюцца спрэчкі, тым больш ваяўніча тапырацца паверх беглых запісаў калючкі, рыскі, спіралькі. Зараснікі слоў, якія джаляць. Мова прамых асацыяцый.

У зале раптам стала ціха. Усе слухалі пракурора, які дакладваў аб алюмініі ў вагонах і прасіў у дэпутатаў дазволу на арышт іх калегі па народнаму мандату – дырэктара фабрыкі мяккіх






цацак. Пасля выступлення вартавога закону спрэчкі закіпелі зноў. Удакладніць абставіны справы пракурор папрасіў цябе.

Тваё месца аказалася на галёрцы. І пакуль ты, узняўшыся, спакойна адказваў на пытанні, уся зала глядзела на цябе знізу ўверх. Як на Бога. А я – я не магла адвесці ад цябе пагляду! Колькі ні бачыла потым, ні разу не наглядзелася дасыта. Мая сяброўка Валька Клімава кажа, што ў гэтым – маё шчасце. У яе дзесяцігадовы вопыт шлюбу па любові.

Сесія скончылася, усе пацягнуліся да выхаду. Ля стала прэзідыума народ тармазіў і мяўся, працягваючы лаяцца. Мяне аточваў натоўп, а я стаяла і глядзела, як ты спускаешся ўніз па лесвіцы. На мне, калі памятаеш, была ярка-чырвоная сукенка. Пасля таго, як ты з'ехаў, я больш яе не апранала, а нядаўна аддала суседскай дзяўчынцы. Я палала сярод шэрых касцюмаў, як вогнішча на асфальце. І ўсе мужчынскія пагляды скіроўваліся на мяне. У такой сукенцы ты проста не мог мяне не заўважыць.

Ты падышоў. Мы апынуліся быццам у іншым вымярэнні. Вакол хадзілі, штурхаліся, размаўлялі людзі, а мы былі ў зоне абсалютнай цішыні. Аглушальнага маўчання. Пустыня. Касмічны скразняк. І толькі мы ўдваіх. Як першыя людзі пасля патопу. Дзеці Ноя, якія гуляюць на вільготнай яшчэ зямлі невынішчальным насеннем будучых катастроф.

Безумоўна, гэта было *пазнаванне*. Я думаю, у адным з ранейшых жыццяў ты быў маім каханым. І цябе ў мяне адабралі. А магчыма, ты сам пакінуў мяне, як Эней – Дыдону, і пайшоў заваёўваць свет. І я ператварылася ў засмучаную маладую жанчыну з шэрым, як папялішча, тварам і доўгімі сівымі валасамі. І шмат пустых жыццяў блукала па Зямлі, цябе шукала. І вось, нарэшце, знайшла.

Мае скроні зусім сівыя. А мне ж толькі дваццаць сем, бязлітасны мой воін. Пазней ты казаў, што таксама *пазнаў* мяне з першай хвіліны. Няхай будзе так.

"Гэта я вам тэлефанавала".

"Вельмі прыемна. Чакаю вас, як і дамовіліся".

Накіроўваючыся да знаёмага двухпавярховага будынку, я прыкметна хвалявалася. Не, закадзіраванага ў калектыўнай

падсвядомасці цэлых пакаленняў страху перад "органамі" я не адчувала: ад бацькі, падпалкоўніка міліцыі, мне генетычна перадалася павага да Сістэмы. А што да страху... Я б і смерці не спалохалася, уздумай яна з'явіцца ў тваім аблічча, паклікаць тваім голасам.

Маё паліто ў шафе бессаромна прыціскаецца да тваёй скуранкі. Ва ўсе вочы разглядваю кабінет. Два сталы стаяць упрытык. Тэлефон. Унушальных памераў сейф. Адзіны раз была тады ў тваім кабінеце, хоць потым бывала – часта. Але толькі ў той дзень я не страціла яшчэ здольнасці да ўсебаковага і поўнага ўсведамлення рэчаіснасці. Потым прыбягала ўжо невідушчаю на дэталі. У кахання свае вочы, гарачкавыя, свая выбіральная ўвага.

Твой сусед па кабінеце далікатна выйшаў, пакінуўшы нас сам-насам. Ты наліваеш мне гарбату – роўна паўкубка.

"Адзін мой сябра, родам з Сярэдняй Азіі, ніколі не падасць госцю адразу поўны кубак. На Усходзе гэтым можна чалавека пакрыўдзіць. Дарагому госцю прынята напаўняць кубак паступова, на працягу гутаркі".

Ветлівы. Дружалюбны. Усмешка адкрытая, прыгожыя зубы. Падбародак валявы, а лінія роту – мяккая, дзіцячая. Вочы вясёлыя і цынічныя – разбойніцкія, з розуму звядуць – не маргнуць.

Ці не памыліўся фармацэўт року, разбіраючы напісанае ў цябе на раду мудрагелістай вяззю крыві, ці не перадазіраваў іскрыстага бальзаму спакусы? Бо ты ўвесь – спакуса. І, нібыта ведаючы пра гэта, нікольк не клапоцішся аб тым, каб зачароўваць. Ахвяра сама падае да тваіх ног. І вінаваціць ёй няма каго. Толькі адсутнасць намаганняў дзеля спакушэння прыводзіць да поспеху. Але гэта я зразумела пазней.

"Пра што вы хацелі мяне спытаць?"

Задаю пытанні. Гарбата выпіта, ты падліваеш гарачую – паўкубка. Значыць, яшчэ не праганяеш. Дыктафон круціць стужку, як потым высветлілася, дарэмна. Не запісалася ані гуку. Напэўна, механізм не спрацаваў. А можа, мой дыктафон, трапіўшы ў тваё біяполе, быў, як і я, паражоны ў самы цэнтр мовы. Першым сімптомам кахання аказалася немата.

На глыбінным узроўні ў мяне, як у суфійскіх містыкаў у час медытацыі, пануе цішыня, а на паверхневым – я-не-я падтрымліваю афіцыйную гутарку. На тваім безыменным пальцы паблісквае вузенькі абадок. Знаёмячыся з мужчынам, у думках заўсёды правяраю: на правай ці на левай? З юнацтва засвоены аўтаматызм звычкі. З табой не правярала: правая падразумявалася. Ці магло быць інакш?

На развітанне ты адкрыў масіўны сейф і з усмешкай прадэманстраваў прылады забойства. На маю далонь лёг важкі ствол, здаецца, "макараў". Сам таго не ведаючы, ты выцягнуў з запаветных нетраў забыты сімвал майго дзяцінства. Зброя мяне зачароўвае, як удаў – зайчанё, дый падобная яна, на маю думку, на змяю, што скруцілася ў клубок. Відавочна, псіхааналітык угледзеў бы тут падсвядомую сувязь з бацькоўскім пісталетам, які даваўся трохгадоваму дзіцяці ў выключных выпадках, калі нічым іншым нельга было суцішыць. Атрымаўшы ў рукі баявую зброю (цацкай, якую купілі пазней, падмануць не ўдалося), малое імгненна супакойвалася. Чаму? Бог ведае. Чалавек абмежаваны сабой толькі на паверхні, а ў цёмнай сваёй глыбіні ён старажытная і загадкавая істота. Мы не ведаем, хто мы ёсць, і яшчэ менш – на што мы здатныя. Але душа, у адрозненне ад свядомага розуму, памятае ўсё і чуйна рэагуе на знакі.

Але ж псіхааналітыкаў няма ў маёй айчыне, а вось ты – адчуў. І – закляў. Дзіўна, але і потым, бываючы ў мяне, ты заўсёды прыносіў з сабой зброю, ахвотна дазваляў патрымаць у руках, – так дзіцяці даюць цацку.

Нагуляўся, а потым – забіў.

Нядаўна мне прысніўся сон пра цябе. Бываюць такія сны, рэальнейшыя за рэальнасць. Мы часта існуем у сваім жыцці, не прачынаючыся, і толькі ў сне абуджаемся і становімся ТЫМІ, ХТО МЫ ЁСЦЬ. Сон – ява. Ява – сон. Цудоўны маятнік, прадугледжаны прыродай дзеля таго, каб мы не звар'яцелі ад штодзённай непазбежнай хлусні.

Мне прысніўся дом, дзе я нарадзілася, з якога ў пяць гадоў ад нараджэння была гвалтоўна вывезена і змешчана ў ячэйку безаблічнай пяціпавярхоўкі. Не ведаю, як іншыя падарожнікі па

Часе і Прасторы, а мая душа, перш чым выбраць сабе бацьку і маці, выбрала менавіта гэты дом на былой вуліцы Зарэчнай, перайменаванай зараз у вуліцу нейкага савецкага генерала. Там у двары расла незвычайна густая ізумрудная трава, у якой я гадзінамі ляжала з кніжкай (чытаць пачала з чатырох год). Там ляніва пабразгваў ланцугом неверагодных памераў сабака з дзіўнай мянушкай Піта (“Піта-Піта, морда біта”, – крычалі з-за штыкетніку суседскія хлопцы, і пачвара заходзілася брэхам). Туды я, застаўшыся без догляду, імгненна ўцякала з добраўпарадкаванай хатняй турмы. І маці, узброіўшыся па дарозе гнуткім прутом (ах, як пяклі потым “размаляваныя” ім рукі і ногі!), нязменна знаходзіла мяне ў садзе каля дома.

У памяці паўстае карціна. Дзед, ласкава папракаючы мяне за чарговыя ўцёкі, збівае доўгім шастом яблыкі з галінаў. Да канца шаста прымацавана бляшанка з-пад кансерваў – наіўнае прыстасаванне, зробленае дзедам дзеля збору пладоў, што растуць надта высока. Але яблыкі не робяць паблажкі дзеду: пэўна, іх гонар прыніжае іржавая бляшанка. Яблыкі падаюць долу. Я ўзрадавана падхопліваю іх – спелыя, залацістыя, упіваюся зубамі ў халаднаваты бок. “Я ўбіраў у сябе поўнае водару жыццё і надкусваў ужо спелы плод цудоўнага свету, з хваляваннем адчуваючы, як яго салодкі і густы сок цячэ па маіх вуснах...” Як я любіла потым гэтае месца ў Камю!

Але я адхілілася. У двор нашага дома плаўна, нібыта ў запаволеным кіно, уваходзіць сівы згорблены стары. Гэта ўсё ж такі ты, памыліцца немагчыма, у любым абліччы я пазнаю цябе па залатым свячэнні, якім маё каханне самое паветра вакол цябе выткала.

“Я нікому не патрэбны”, – жалішся ты смарагдавай траве, ганарлівай яблыні, падслепаватым вокнам веранды. Я, імгненна перапоўніўшыся тваім болем, гатовая кінуцца да цябе і свавольна – у сне ўсё дазволена! – абняць, спавіць, ахутаць маёй пяшчотай, не звяртаючы ўвагі на нязменную тваю халаднаватую стрыманасць, замкнёнасць скалы і яе ж, скалы, стромкасць, якая не дае мне ані найменшага шанцу адшукаць выступ, каб я, гнуткі і ўчэпісты плюшч, магла за яго ўхапіцца, пусціць карані, прарасці ў цябе.







Нарэшце мне будзе дазволена служыць табе вярней, чым Піта – дзеду, і, можа, як тая Піта, быць зрэдку пабітаю, каб потым з сабачай усмешкай адданасці падпаўзаць да тваіх ног і зазіраць у вочы, пакуль не даруеш. Нарэшце я буду даглядаць цябе, калі захварэеш, і ўвечары гуляць з табой у садзе. І яблыні, сплятаючыся галінамі, будуць губляць залатыя і ружовыя шары. Як маленькія таямнічыя планеты, яны будуць кружыцца вакол нас. Пякучае золата. Салодкая пунсовасць. Сон – ява. Ява – сон...

І вось, у сне, як і наяве, добра ўсведамляючы тваю непадатлівасць, я парушаю – на жаль, толькі ў сне! – усталяваныя табой законы і з абсалютызмам мацярынскай улады, аднаасобнай, бязмежнай, якая ведаць нічога не жадае аб забаронах, цягнуся абняць цябе, усё яшчэ напружанага, з вечным тваім страхам ува мне раствaрыцца... Але – о жах! – у сне я, нібыта скамянеўшы, не магу паварушыць ні рукой, ні нагой. Тады я крычу:

“Ты мне патрэбны!” – і з гэтым крыкам прачынаюся.

Цікае гадзіннік на тумбачцы. Мой твар мокры ад слёз. Жоўты надкусаны яблык вісіць за акном і не падае.

Ты прыехаў у рэдакцыю завізаваць інтэрв’ю перад публікацыяй. Ты чытаеш, а я, нібыта зачараваная, гляджу на твае запясці – тонкія светлыя палоскі над карычневай скурай курткі. Мне хочацца вуснамі дакрануцца да цёплай тваёй скуры. Што я мушу зрабіць, каб гэтыя цудоўныя рукі калі-небудзь прыгалубілі мяне?

Я запрашаю цябе на кубачак гарбаты. Чаяпіцце адбываецца ў зацішным кутку рэдакцыйнай фоталабараторыі, дзе аднекуль з нябёсаў звісаюць шэрыя стужкі праяўленых плёнак, нагадваючы дождж на дзіцячых малюнках. Ты расказваеш аб службе і на маё правакацыйнае пытанне аджартоўваешся:

“Аператыўніку нельга ўлюбляцца. Без цвярозага розуму ніводнае злачынства не раскрыеш”.

“Алюмініевую” справу ты раскруціў бліскуча. Былі арыштаваныя дырэктар і начальнік збыту фабрыкі цацак. Па іх словах, алюміній быў набыты па бартэры ў Краснаярску армянамі

– заснавальнікамі ТАА "Ікс-2". Гэты ікс пранік на фабрыку, як вірус пранікае ў аслаблены арганізм. Апошнім часам фабрыка ўгразла ў даўгах за газ і электраэнергію, мела запазычанасць перад бюджэтам. Армяне ўзяліся наладзіць збыт цацак у суседнюю дзяржаву. Разлічвацца абяцалі не бартэрам, а звонкай манетай. І, як кажуць, працэс пайшоў. Склад, яшчэ нядаўна перапоўнены пушыстымі зайцамі ды мядзведзямі, апусцеў. Грошы спраўна цяклі на разліковы рахунак.

Вагоны з алюмініем на пад'язных пуцях фабрыкі з'явіліся нечакана. Партнёры-армяне растлумачылі здзіўленай адміністрацыі, што адна нямецкая фірма гатова адваліць вялікі куш за алюміній. Вось толькі трэба знайсці спосаб хуценька перапраавіць змесціва вагонаў на Захад. Аб ліцэнзіі на вываз металу з Беларусі прадбачлівыя ўраджэнцы поўдня чамусьці не падумалі. Дый навошта? Можна ж перапламбіраваць вагоны пячаткай фабрыкі, сфабрыкаваць ліпавыя накладныя і... І кантрабандны ручаёк з вясёлым плюскатаннем пацёк бы на Захад, калі б не ты.

Аб усім гэтым я расказала ў матэрыяле, які пераможна прайшоў па старонках газет. Ты стаў знакаміты. Ці не мною, па маім шчырым жаданні цябе праславіць, ці не мною ў тым ліку масціўся твой шлях наверх? Ці не тады начальніцкая рука намалявала насупраць твайго прозвішча пералётную "птушачку"?

Я так і бачу гэтую руку, што ўпэўнена трымае ў дагледжаных пальцах залатое пяро лёсу. Чорнае чарніла. Белая папера. Бяздушна-шахматная зададзенасць перастановак. Цябе проста перамясцілі на адну клетачку. Узнятых у горы рук шахматнай каралевы ніхто не заўважае.

Памятаю тваю нізка схіленую галаву, дзіцячы рот. Ты сядзіш на краі тахты, а я на падлозе, ля тваіх ног, і ўсё гладжу твае валасы, рукі, быццам бы метадычнасцю жэсту спрабую прагнаць сіроцтва, што павольна ўпаўзае ў пакой. Раскіданыя рэчы бездапаможна ўціснуліся ў крэсла. Мой кот, не мігаючы, глядзіць на нас дзвюма старажытнымі бурштынавымі кроплямі з сусветным спакоем і ўсёведаннем Буды. А ты – ты ўжо не тут. Не са мной...

Добра ведаю тое абвостранае пачуццё справядлівасці, якое жывіць тваю нянавісць да ўсялякіх "алюмініевых" дзялкоў.






Нянавісць – гэта тая ж любоў, толькі са зваротным знакам. Жыццёвая прана любові абавязкова павінна мець канал для выхаду, інакш адбудзецца ўнутранае самаўзгаранне. Чалавек задуманы як калодзеж – дзеля таго, каб аддаваць. Калі мы не аддаём сваю энергію, пачынаем хварэць і гінем.

Ты аддаеш сваю энергію Сістэме. Яна стаіць на тваіх плячах. Ты, як Атлант, трымаеш яе жалезабетонны фундамент. І сам ператвараешся ў апорную канструкцыю. Сістэма забірае твае сокі, маладосць, сілы. Тваю душу і ўрэшце – жыццё. А што ўзамен? Клетка. На шахматнай дошцы.

Але гэта ты зразумееш пазней.

Адвячоркам зайшла Валька Клімава. Мы п'ём на кухні гарэлку "Сталічная", палім цыгарэты і слухаем песні. "Плачу снова, слышишь, о тебе, любимый, пла-а-ачу..." Падпяваем і таксама плачам. З тае пары, як у маё жыццё прыйшло Каханне, я ўпала ў стан нейкай бязмежнай пяшчоты. Мне ўсіх хочацца шкадаваць – добрых і злых, багатых і бедных, здаровых і хворых. Людзей і жывёл. Валька плача таму, што яе сямейнае жыццё не ладзіцца, Клімаў п'е, чапляецца да яе без прычыны і зневажае.

"А можа, ён няшчасны? – выказваю здагадку я. – Адчувае, што ты яго разлюбіла, і п'янствам помсціць табе за гэта?"

П'янага Валодзьку Клімава мне таксама шкада. У апафеозе няшчаснага кахання ён здаецца рамантычным.

"Проста ён – маральны садыст, – рэзюмуе Валька. І ўздыхае з зайздрасцю: – Добра табе. Ты – адна..."

"Пусть удачу, мои слезы принесут тебе удачу", – заклінае спявачка. Прыбіраю са стала посуд і не разумею, як гэта слёзы могуць прынесці каму-небудзь удачу. У дзяцінстве я многа і часта плакала, асабліва пасля таго, як бацька сышоў ад нас, а маці, касірка прамтаварнай крамы, прывяла ў дом укормленага румянашчокага дзецюка, на пяць гадоў маладзейшага за яе, з нізкім ілбом і маленькімі, як у парасяці, чырванаватымі вочкамі. Ён служыў наглядчыкам "на зоне" – у калоніі ўзмоцненага рэжыму, што знаходзілася побач з нашым горадам, і, пэўна, не паспяваў дарэшты рэалізаваць на працы свае садысцкія памкненні.

Яго прыземленасць прагнула новага аб'екта для здзекавання, і такім аб'ектам, прычым абсалютна безабаронным, аказалася я. Не, ён ні разу не ўдарыў мяне, але пастаянна зневажаў і рабіў брыдкасці цішком з нейкай дробязнай, уласцівай яго ўзроўню развіцця гнюснасцю. Асаблівае раздражненне выклікала ў яго ўсё звязанае з бацькам.

Аднойчы я прынесла з дзедавага саду цыбуліны белых лілей і пасадзіла ў вазоны на падвоканні. Як я радавалася, што расліны прыжыліся і выпусцілі востранькія зялёныя стрэлкі! Неяк, вярнуўшыся са школы, я знайшла вазоны пустымі, а кветкі – парванымі на дробныя кавалачкі. Гэтая паталагічная жывёльная злосць уразіла мяне. Я нічога не сказала маці, дый гэта было б дарэмна, бо яна, як кажуць, глядзела ў рот сужыцелю. А калі нарадзіліся румянашчокія двайняты, мае браты, усё, што я чула ад яе, было: "падай", "прынясі", "прыбяры".

Адзіным месцам, дзе я адагравалася душой, быў наш сад на вуліцы Зарэчнай. Я вельмі сумавала па бацьку, якога калі-нікалі бачыла там: ён прыбудаваў да дзедавай хаты трысцен, дзе пасяліўся з новаю сям'ёй. Школьніцай я наведвала сад дзеля сустрэч з ім, але бацька быў скупы на словы і ніколі не прыгалубіў мяне. Але і гэтыя пазбаўленыя эмоцый стасункі былі мне ў радасць. Дома я плакала, успамінаючы бацькаў твар, у марах абдымала і цалавала яго. Выказаць яму свае пачуцці ў рэчаіснасці я так і не адважылася. Затое пачала пісаць вершы. Атрымлівалася ў такім стылі:

*Ні радзімы, ні грамадзянства*
*Не хачу без цябе, каханы.*
*Ты маё жыццё, калі ласка,*
*Прыкладзі да балючай раны.*

Я веру ў тое, што душа чалавека яшчэ да яго цялеснага ўвасаблення сама выбірае сабе бацькоў і ўмовы нараджэння. Ты спытаеш: навошта ж яна выбірае *такіх* бацькоў і *такія* ўмовы? Цяпер я схільная да меркавання, што Дух унутры нас робіць гэта з мэтай прайсці, нягледзячы на ўрон для знешняга існавання, праз нейкі Яму неабходны досвед, які толькі ў такіх умовах і











можа ажыццявіцца. У маім выпадку, відавочна, гэта быў пераважна досвед болю. Дзеля чаго? Гэтага я не ведаю, але, магчыма, даведаюся калі-небудзь.

"Не страсть, а боль определяет пол", – прачытала я пазней у Бродскага. Боль, паспытаны ў дзяцінстве, прывучае душу пакутаваць, робіць яе выбіральна ўспрымальнай: замест радасці і шчасця яе вабяць сум і туга. Можа, таму я і пакахала цябе? З першай сустрэчы я адчула: ты можаш прычыніць мне толькі боль.

Хіба не гэтага я і хацела?

Мой дом стаіць на перасячэнні дзвюх вуліц і нібыта глядзіцца ў люстэрка: насупраць, па іншы бок дарогі, узвышаецца такая ж блочная пяціпавярхоўка. Бягу цераз скрыжаванне да аўтобуснага прыпынку, што побач з аптэкай, і бачу... цябе. Узнікаеш з-пад аркі дома-адбітку. Я анітрохі не здзіўляюся, бо даўно заўважыла, што думка – асаблівы від матэрыяльнасці. Думаючы пра цябе пастаянна, я ўцягваю цябе ў сваю жыццёвую прастору. А можа, ты і ёсць усяго толькі мой уласны адбітак?

Ты здалёк усміхаешся і падыходзіш да мяне.

"Прыемная нечаканасць. Не ведаў, што вы тут жывяце. Аказваецца, мы суседзі".

"Я рада", – адказваю я.

Мой пад'езд – першы. Вокны кватэры ўтаропіліся ў скрыжаванне. Лёгка знайшла сабе назіральны пост. Вылічыла час, калі ты ідзеш на працу, калі-нікалі – на абед, потым зноў – на працу.

Прыпасці тварам да аконнага шкла. Замерці ў чаканні (вось гэтак жа, прыхінуўшыся шчакой да шурпатай кары яблыні, я выглядала калісьці постаць бацькі). Твой выхад з-пад аркі азнаменаваны раднымі штуршкамі сэрца. Маё сэрца не змяшчаецца ў грудзях. А ты праходзіш каля аптэкі, каля жоўтага, блакітнага і чырвонага камерцыйных кіёскаў. Спыняешся ля светлафора. Я малюся аб тым, каб над табой ззяла чырвонае яго вока. Тады можна паспець, зачыніўшы з трэскам дзверы, збегчы па лесвіцы і, задыхаючыся ад сэрцабіцця, роблена-нетаропкай хадой выйсці табе насустрач.

Калі гарыць залёнае – не паспець. Я спрабавала.

Мы абменьваемся некалькімі фразамі ці проста вітаемся. І ідзём далей: ты – у сваё жыццё, я – куды б ні ішла – да цябе. Аддаляючыся ад скрыжавання, раблю бяссэнсавы віток жыцця, каб зноў сюды вярнуцца.

О, НАША скрыжаванне! Крыжаванка лёсу, разгаданая з пачатковых знакаў. Невыпадкова мы жывём адно насупраць аднаго. Акно ў акно, як вока ў вока. З двух дуэлянтаў нехта абавязкова – смяротнік. Калі ты з'ехаў, гэтая крыжаванка памяццю ператворана была ў крыж (ці не яго ўбачыла на маёй далоні хірамантка, якая гадала мне год таму ў цягніку?). Колькі разоў падкошваліся ногі і цямнела ў вачах, калі з-пад аркі паказвалася каржакаватая постаць у скуранцы... Пад сэрца востра ўваходзіць іголка, абрываецца дыханне... Не, не ты.

Аднойчы я сапраўды страціла прытомнасць на скрыжаванні. Апынулася ў неўралагічным аддзяленні бальніцы. Дагэтуль, калі даводзіцца пераходзіць тут вуліцу, не асмельваюся ўзняць вачэй. А калі ўсё ж зірну туды, дзе ты стаяў пад святлафорам, мне бачыцца легіянер, які з белазубай усмешкай працягвае на вастрыі дзіды губку з воцатам. І зноў уваскрашэнне аказваецца падманам, і не высыхае воцат на губах.

Што ж, і ў ката можа быць абаяльная ўсмешка.

Няўмольная памяць захавала столькі разоў бачанае: шырокім крокам, схаваўшы рукі ў кішэнях карычневай скуранкі, трохі нахіліўшыся ўсім корпусам наперад, ты ідзеш цераз скрыжаванне.

Ідзеш праз маё жыццё, не азіраючыся.

Ужо які месяц мы сустракаемся і разыходзімся на скрыжаванні. Я даўно страчваю цярпенне. Мне ж цяжэй, чым табе. Гэта мне мерзнуць на марозе ў танюткіх, як павуцінне, калготках, прапускаючы аўтобусы і выглядаючы цябе. Гэта мне дзяжурыць ля акна, а цябе ўсё няма і няма – яшчэ адзін пусты дзень! Гэта мне абміраць, ледзь не трацячы прытомнасць, калі з-пад аркі ты з'яўляешся не адзін: пад руку з табой ідзе жанчына ў шэрым паліто, шэрай футравай шапцы і, як мне здаецца, з такім жа шэрым тварам. Шэрая жанчына. Дзіўная рэч – каханне: увесь






свет яно размалёўвае ў веснавыя яркія колеры і толькі адзін твар – твар суперніцы – неадменна ў шэры.

Ты спакойны. Ты нібыта не заўважаеш маіх манеўраў (ці сапраўды не заўважаў?). Падсвядома я правакую цябе на выказванне эмоцый, хаця б адмоўных. Але на ўсе мае з'едлівыя кпіны ты толькі шырока ўсміхаешся:

"Адкуль у такой маленькай жанчыны столькі сарказму? Схавайце вашыя калючкі, яны вам не пасуюць".

У такія хвіліны мне здаецца, што ты проста смяешся з мяне.

Але як толькі я знікаю на тыдзень-другі, захварэўшы альбо пачаўшы хадзіць па іншай дарозе (часам я спрабавала ўзяць руль лёсу ў свае рукі ды "забыць", "выкінуць з галавы"), як ты перахопліваеш мяне ля пад'езда:

"Пачакайце! Чаму вы мяне пазбягаеце?"

І ўсё пачынаецца спачатку: сустрэчы, кпіны, паўпрызнанні-паўнасмешкі. Маё незапатрабаванае каханне, як пераношаны плод, знемагае без паветра і святла, штурхаецца падужэлымі ножкамі і патрабуе свайго зямнога ажыццяўлення.

...Сёння восьмага сакавіка. Бачу ў акно кабінета, як пад'ехаў міліцэйскі "уазік". Сэрца б'ецца ўжо недзе каля горла. Два дні таму я залішне злосна размаўляла з табой. "Чаму Ваша эксцэленцыя не патэлефанавала мне?" Ах, трэба было стрымацца.

Ты ўжо ўвайшоў, як гаспадар. Як уваходзіш усюды і заўсёды. Перабіраеш на маім стале фотаздымкі, жартоўна віншуеш са святам. Мой салавей-разбойнік.

Афіцыйным тонам кажу, гледзячы ў акно:

"Прабачце. Я не мела права так з вамі размаўляць".

Ты ўсміхаешся ніколькі не пакрыўджана:

"Пэўна, заслужыў. А ўсё роўна ў кожным вашым воку – па вожыку. Ну-тка, зірніце на мяне".

Узнімаю на цябе зацкаваны позірк падранка. І фізічна адчуваю, як штосьці зварухнулася ў табе. Ты, мой цвёрдакаменны, вымаўляеш нешта неверагоднае:

"Вы цудоўная жанчына. Зайздрошчу таму, хто будзе з вамі сёння ў святочны вечар".

Не даўшы мне апамятацца, абдымаеш, цалуеш.

Гэтае імгненне пакінула ў маёй памяці святло, падобнае да святла зоркі. Самой яе даўно няма, а прамяні ўсё ідуць.

Праз тыдзень зноў пачынаецца сілавая барацьба. Ты нібыта наважаны ўзяць рэванш за хвіліну слабасці. Я сяджу ў кабінеце суддзі, прыязнай жанчыны сарака гадоў, і знаёмлюся з іскавай заявай. На мяне падалі ў суд прадстаўнікі адной з палітычных груповак – за тое, што я ў газетным артыкуле назвала іх "дэмакратамі ў двукоссі". Гэтае злашчаснае двукоссе ацэнена істцамі ў суму, якая ў дзесяць разоў перавышае мой месячны заробак. Суддзя разумее абсурднасць сітуацыі і спачувае мне, але не прыняць іск да разгляду не можа. У нашай краіне ўсе маюць права на абарону свайго гонару. Вядома, працэс я выйграю, але загадзя шкада часу і нерваў.

Без стуку ўваходзіш ты. Даведаўшыся, у чым справа, і гледзячы на мой засмучаны твар:

"Ёсць больш бяспечны занятак для газетчыка – анекдоты перадрукоўваць."

Гэта ўжо занадта.

"Улічу вашу заўвагу".

Грукнула дзвярыма так, што ў суддзі – папяровы дождж са стала.

Пакаянне. Ты тэлефануеш – мяне няма ў рэдакцыі. Ты прыязджаеш – мой кабінет зачынены. Ты дзяжурыш на скрыжаванні – дарэмна. Нарэшце знаходзіш, гаворыш у слухаўку:

"Богам прашу, прабачце дурны жарт".

Я халодная і непрыступная.

Чакаеш на скрыжаванні:

"Ці можна з вамі пагаварыць?"

"Няма калі".

Меладрама шматкроп'яў і двукоссяў.

Я не магу доўга крыўдаваць на цябе. І неяк адвячоркам сама набіраю твой нумар.

Якія ў цябе цудоўныя вусны. Яны створаныя для пацалункаў. Які ты незвычайна прыгожы ўвесь – ад кончыкаў пальцаў да патыліцы. Прамяністыя токі кахання пранізваюць нас. Мы робімся крыніцамі ззяння.

"Родны, я так гэтага хацела".

"Я таксама".

"Але чаму ж ты так доўга мучыў мяне?"

"Я і сам мучыўся. Змагаўся з сабой. Я не мусіў сюды прыходзіць".

"Чаму ж прыйшоў?"

"Ты штосьці ўва мне зламала. Ты не такая, як усе".

"І ты – адзіны. Сапраўдны. Усе мужчыны побач з табой – падробкі".

"Ты мяне сабе прыдумала".

"Ну і няхай. Я кахаю цябе".

"Гэта дрэнна, што кахаеш".

"Я хачу песціць цябе, як немаўлятка, і пакарацца табе. Страціць сваё "Я". Стаць тваім ценем, тваёй рэччу. Я хачу жыць побач з табой і памерці з табой у адзін дзень і ў адну гадзіну".

"Не кажы глупства".

"Пакажы мне твае вокны".

"Навошта?"

"Я буду засынаць толькі пасля таго, як ты заснеш. А прачнуўшыся, жадаць тваім вокнам добрай раніцы. Пра што ты задумаўся?"

"Пра тое, што такіх жанчын чамусьці сустракаеш надта позна".

"Не кажы глупства. Толькі ўяві – мы маглі б і не сустрэцца наогул. Так і хадзілі б, як чужыя, праз скрыжаванне. Якое ж гэта шчасце, што мы сустрэліся!"

Я ведала ледзь не ад нараджэння, што каханне трэба ўтойваць. Кахаць – гэта значыць плакаць ад пяшчоты і жалю. "У сэрца толькі адзін шлях выказаць сябе – шлях слёз", – сказаў усходні мудрэц. А плакаць прылюдна нельга. Нават пры адзіным, пры самым дарагім чалавеку.

Аднойчы (тады я яшчэ жыла ў доме на Зарэчнай на законных правах, а не на садова-птушыных, і да разводу бацькоў

заставаўся год) бацька ўзяў мяне з сабой на працу. Няясна памятаю вальеры, абцягнутыя драцяной сеткай, вялізных службовых сабак. Аўчаркі замітусіліся, забрахалі. Я спужалася, зараўла. Бацька ўзяў мяне на рукі і сказаў:

"Супакойся. Дачка афіцэра не павінна быць плаксай".

Гэта быў момант, калі словы падалі прама ў глыбінны праём душы, прыадчынены афектам страху, і прарасталі, як насенне. Яшчэ дзіцём я цвёрда, як свае прозвішча і адрас, засвоіла: плакаць – нельга. Буду плакаць – разлюбяць. Таму нікому не выказвала сваіх пачуццяў, прывыкла хаваць глыбока ў душы і любоў, і крыўду.

І як жа салодка аказалася цераз забарону пераступіць!

Кажуць, вонкавая рэальнасць проста ідзе следам за ўнутранай. Зародкі ўсіх падзей мы носім у сабе з маленства і выношваем лёс. Значыць, я страціла цябе задоўга да таго, як ты мяне кінуў.

Ты, мой бедны, не парушыў забарону. Не дазволіў сабе плакаць. Я з захапленнем паіла цябе з маіх сардэчных нетраў, а ты стрымаў у сабе нарастаючую хвалю кахання. Але як жа, Божа, табе хацелася любіць! Таму і спяшаўся ты ўцячы ад мяне, бо баяўся, што я штосьці ў табе растрывожу беспаваротна, непапраўна, і тады зямля, як у галалёд, перастане быць апорай, і касмічны віхор умомант змяце ўсё, што ты так доўга і цяжка будаваў, – дом, сям'ю, кар'еру.

Чаму чалавек пазбягае кахання? Таму, што ўпотай разумее: на Зямлі ён ніякі не бог, не цар і не воінскі начальнік. Ён звычайны, як трава, як рэкі і зоркі. Як усё жывое ў Сусвеце. Каханне і ёсць найглыбейшае імкненне ўкараніцца ў Сусвеце. Але ж у Цэлае можна вярнуцца толькі пры адной умове: растварыўшыся ў любімай істоце дарэшты. Таму, хто надта даражыць уласным "Я", гэта здаецца смерцю.

Каханне і ёсць смерць. Але па іншы бок рэчаў яно ёсць нараджэнне. І ў гэтым яго таямніца і вышэйшы сэнс.

Цябе пераводзяць служыць у сталічнае ўпраўленне. Ты зайшоў да мяне развітацца. Ты на добрым падпітку. Гарэлка на нейкі час растварыла твой жорсткі самакантроль, заспакоіла хворае







сумленне. Ты больш не раздвоены, ты безабаронны і даверлівы, як немаўля ў пялюшках.

Упершыню ты не спяшаешся ўцякаць. Мы доўга маўчым, прыхінуўшыся адно да аднаго. Паступова твае вочы змяняюць колер: з залацістых зноў становяцца сталёвымі. Ты стаў сабой, правільней перастаў быць тым, хто ты ёсць на самай справе. Дзіця ператварылася ў дарослага.

"Гэта я ва ўсім вінаваты. Прагані мяне прэч".

"Не гавары так".

"Я адчуваю сябе так, быццам сеў у рэстаране за чужы накрыты столік і з'еў прызначаны камусьці пачастунак. Я нічога не магу даць табе, акрамя пакутаў".

"Даць, узяць... хіба таргуюцца ў царкве? Хіба каханне – не дар ад усяго сэрца?"

"Я не бог, я ўсяго толькі афіцэр і прывык несці адказнасць за свае ўчынкі".

"Я ніколі нічога ў цябе не стану патрабаваць".

"Ведаю. Ты велікадушная жанчына".

"Я не велікадушная. Я проста кахаю. Скажы толькі, што я табе патрэбная".

"Не магу я гэтага сказаць".

У пярэднім пакоі ты доўга не размыкаеш абдымкаў. Тваё сэрца глуха трапеча ўва мне.

"Родны, я не змагу жыць без цябе".

"А я і не дазволю табе жыць без мяне".

Прарочыя словы.

Душным жнівеньскім поўднем вяртаюся ў рэдакцыю з чарговага задання. Ля агароджы – срабрыстая "таёта" з таніраваным шклом. Ты чакаеш мяне, праходжваючыся па бетоннай дарожцы. Ты асунуўся, вочы блішчаць ліхаманкава. Усё ўва мне скаланаецца ад жалю і віны. Невыпадкова сказана: "Жанчына з калыскі чый-небудзь смяротны грэх". Доўга моўчкі ўглядаешся ў мой твар, твар свайго граху.

Увечары мы зноў сустракаемся. Ты хаваеш вочы, табе трэба спяшацца. І няхай! Я весялюся: усё ж такі прыехаў! Відавочна,

знойдзены нейкі кампраміс паміж патрабаваннямі твайго Супер-Я і жаданнямі Я. Паміж дзіцем і дарослым. Хісткі мосцік над безданню.

У тую восень ты шмат піў. Алкаголь – амартызатар болю. П'янага ногі самі вялі да мяне. Пакутуючы, ты стараўся і мне зрабіць балюча:

“Ты хутка сустрэнеш добрага чалавека і зробіш яго шчаслівым”.

“Мне сустракалася шмат добрых людзей. Але я нікога не хачу рабіць шчаслівым, акрамя цябе”.

“Гэта няправільна. Так не мусіць быць. Нам трэба расстацца”.

“Хворага можна вылечыць, калі ён хоча быць здаровы. А калі не?”

“Тады трэба лячыць супраць яго жадання”.

Пасля гэтых сустрэч я адчуваю сябе разабранаю на часткі, быццам зробленай з дэталяў дзіцячага канструктара. Крышталёвая структура маёй душы рассыпаецца на асобныя атамы, бо цэнтраімклівая сіла, якая ўтрымлівала іх разам, знікла.

Напэўна, гэта і ёсць смерць.

Восень стаяла ў той год незвычайная, нібыта апошняя на Зямлі. Дні празрыстыя, паветра ломкае, шкляное. Неба ззяе нейкім адухоўленым святлом, як лікі велікамучанікаў на іконах. І ад гэтага ззяння хочацца плакаць уголас, і прызнавацца ў зробленых памылках, і каяцца перад тымі, каго любіш недастаткова, непапраўна мала. І раздаць сябе да ніткі, растварыцца ў Сусвеце, згінуць разам з васковаю жаўцізной лісця. Людзі быццам прысаромленыя, прыгнечаныя, разгубленыя гэтай пакорліва адыходзячай прыгажосцю. І ўсе чакаюць, калі, нарэшце, ападзе лістота і ўсталюецца жорсткая дыктатура маразоў, і так лёгка, так натуральна будзе клясці абрыдлую зіму. А зараз проста душа ірвецца на часткі ад тугі і невыносна ные сэрца.

Холадна.

Холадна.

Холадна.

Душа, як маленькі звярок, прыгрэлася, супакоілася на тваіх каленях. Куды ж ёй цяпер дзецца? Родны, я больш так не магу.







Мне невыносна без цябе, мне страшна начамі ў бяссоннай пустой кватэры. “Нам трэба расстацца”, – сказаў ты.

Як адрэзаў.

Няма надзеі.

Няма чаго чакаць ад жыцця.

Няма каго любіць.

Лёгкі, ружаваты, нейкі недарэчны ў гэтым месцы людскіх пакутаў снег падае на абшарпаныя карпусы бальніцы, на сосны, на лаўку пад вокнамі неўралагічнага аддзялення. Сілы проста пакідаюць мяне. Кропельніцы не дапамагаюць, нібыта мае вены ўпадаюць у невядомую чорную дзірку. Жыццё выдзьмухвае нейкім скразняком.

Гэты стан мае назву *вегетасасудзістая дыстанія*. Кажуць, на Захадзе такога дыягназу не існуе. У нас жа вегетасасудзістай дыстаніяй лекары называюць набор сімптомаў, прычыну якіх не могуць высветліць.

Затое мне яна добра вядомая: адсутнасць неабходнай для жыцця субстанцыі любові.

Раз на дзень прыходзіць іголкатэрапеўт і ўтыкае мне ў лоб і кісці рук іголкі. Я ляжу, як шаўковая падушачка ў падарункавым наборы для шыцця.

Падоўгу разам з іншымі хворымі стаю ля акна палаты. Па дарожцы, пратаптанай ад прыёмнага пакоя, мажная санітарка Зіна коціць каталку. На каталцы – нерухомае цела, прыкрытае шматком бальнічнай коўдры. Снег падае на коўдру, на выбелены пакутамі твар. Зараз выйдзе на ганак санітар Дзіма, і яны ўдваіх, ціха мацюкаючыся, пацягнуць насілкі па лесвіцы на другі паверх.

Увечары, калі цямнее і ачунялыя інсультнікі разыходзяцца па палатах, я цягнуся на бальнічны двор. У мяне ёсць справа – вучыцца хадзіць. Ад слабасці ў мяне з'явіўся страх падзення. Адрываюся ад апоры і раблю крок з ганка ў прастору. Потым яшчэ крок. Сэрца моцна б'ецца, кружыцца галава. У такт крокам складаюцца вершы.

*Я не забуду тыя дні да скону:*
*На колах “хуткіх” – пасмы чорнай ваты,*

*І захад сонца, як кровазліццё,*
*І нержавеючую сталь нябёсаў.*

*І той ружовы недарэчны снег*
*Над брудна-шэрым купалам лякарні,*
*Шэсць пар вачэй, узнятых дагары,*
*Дзе Бог лунаў, сляпы і асляпляльны.*

*Я з іншымі стаяла ля акна,*
*І ўсё ж такі была зусім адна*
*У больнічнай няўтульнасці, зімою.*

*Каханы мой, нібыта Бог, сляпы.*
*І толькі снег – пяшчотны і жывы*
*Над гэтай непрытомнаю зямлёю.*

Забіраць мяне з бальніцы прыехалі Клімавы на новенькім цёмна-сінім “фальксвагене”. Як звычайна, усю дарогу яны лаяліся паміж сабой. Як звычайна, вечарам Валька забегла да мяне з бутэлькай “Сталічнай”.

Ты больш не тэлефанаваў і не прыязджаў. Аб тваім бліскучым узыходжанні наверх я даведвалася з газет: “маёр Сергіенка ўзначаліў аператыўную групу Упраўлення МУС па барацьбе з супрацьзаконным абарачэннем наркотыкаў”; “атрымаў званне падпалкоўніка”; “прадстаўлены да ўзнагароды”; “прызначаны на высокую пасаду”. Што ж, здаецца, спявачка не схлусіла і мае слёзы сапраўды прынеслі табе ўдачу. Уласна кажучы, гэта лёгка зразумець: нават расстаўшыся з табой, я працягвала аддаваць табе сваю жыццёвую энергію. На глыбінным узроўні сувязь паміж намі захавалася.

Нехта з герояў Феліні заўважыў: “Каханне – гэта проста два неўрозы, якія часова супадаюць”. Твая душэўная рана загаілася, ты акрыяў ад кахання і ад мяне, забыў пра ўсё, як забываюць любую, нават цяжкую хваробу. А я – я не акрыяла. Магчыма, таму, што не хацела гэтага.







Выпісаўшыся з бальніцы, я вярнулася дадому, у сваю аднапакаёўку, дзе мы сустракаліся, з акна якой бачныя твае вокны і НАША скрыжаванне. Твая прысутнасць адчувалася тут настолькі рэальна, што я гадзінамі размаўляла з табой, а ўвечары ўключала магнітафон, слухала “Плачу снова, слышишь, о тебе, любимый, плачу…” – і плакала.

Амаль кожны вечар заходзіла Валька – “халодная вайна” на сямейным фронце працягвалася – і прыносіла з сабой спіртное. І я піла, каб заглушыць востры боль страты. Але гарэлка не амартызавала мой боль. Мяне часта ахопліваў беспрычынны страх. Сэрца сціскалася так, што цямнела ў вачах, нервы былі напружаныя настолькі, што самы малы шум прымушаў уздрыгваць усім целам. Потым стала яшчэ горш. Пасля ночы без сну я ўставала, праглынуўшы жменю таблетак, і не магла прымусіць сябе выйсці на вуліцу. Мне здавалася: як толькі пакіну свае чатыры сцяны, гэты астравок бяспекі, здарыцца нешта жахлівае. Я ўзяла адпачынак за свой кошт і наогул перастала выходзіць з кватэры. Ляжала на канапе, тварам да сцяны, цэлымі суткамі. Але кашмар не спыняўся. Ільдзяныя пальцы сціскалі скроні. Я нібы трапіла ў нейкі вір цемры, які засмоктваў мяне са страшэннай хуткасцю. У паўтрызненні часам нараджаліся радкі:

*Сярод няходжаных дарог,*
*У непрасыхаючай гразі*
*Я – непатрэбны аганёк*
*Самотнага таксі.*

Дарэчы, аб вершах. Аднойчы дваровыя хлопцы распалілі вогнішча прама пад маім балконам, і я на падпітку кінула ў полымя падрыхтаваны ўжо да выдання рукапіс майго першага паэтычнага зборніка…

Валька раіла “ўзяць сябе ў рукі”, “жыць як усе”. (Як усе! О, калі б я гэта ўмела, магчыма, ты быў бы зараз са мной!) Аднойчы нават прыйшла мая маці – гэта быў яе першы візіт за тры гады, хоць жывём мы ў адной частцы горада. Памятаю фразу,

якую яна вымавіла, ледзь ступіўшы на парог: “Ты ганьбіш *мяне* перад усім магазінам”. Я проста зарагатала ёй у твар. Смешна, але маёй маці, здаецца, ні разу ў жыцці не прыходзіла ў галаву простая думка пра тое, што мяне можна ці трэба любіць. Больш яна не наведвала мяне. Не наведваў ніхто, бо я свядома пазбягала сяброў і знаёмых. Мне хацелася застацца сам-насам з маім горам, утапіцца ў ім і захлынуцца.

Жах.

Адчай і безнадзейнасць.

Туга па табе.

І зноў – жах...

Зараз я ў псіхушцы. “Цяжкія” транквілізатары і антыдэпрэсанты робяць мяне лагоднай і спакойнай. Я паглыбленая ў сябе, быццам знаходжуся ў матчыным (чытай – Боскім) чэраве альбо ўжо закапаная ў зямлю, што так ці інакш азначае адно – неіснаванне. Цэлымі днямі я не вымаўляю ані слоўка, і нават мае ўспаміны пазбаўленыя характэрнай для іх пякельнай тугі. Я магу думаць пра цябе з пяшчотай і замілаваннем, як пра непаслухмянае дзіця, якое прычыняе боль маці не таму, што жорсткае, а таму што неразумнае. Але, забыўшыся прыняць таблеткі і прачнуўшыся ўначы ад цяжкіх усхліпаў і стогнаў маіх таварышак па палаце, гледзячы на жоўты яблык Месяца ў акне, я адчуваю, як мая праяснелая свядомасць зноў становіцца полем бітвы: нейкая яе частка хоча выштурхнуць прэч мінулае, як выштурхоўвае ў апошняй пакуце парадзіха дзіця, вызваліцца ад цябе, спустошыць маё сэрца, каб потым напоўніць яго нанова – хаця б святлом Месяца, па-старэчаму сагнутымі постацямі дрэваў на бальнічным двары, ранішняй шклянкай дрэннай гарбаты – гэтым маім “тут і цяпер”, немудрагелістым і ўбогім, але цалкам дастатковым, каб існаваць. “Жыць як усе”. Але штосьці ўва мне з маніякальнай упартасцю супрацiўляецца гэтаму жаданню, і я зноў і зноў уваскрашаю ў памяці ўсё звязанае з табой – з самага пачатку, вось як гэтай ноччу, і зноў адчуваю боль. І... прагну яго, амаль атрымліваю ад яго асалоду.

Каля поўначы, задрамаўшы, я зноў апынулася ва ўладзе майго снавідчага дэмана. На гэты раз яму пажадана было змясціць






мяне ў нейкі першабытны хаос – балота, якое кішэла жабамі, рэптыліямі і паўзучымі гадамі. Я прабіралася па купінах, навокал была багна, яна драпежна чвякала. Раптам над маёй галавой заззяла начышчаная металёвая шыльда аптэкі. Я кінулася да яе, як да паратунку. Але змяя, якая абвівала медыцынскую чашу, павольна спаўзла з эмблемы і ўпілася джалам мне ў горла. Я яшчэ паспела ўбачыць, як ты, невядома адкуль узяўшыся, кінуўся да мяне праз балота, але на бягу наступіў на іншую змяю, якая, скруціўшыся ў клубок, ляжала на купіне. Яна раптам ператварылася ў чорны пісталет і стрэліла табе ў грудзі: “Пах! Пах! Пах!”

Я прачнулася ад уласнага крыку.

Ледзь чутныя крокі на калідоры. Гэта зноў бадзяецца той псіх з сёмай палаты, які баіцца заснуць і памерці ў час сну ад сардэчнага прыступу. Што ж, танатафобія, прынамсі, з’ява натуральная. А як, паважаныя псіхатэрапеўты, дапамагчы чалавеку, настолькі зачараванаму сваёй тугой, што ён не ў стане адвесці вочы ад мінулага? І калі я не магу быць шчаслівай у гэтым свеце, я хачу пакутаваць, толькі б адчуваць сябе жывой. Боль – найпраўдзівейшая прыкмета таго, што я жывая! І я нізавошта не адцураюся ад майго смутку.

А можа, я проста баюся пустэчы, якая запануе ў маім сэрцы, калі цябе ў ім не будзе? Аднак мой покліч да цябе, гэты адзінокі крык у касмічнай начы, калі ўдумацца, ёсць толькі бессэнсоўная ахвяра ўсё той жа пустаце. Яна – паўсюдна, і ў рэшце рэшт праглыне і мяне, і цябе з тваёй шыкоўнай “таётай”, новай кватэрай у сталіцы, высокай пасадай, і нават вялікія зоркі на пагонах не выратуюць ад замагільнай цемры.

Кажуць, ніводнае дрэва не зможа дарасці да раю, калі яго карані не дасягнуць пекла. У пекле я ўжо даўно, і таму мяркую, што калі *там* ёсць яшчэ што-небудзь, акрамя пустаты, гэта мусіць быць сад майго дзяцінства, у якім растуць яблыні з ружовымі і залатымі пладамі, падобнымі да маленькіх планет ці магічных колаў. І там, бязлітасны мой воін, мы хутка сустрэнемся, каб стаць адзіным цэлым, як гэта было ўжо да стварэння свету, калі па ўсёй зямлі плёскаліся воды Спрадвечнага Акіяну і Люцыпар, сын Дзянніцы, не падаў яшчэ з дзіўных нябёсаў, дзе палымнела незаходзячае сузор’е Рыбаў..."

# ЭПІЛОГ

Мажны маёр з вадзяніста-блакітнымі вочкамі хмурна зірнуў на тытульны ліст гісторыі хваробы, якую паклаў перад ім доктар Юркевіч, і адсунуў у бок журнал рэгістрацыі здарэнняў.

– Учора а другой гадзіне дня, – сказаў ён. – Знайшлі ва ўласнай кватэры. Суседзі выклікалі "хуткую", але было позна.

Мужчыны памаўчалі.

– А я нават заляцацца да яе спрабаваў, – нечакана дадаў маёр. – Прыгожая была. Часцяком сюды заходзіла, з гэтага вось журнала выпісвала звесткі для рубрыкі "Крымінал" у газеце. Ніколі б не падумаў, што вар'ятка.

– Яна не была вар'яткай, – з намаганнем сказаў Юркевіч. На яго раптам навалілася стома. – Рэактыўная дэпрэсія на глебе перажытага ўзрушэння. З кожным можа здарыцца.

– Што ж вы яе адпусцілі? – яхідна спытаў маёр. – Яшчэ і рэцэпцік з сабой далі на таблеткі. А яна гэтымі таблеткамі... Вось дык лекары.

На вакзале было дымна і брудна. Юркевіч прысеў на паламаную лаўку пад запыленымі ліпамі. Учора ўвечары, чытаючы сіні сшытак, ён усё больш упэўніваўся ў тым, што жыццёвы "сцэнарый" аўтаркі няўхільна вядзе да трагічнага фіналу: смерці альбо разбурэння псіхікі. Аб тым жа сведчыла і сімволіка апошняга сну пра балота і змеяў. Юркевіч не сумняваўся, што ў дадзеным выпадку ён меў справу з так званым вешчым сном, сном-прадказаннем, які мусіў спраўдзіцца, і вельмі хутка, калі не ўмяшаецца якая-небудзь сіла звонку. Змяя з аптэчнай шыльды, якая джаліць... Магчыма, праз той сон несвядомае спрабавала папярэдзіць жанчыну аб нейкай небяспецы, звязанай менавіта з аптэкай, з лекамі. Раніцай Юркевіч адшукаў у архіве клінікі гісторыю хваробы. Так, лекі! Пасля выпіскі хворай было рэкамендавана працяглае лячэнне амітрыптылінам і выпісаны адпаведны рэцэпт. Трэба было неадкладна знайсці аўтарку дзённіка. Што ён мусіў рабіць потым, Юркевіч дакладна яшчэ не ведаў. Расказаць ёй пра сімвалічнае значэнне сну, які, дарэчы, амаль адкрытым тэкстам папярэджваў аб небяспецы, што пагражае гэтаксама і яе каханаму? Прапанаваць свае паслугі ў якасці псіхатэрапеўта? Але ці захоча яна прыняць ягоную дапамогу?

У апошнім Юркевіч не быў упэўнены. Але ўсё ж такі адправіўся на адрас, што значыўся на вокладцы гісторыі хваробы. Доўга безвынікова званіў ля дзвярэй кватэры. Потым, падазраючы горшае, паехаў у міліцыю, бо ведаў: у штабе ГАУС рэгіструюцца ўсе так званыя "няшчасныя выпадкі" з фатальным зыходам. І, на жаль, не памыліўся...

Гэты суіцыд можна было папярэдзіць, калі б той сшытак не праляжаў у доктара Смелякова цэлы тыдзень...

Зрэшты ён, Юркевіч, не вінаваты. Гэта была не яго хворая.

Падышла электрычка на Мінск. Юркевіч купіў у кіёску свежую газету і ўвайшоў у брудны, запляваны шалупіннем ад сланечніку вагон. Заняўшы месца ля акна, ён механічна разгарнуў яе. У вочы кінуўся загаловак, набраны буйным шрыфтам:

"ЗАБОЙСТВА ПАДПАЛКОЎНІКА МУС".

Юркевіч прабег вачамі паведамленне.

*Учора а другой гадзіне дня ў пад'ездзе ўласнага дома быў забіты трыма стрэламі ва ўпор кіраўнік аператыўнай групы Упраўлення МУС па барацьбе з супрацьзаконным абаротам наркотыкаў падпалкоўнік Сергіенка. Як паведамілі нашаму карэспандэнту ў Пракуратуры Рэспублікі, апошнім часам Сергіенка ўшчыльную выйшаў на крымінальныя структуры, якія займаліся пастаўкамі буйных партый гераіну ў нашу дзяржаву.*

Юркевіч акуратна склаў газету. За акном мільгалі шэрыя домікі, высокія дрэвы ў шапках вароніных гнёздаў. Юркевіч думаў пра тыя сілы, якія насуперак волі чалавека твораць ягонае жыццё на ўзор старажытнай міфалагемы альбо антычнай трагедыі року.

Пачатак траўня выдаўся спякотны, і за ўбогімі штыкетнікамі ля чыгуначных пуцей, нібыта кучавыя аблокі, што спусціліся з неба адпачыць, пышна цвілі яблыні.

*1999–2001*



# Васіль Дэбіш

*Сярод людзей, і птушак, і звяроў*
*Ягоны Дух лунае па-над светам.*
*Паэт – ён Бог. І адчувае гэта...*
*Калі яго рука ўзяла пяро,*
*Няма – што не належала б паэту.*







## НА ЎЗЛЁЦЕ

Вакно адчынена. Свабодны,
Ляці... насуперак, наўзлом.
Нібыта лёд, паток халодны
Бязлітасна ўварвецца ў дом.

Праніжа вострымі цвікамі,
І з ног саб'е, і спыніць лёт...
Глытаць і біць яго рукамі
і рваць зубамі гэты лёд!

## ***

З усходу нерухомага
злятаюць маркотна
зоркі ў сумёты.

Сядзяць крумкачы
і вострацць дзюбы
аб снег гартаваны.

## ШЛЯХ

*А. Сысу*

Мяняў імёны, ролі і жанчын
І ўсіх учынкамі здзіўляў сваімі.
Самотны. Хоць з сябрамі, – ды адзін.
І вершаў не пісаў, а жыў ён імі.

Ён піў віно. З крывёй. Зямных багоў
Ён скідваў, нібы смецце, з п'едэсталаў...
Над прорваю ляціць душа яго
У лесвічным пралёце за Купалам...

***

Ён стагнаў, ён крахтаў, ён аб нечым далдоніў,
Ён хадзіў па шпіталі і жыць нас вучыў.
Ён казаў – ваяваў, ён – з чарнобыльскай зоны.
Дадаваў: прывілеі сабе заслужыў.

Ён нам скардзіўся, што не заслугай, а блатам
Сёння ўсе багацеюць; навокал – рвачы,
Махляры і зладзеі. Другую палату
Ён прасіў, каб палепшыць пасцель і харчы.

Ён дамогся свайго... Хто пакрыўдзіць героя?
І цяпер мякка спіць, смачна есць ён і п'е.
Нас пакінуў ён, храп свой забраўшы з сабою
І яшчэ не старыя шкарпэткі мае.

## МАНАШКА

За сценамі каменнымі да скону.
Акенца ў свет. Абраз. Паўзмрок і пустка.
Свой час малітвам аддае натхнёна
І ўсё глыбей затульваецца ў хусту.

У Бога просіць ласкі. Тыя словы
Гучаць, як песня, як дзяцінства згадка...
Грудзей спалох, бы сполах вечаровы,
Хавае ў сваю чорную апратку.

***

Прыгадаю жыццё за імглою блакіту.
Прамінулі гады. І не жыў я нібыта.
Нібы скокам адным я жыццё пераскочыў.
Вольны зноў. Толькі неба не радуе вочы.







Дзе той конь, што я калісь з бязмежжа прышпорыў?
Да зямлі ўсё ніжэй я хілюся ў пакоры,
І ні ўлада, ні грошы не вабяць – нічога.
Ды часцей і часцей мае думкі пра Бога.
Хутка лёт мой закончыцца. Верыцца існа:
На кладах назаўжды я знайду сваю прыстань,
У зямельцы сырой, пад травіцай мурожнай...
І калі ля магілы маёй, падарожны,
Ты на хвілю прыпынішся ў будзень ці свята,
Памаліся Ісусу за грэшнага брата.

 







Марыя
Лук'яненка

## Рабінавая элегія

Рабінавыя гронкі позніх слоў
Падфарбавалі выцвілае ранне.
Але якая ў верасні любоў?
Але якое восенню каханне?

Вандруе ў небе сонечны павук,
Цыруе легкаважныя цянёты.
А з безыменных пальцаў нашых рук
Пярсцёнкі ў вырай
Паляцелі ўпотай.

І залаты прымроены спакой
Плыве, віруе
Ды не помніць броду.
Стаіць за Гераклітавай ракой
Рабінавая ноч маёй свабоды.









Іна
Снарская

***

Па зямлі зямное пройдзе:
Правы бераг, бераг левы,
А на правым – толькі поўдзень,
А на левым – толькі дрэвы.

Сёння я лягчэй пярынкі,
Бо зямное – толькі сэрца,
Разам з ветрам рыну, рыну.
А чужое – рвецца, рвецца.

І спяваць... калі да скону
Толькі вечар – вецер золкі,
Свой палёт не ў змозе скончыць,
Бо да сонца шлях бясконцы.



 

# Чалавек і час праз прызму гатычнага светаўспрымання

*"... аднак чалавек болей за ўсё чалавек, калі ён напалоханы."*
**Урсула Ле Гуін.**
"Кот Шродынгера"

Вытокі жанру гатычнае прозы – у англійскай літаратуры другой паловы XVIII стагоддзя, калі ў сувязі з адраджэннем цікавасці да сярэднявечча з'яўляецца новая разнавіднасць рамана, што атрымала назву "гатычнага", альбо рамана "таямніц і жахаў". Прадметам выяўлення ў гэтых раманах робіцца не побыт сучаснікаў, а незвычайныя прыгоды, нешта загадкавае, містычнае, звышнатуральнае. Месца дзеяння першых гатычных раманаў (пачынаючы з рамана "Замак Атранта", напісанага Гарацыа Уолпалам у 1765 годзе) – сярэднявечны замак з безліччу патаемных сутарэнняў, напаўразбураных лёхаў і гарышчаў, што як нельга лепей спрыяў стварэнню атмасферы трывогі, змрочных прадчуванняў нечага страшнага, невядомага. Сюжэтастваральным элементам гатычнага рамана з'яўляецца таямніца, звязаная са старажытным прадказаннем, родавым праклёнам, легендай. Сітуацыя таямніцы ахоплівае ўсе фармальныя элементы рамана, яе разгадка бясконца адкладаецца, ствараючы атмасферу нервовай узрушанасці. Такі падыход да арганізацыі аповеду шмат у чым звязаны з пераглядам прыроды эстэтычнае катэгорыі ўзвышанага ў сувязі з выхадам трактата Эдмунда Берка "Аб гусце. Аб узвышаным. Аб прыгожым" (1765). Згодна Берку, узвышанае заўсёды павінна выклікаць нервовае ўзрушэнне, нават шок, які пераходзіць у разнавіднасць задавальнення. "Жах, — піша Берк, — гэта пачуццё, якое заўсёды выклікае захапленне, калі не тычыцца цябе непасрэдна." Страх і жахі робяцца асноўнымі стымуламі эстэтычнага і этычнага пачуцця ў англійскіх пісьменнікаў Гарацыа Уолпала і Энн Радкліф, якія падобна да Берка тлумачылі ўзвышанае як нешта такое, што прымушае чалавека трымцець, выклікаючы ў ім пачуццё бездапаможнасці і бяссілля. Са з'яўленнем твораў Энн Радкліф канчаткова змяняецца і само значэнне тэрміна "гатычны" — да яе гэтае паняцце ахоплівала раманы, дзеянне ў якіх адбывалася ў эпоху сярэднявечча, цяпер жа пад ім разумелі раман, у якім на першы план выходзяць эмоцыі герояў, што выклікаюцца таямнічымі падзеямі. Мяняецца і сама прырода ўзнікнення трывожных эмоцый: напружанае чаканне нечага жахлівага ўздзейнічае на чалавека значна больш моцна за здзяйсненне гэтага жахлівага.

Абсалютна самастойна ўмацоўваецца і эвалюцыянуе гатычная традыцыя ў амерыканскай літаратуры. Буйны пурытанскі паэт і святар Э. Тэйлар, першы значны амерыканскі раманіст Ч. Браўн, навелісты і раманісты XIX стагоддзя В. Ірвінг, Н. Гаторн, Э. По, Г. Джэймс – усе гэтыя пісьменнікі зрабілі свой унёсак у развой амерыканскае готыкі. Асаблівае ўвагі тут заслугоўвае Э. По – пісьменнік, літаратурны крытык, тэарэтык мастацтва, філосаф. По не толькі быў непераўзыдзены майстар кароткае прозы, але і сфармуляваў патрабаванні, якім, па ягоным меркаванні, павінна адпавядаць апавяданне – гэтую літаратурную форму амерыканцы лічаць сваім адкрыццём (тэрмін *"short story"* як нацыянальнае азначэнне кароткага празаічнага жанру, у сваёй аснове агульнага з еўрапейскай навелай, з'явіўся ў амерыканскім літаратуразнаўстве ў 80-я гады XIX стагоддзя – яго ўвёў Генры Джэймс). У крытычным артыкуле 1842 года, прысвечаным навелістыцы Гаторна, Э. По выкладае сваю тэорыю навелы, адпраўным і галоўным пунктам якое з'яўляецца адзінства эфекту або ўражання – без гэтага адзінства, па ягоным меркаванні, апавяданне не можа зрабіць глыбокага ўплыву на чытача. Выбар абставінаў, паслядоўнасць здарэнняў, тон аповеду – усё павінна служыць адзінству і цэласнасці ўражання. Магчымасць поўнага ўвасаблення абранае ідэі По бачыў у строгасці і кампактнасці структуры твора, што будуецца, быццам абапал ядра, вакол таго асноўнага прадуманага аўтарам уражання, якое павінен вынесці з твора чытач.

Асаблівае значэнне ў гэтай сувязі набывае канцоўка апавядання – момант найвышэйшага напружання, катастрофа або вырашэнне загадкі, што звяжа і патлумачыць усе папярэднія падзеі.

Мэту паэта-празаіка По бачыў у даследаванні ісціны чалавечага існавання, а гэта немагчыма без пранікнення ў глыбіні чалавечае душы, пільнае ўвагі да яе хваравітае дысгарманічнасці. Э. По звярнуўся да еўрапейскіх (перш за ўсё англійскіх) гатычных традыцый і ўзбагаціў гатычную прозу паглыбленым псіхалагізмам, адкрыўшы яшчэ невядомыя мастацтву прыёмы ўплыву на чалавечае ўяўленне. “Свядомасць і пачуцці герояў По, прыгнечаныя незваротнымі стратамі, прасякнутыя змрокам згасання, хваравіта абвостраныя адзінотай, паварочваюцца ўнутр асобы, нараджаючы ў пустэльнікаў страх перад новымі стратамі, пераконваючы іх у асуджанасці свету, з лёсам якога іх асабістыя лёсы непарыўна звязаныя. Усё іх існаванне ператвараецца ў злавесны пралог да катастрофы, якая палохае не столькі сваім гібельным зыходам, колькі тым жахам, што ёй спадарожнічае і разбурае душу”, — піша ў сваім даследаванні І.Працэнка.

У пэўным сэнсе сама канцэпцыя існавання амерыканскае готыкі з’яўляецца парадоксам, бо надта многае ў амерыканскай культуры з яе рацыяналізмам і верай у бязмежныя магчымасці чалавека, здаецца, адкідвае хоць якую магчымасць гатычнага светаўспрымання. Аднак, адзначаюць складальнікі тома “Готыка франціра”* Д. Моджэн, С. Сэндэрс і Дж. Карпінскі, як уяўная мяжа паміж вядомым і невядомым тэма франціра робіцца мостам у сферу гатычнага. Знешні бок амерыканскага рацыяналізму, згодна з аўтарамі, патрапляе тут у відавочную супярэчнасць з надзвычай выразным падтэкстам “сярэдняга амерыканца”, дзе пад сентыментальнасцю і рамантычнасцю хаваюцца прага насілля і прыгнечаныя жаданні.

У сваю чаргу вядомая амерыканская пісьменніца і тэарэтык літаратуры Джойс Кэрал Оутс робіць спробу абгрунтаваць узнікненне гатычнага светаўяўлення ў амерыканскім асяроддзі ў XVII – на пачатку XVIII стагоддзяў, звяртаючыся да аналізу духоўна-псіхалагічнага клімату пурытанскае абшчыны.

---

* Францір – у амерыканскай гісторыі заходняя мяжа тэрыторый, якую засвойвалі вялікія групы каланізатараў. Афіцыйна лічыцца, што Францір быў заселены канчаткова ў 1890 годзе.



Характарызуючы пурытан як людзей надзвычай нецярпімых, абмежаваных у сваіх паводзінах жорсткімі маральнымі ўстаноўкамі, Оутс выказвае цалкам абгрунтаванае меркаванне, што з’яўленне ў пурытанскім асяроддзі такіх псіхічных хваробаў, як паранойя, маніякальны псіхоз, вар’яцтва сталася заканамерным вынікам іхняга светаўяўлення. Оутс пералічвае назвы вядомых пурытанскіх твораў (казанняў, прозы і паэзіі дыдактычнага характару): “Духоўны канфлікт”, “Свяшчэнная вайна”, “Дзень страшнага суду”, “Прагны грэшнік”, “Стогны праклятых”, “Цуды нябачнага свету”, “Чалавеку не дадзена ведаць, калі надыдзе яго час”, “Грэшнікі, што раскайваюцца, і іх пастыры”, “Карысная прадбачлівасць адносна вядзьмарства і ўласнасці” — каб сказаць, што гэтыя назвы маглі быць загалоўкамі твораў гатычнае прозы.

Вядомы літаратуразнаўца В. Дзянісава звязвае генезіс гатычнае амерыканскае літаратуры з жанрам *“romance”* (“рамантычны раман”). Буйнейшыя амерыканскія пісьменнікі XIX стагоддзя Н. Готарн і Г. Джэймс імкнуліся, паводле меркавання даследчыцы, да сінтэзу двух пачаткаў – рэалістычнага і рамантычнага, пры гэтым задачай мастака рабілася не знешняе капіраванне прыроды, а “выяўленне жыцця ўнутры жыцця”, інакш кажучы, адлюстраванне ў мастацтве чалавечага свету, чалавечага светагляду, чалавечых узаемаадносін з рэальнасцю. У арсенале гэтых пісьменнікаў пераважаюць таямніцы і фантазіі, гратэск і іронія, метафара і сімвал, адкрытая ўмоўнасць і канцэнтраваная лірычнасць. Такім чынам, з двух тыпаў рамана – гатычнага і бытаапісальнага – было выпрацавана тое, што ў амерыканскай літаратуры атрымала назву *“romance”* — рамантычны раман, які адыграў важную ролю ў станаўленні амерыканскае літаратуры і як жанравая разнавіднасць прадуктыўны і сёння.

XX стагоддзе ў амерыканскай гатычнай прозе дало роўнавялікага Э. По пісьменніка – гэта *Говард Лаўкрафт (1890 – 1937).* Як і ў Э.По, жыццёвы шлях Лаўкрафта паспрыяў абвастрэнню трагічнага, змрочнага светаўспрымання. Калі Говард быў дзіцём, ягоны бацька трапіў у шпіталь для псіхічна хворых, адкуль так і не выйшаў да смерці. Маці амаль штомесяц апыналася на мяжы нервовага зрыву. Хлопчык пакутаваў ад начных кашмараў, а адзінота была яго звычайным станам. Азначэнне “чужаніца” стасуецца не толькі да героя апавядання, якое тут публікуецца, але і ў пэўнай ступені да самога пісьменніка. Людзі, што лічылі

сябе ягонымі сябрамі, на самай справе ведалі пра яго вельмі мала: Лаўкрафт называў сябе пустэльнікам, што слаба ўяўляў, якое на двары тысячагоддзе. Ён старанна ахоўваў ад знешняга ўмяшальніцтва свой унутраны свет, аднак пра багацце яго духоўнага жыцця кажуць больш за сто тысяч ягоных лістоў. У 1925 годзе ён напісаў вялікі артыкул-маніфест "Звышнатуральны жах у літаратуры", дзе падрабязна апісаў паэтыку, да якой належыць усё тое, што ён стварыў.

З першых радкоў апавядання "Чужаніца" чытач акунаецца ў атмасферу жахаў і таямніцаў, там прысутнічаюць усе асноўныя элементы гатычнага аповеду: акружаны арэолам містыкі замак, атмасфера разлажэння, што студзіць кроў, нечаканае разгортванне фабулы, смеласць фантазіі... У гэтым Лаўкрафт – нашчадак лепшых майстроў жанру і перш за ўсё Эдгара По, свайго настаўніка і майстра стварэння напружанага аповеду, калі неверагоднае ўспрымаецца як рэальнае і дзе няма межаў паміж бачным, дадуманым і адно ўяўленым. З лепшымі аўтарамі псіхалагічнае прозы XIX стагоддзя творы Лаўкрафта яднае скіраванасць углыб чалавечае душы, выяўленне яе складанасці праз узрушэнне, усведамленне ўмоўнасці звыклай рэальнасці. Менавіта дотык да нечага пагрозлівага, загадкавага і велічнага, момант прарыву да вечных ісцін, якія хаваюцца за "цёмнай непранікальнай заслонай", складае, па меркаванні літаратуразнаўцы А. Зверава, сапраўдны сюжэт большасці гісторый, што расказаў Лаўкрафт. Апошнія радкі апавядання выяўляюць філасофскую праблематыку, якую можна сфармуляваць у радыкальных запытаннях: наколькі добра мы ведаем сябе і звычны нам свет? Дзе мяжа, што аддзяляе людзей ад нелюдзяў? Ці можам мы змяніць лёс і вырвацца з кашмара ночы і адзіноты? Якія нечаканыя адкрыцці аб сабе і аб свеце сустрэнем мы на гэтым шляху? Лаўкрафт, карыстаючыся прыёмамі і хадамі, што выпрацавала гатычная традыцыя, спрабуе трапіць у палаючую бездань акіяна, што абкружае адзінокія душы, спасцігнуць найвышэйшыя таямніцы чалавечага існавання.

Чытачы, што цікавяцца папулярнай амерыканскай прозай, добра ведаюць такія імёны аўтараў літаратуры "хорара", як Стывен Кінг, Джэймс Герберт, Пітэр Штрауб, Шэрлі Джэксан. У нашай падборцы змешчаныя апавяданні таксама славутых амерыканскіх пісьменнікаў. І хаця паэтыка жахаў і таямніцаў не была вызначальнай рысай іхняй творчасці, аднак менавіта яна дапамагала ім вырашаць важныя творчыя задачы.







Як пісьменнік *Джон Чывер (1912–1982)* сфарміраваўся фактычна ў 1950-я гады. Большасць яго апавяданняў была надрукаваная ў часопісе амерыканскае інтэлектуальнае эліты "Нью-Ёркер" і пазней высока ацэненая амерыканскімі чытачамі і літаратуразнаўцамі, пра што сведчаць Пуліцэраўская прэмія і Нацыянальная прэмія крытыкаў. Асноўныя тэмы яго творчасці – даследаванне феномена "спажывецкае свядомасці" і створанага ёй "грамадства спажывання", канфлікт паміж сацыяльнымі ўмоўнасцямі і патрэбай асобы ў самарэалізацыі. Апавяданні пісьменніка ўзнаўляюць рэальныя канфлікты сучаснай для яго Амерыкі і населеныя героямі, народжанымі гэтымі канфліктамі – прадстаўнікамі сярэдняга класа, якія жывуць у камфартабельных кватэрах, сярод падстрыжаных газонаў і дагледжаных садкоў у *Suburbia* (ад *suburbs* – прыгарады, дзе месціцца большасць сярэдніх амерыканцаў). Прасторай сэнсу іхняга жыцця робіцца рэчавы свет – дамы, басейны, машыны. Рэчавасць у Чывера – адзіная рэальнасць, якая засланіла сабой усе праявы індывідуальнасці і набыла містычныя рысы нейкага бажаства, што бачна і ў апавяданні "Вялізнае радыё".

Джым і Айрын Уэсткат – тыповыя прадстаўнікі забяспечанага сярэдняга класа, і гэтая тыповасць падкрэсліваецца аўтарам пералікам лічбаў на самым пачатку апавядання, да таго ж гэтых некалькіх лічбаў хапае, каб апісаць "простае і невыразнае" жыццё герояў аповеду. Каб вывесці Джыма і Айрын з духоўнае апатыі і палону матэрыяльных вартасцяў, аўтар выкарыстоўвае своеасаблівую "шокавую тэрапію". Дарагое новае радыё, ад пачатку надзеленае ва ўяўленні Айрын Уэсткат рысамі ліхадзея, – абавязковага персанажа гатычнае прозы, – робіцца для яе і мужа не проста чарговай пакупкай, якая дазваляе цешыцца любімай класічнай музыкай... З аб'екта рэчавага свету яно ператвараецца ў сімвалічны вобраз, закліканы агаліць усю пошласць і непрывабнасць сучаснасці. Калі спачатку сакрэты і нягоды знешне рэспектабельных суседзяў, пачутыя праз набытае радыё, выклікаюць цікаўнасць Уэсткатаў, то хутка Айрын робіцца сведкай жахлівых сямейных сцэн, бруднай лаянкі, разбэшчанасці, хатняга гвалту. Але перадусім з радыёпрыёмніка гучыць тэма грошай – самая важная тэма размоў. Айрын адчувае жах ад таго, што чуе, але сапраўдны жах у тым, што несправядлівасць, амаральнасць, бессардэчнасць, крывадушнасць маюць не знешнюю прыроду

(“проста выключы, і ўсё”, раіць ёй Джым), але з’яўляюцца сутнасцю чалавека. Адсюль ствараецца пачуццё безвыходнасці, цяжкага суму, якія пакідае гэты ды шматлікія іншыя творы Чывера. Менавіта звычайнасць, тыповасць таго, што здараецца, нарастанне атмасферы напружанасці, звязанае са змяненнем душэўнага стану гераіні, тоесняць гэтае апавяданне з лепшымі ўзорамі гатычнае прозы.

Творчасць амерыканскага пісьменніка з поўдня ЗША *Пітэра Тэйлара (1917 – 1994)* зрабілася неад’емнай часткай амерыканскага літаратурнага працэсу. Тэйлар нарадзіўся ў Трэнтане, штат Тэнесі, рос спачатку ў Нэшвіле, потым у Сэнт-Луісе (там ягоны бацька быў прэзідэнтам страхавой кампаніі) і Мэмфісе, дзе скончыў школу. Пісаць ён пачаў яшчэ ў студэнцкія гады, калі вучыўся ў Паўднёва-Заходнім каледжы ў Мэмфісе, а пазней у Вандэрбільцкім універсітэце. Яго апавяданні і раманы неаднаразова атрымлівалі прэстыжныя літаратурныя ўзнагароды, у тым ліку Пуліцэраўскую прэмію. Адным з першых ацаніў талент маладога пісьменніка Роберт Пэн Уорэн, які напісаў прадмову да зборніка Тэйлара, што выйшаў у 1948 годзе (“Доўгі уік-энд ды іншыя апавяданні”). Уорэн адзначыў наватарства тэмы – “свет сучасных гараджан з сярэдніх слаёў паўднёвага грамадства” — і асаблівую ўвагу аўтара да праблемы разбурэння — пад ціскам змены вартасцяў патрыярхальнай паўднёвай сям’і. Сямейная праблематыка (канфлікт пакаленняў, псіхалогія ўнутрысямейных зносін) нітуецца ў Тэйлара, як і ў многіх пісьменнікаў поўдня ЗША, з “позіркам назад”, пераасэнсаваннем гісторыі і традыцый не толькі ўсяго рэгіёна, але і ўласнай сям’і. У сваёй позняй творчасці Тэйлар выяўляе цікаўнасць да звышнатуральнага, невытлумачальнага. Такія апавяданні пісьменніка, як “Аракул Стоўнлі-Корт”, “Вядзьмарка з Аўл-Маўнцэн-Спрынгс”, “Дэманы” насычаныя гатычнай атрыбутыкай: на іх прасторы адбываюцца загадкавыя смерці, нечаканыя супадзенні, дзейнічаюць празарліўцы, галасы і прывіды. Гэтыя элементы аповеду патрэбныя пісьменніку, каб сутыкнуць героя з мінулым, даць яму шанц прымірыцца з былымі крыўдамі і несправядлівасцю, зазірнуць у глыбіню ўласнае душы.

Традыцыйна звышнатуральнае (прывіды, вампіры, монстры) у гатычнай прозе ўвасабляе жахлівыя сілы зла, класічны прыклад гэтаму – “Франкенштэйн” Мэры Шэлі. А вось у апавяданні Тэйлара “Сапраўдны прывід” — таямнічы прывід “з жывым румяным






тварам”. Ён мільгаціць у люстрах, шыбах і агні каміна і толькі выклікае дрыжанне ў руках галоўнага героя, бо тут прывід павінен не столькі напалохаць чытача, колькі быць каталізатарам працэсу самаспазнання героя. Прывід з’яўляецца таму, што Дэн Кроўлі ўсё яшчэ адчувае эмацыянальную залежнасць ад свайго валявога і ўладарнага бацькі (у якім з цяжкасцю пазнаецца гатычны “ліхадзей”), з чаго яму так складана вырашыць прадаць бацькоўскі дом. Калі разам з дымам у каміне знікае твар прывіда, робіцца зразумела, што выкліканыя ім успаміны пра бацьку, пра ягоныя звычкі і густы, адносіны да жонкі дапамагаюць Дэну Кроўлі пацвердзіць уласную незалежнасць. Сваім літаратурным настаўнікам Тэйлар называў Генры Джэймса — і таму невыпадкова “Сапраўдны прывід” перагукваецца са знакамітым апавяданнем Джэймса “Вясёлы куток”. Абодва тэксты – гэта навелы “ўнутранага падарожжа”, а не адмысловага сюжэта, узоры гатычнае прозы, галоўнай характарыстыкай якой з’яўляецца псіхалагізм, а замест сярэднявечнага замка тут выступае вобраз запоўненага ўспамінамі, нерэалізаванымі планамі, няздзейсненымі марамі дома, эмацыянальна насычаная прастора якога выклікае да жыцця прывіды мінулага.

Тэма “чужаніцы”, “іншага” з’яўляецца адным з галоўных лейтматываў гатычнае прозы. Яна выступае не толькі як важны сюжэтастваральны элемент, але і нясе вялізную сэнсавую нагрузку, бо дае нам выдатную магчымасць зрабіцца сведкамі “двуадзінства” Сусвету. Так, гераіня апавядання “Храм” амерыканскае пісьменніцы, уладальніцы Нацыянальнай кніжнай прэміі *Джойс Кэрал Оутс (нар. 1938)* гвалтоўна вырваная са свайго звычайнага жыцця-напаўзабыцця дзіўным таямнічым гукам, які паступоваператвараецца ў жахлівы дзіцячы крык, што студзіць душу. Оутс з уласцівымі ёй дакладнасцю і ўвагай да самых дробных дэталяў выпісвае ўсе адценні і паўтоны гэтага гуку, па-майстэрску ствараючы атмасферу напружанага чакання і нервовага ўзрушэння. Пісьменніца дазваляе нам адчуць, наколькі самотная і бездапаможная гэтая прагная да кахання, пяшчоты, душэўнае цеплыні жанчына. Для яе, адасобленай ад усяго свету, магчыма, упершыню пакінуўшай уласны дом, знойдзеныя рэшткі невядомага дзіцяці робяцца сэнсам жыцця, прадметам служэння і пакланення. Сапраўдным гатычным каларытам афарбаваныя апісанні

знойдзенага “скарбу”: аніводная дэталь не можа схавацца ад уважлівага позірку жанчыны.

Заключная частка апавядання па сваёй танальнасці супрацьпастаўляецца ўсяму папярэдняму тэксту: у апошніх радках гучаць матывы біблейскае прытчы, своеасаблівай прыхаванай маралі. Зусім нечакана ў тканіну аповеду ўплятаецца яшчэ адзін часавы пласт – будучыня, якая, аднак, “будзе яшчэ не вельмі хутка”. Як толькі гераіня апавядання ператварае сваю спачывальню ў храм, прынёсшы туды рэшткі дзіцяці, яе далейшае жыццё набывае характар “надчасавага” існавання, цэнтрам якога становіцца тое своеасаблівае бажаство, якому яна пакланяецца. Такім чынам, межы звычайнага, як гэта часта бывае ў Оутс, размываюцца, а дэталі будзённасці ў святле якога-небудзь нечаканага здарэння складаюцца ў дзіўную мудрагелістую карціну гатычнага аповеду з яго псіхалагізмам і містыфікацыямі. Менавіта гэтыя асаблівасці гатычнай прозы заўсёды прыцягвалі Джойс Кэрал Оутс, творчыя пошукі і эксперыменты якой межаў не ведаюць. “Готыка, — сцвярджае пісьменніца, — мае глыбокія карані ў верагоднасці псіхалагічных дэталяў”, таму ў яе творах так шмат цікаўнасці да самых тонкіх адценняў псіхічнага стану герояў, што вызначае іх паводзіны і стасункі з іншымі людзьмі.

Абсалютна іншай паўстае рэальнасць у апавяданні Урсулы Ле Гуін “Кот Шродынгера”. *Урсула Ле Гуін (нар. 1929)* – амерыканская пісьменніца, якая атрымала сусветнае прызнанне перш за ўсё як фантаст (у яе арсенале шматлікія прэміі Нэб’юла і Х’юга), хаця яна напісала таксама аб’ёмны гістарычны раман “Малафрэна”, чарадзейную трылогію аб Земнамор’і, зборнікі вершаў, апавяданняў ды эсэ і мноства крытычных артыкулаў. Вельмі дакладны сімвал, што нябачна лунае над усімі старонкамі кніг Ле Гуін, – старажытнаўсходні знак “інь і янь”. Дзве злітыя ў акружнасці “коскі”, цёмная і светлая, якія супрацьстаяць і адначасова дапаўняюць адна адну. Гэта і ёсць той момант, калі “святло – левая рука цемры, а цемра – правая рука святла”. Адзін з лепшых раманаў пісьменніцы так і называецца “Левая рука цемры”.

Старажытная мудрасць рэлігійна-філасофскага вучэння дао, адданасць якому пісьменніца не толькі не хавае, але пастаянна падкрэслівае, дзіўным чынам набывае ў яе кнігах новае, “касмічнае” гучанне. “Дао” азначае “шлях”. Ён адзіны для ўсіх, але тое, што чалавек сустрэне на шляху, у значнай ступені залежыць ад яго самога. Так гераіня, ад імя якое напісана апавяданне “Кот Шродынгера”, сустракае на шляху пару, “якая проста на частні развальвалася”. Вобразы распаду, разбурэння сталых нормаў і сувязей пранізваюць усё апавяданне і робяць яго вельмі падобным да гатычнага аповеду. З першых радкоў у яго ўваходзіць прысутнасць нечага надзвычайнага і трывожнага, што людзі няздольныя кантраляваць. Увесь шэраг падзей у апавяданні разгортваецца пад знакам бяды. Чытач пастаянна адчувае, што здарылася нешта жахлівае, бо вынікі гэтага “нечага” бачныя паўсюль: няўхільна павышаецца тэмпература цвёрдых целаў, пастаянна расце хуткасць руху жывых істотаў. Усё гэта, безумоўна, палохае гераіню, аднак яшчэ больш палохаюць не гэтыя таямнічыя змены, прырода якіх застаецца таямніцай, а тое, з якой гатоўнасцю і фаталізмам яна іх успрымае, цярпліва і са стаічным спакоем чакаючы непазбежнай развязкі. Па форме апавяданне “Кот Шродынгера” — яркі і самабытны прыклад постмадэрнісцкага тэксту. Яго адкрытая ўмоўнасць, выразная інтэртэкставасць, татальная фрагментарнасць дазваляюць па заслугах ацаніць майстэрства Урсулы Ле Гуін у стварэнні гнятлівага пачуцця трывогі, якое адчувае кожны чалавек у хутказменлівым сучасным свеце.

Падсумуем: амерыканская готыка XX стагоддзя развівалася, абапіраючыся на традыцыі роданачальнікаў жанру, англійскіх пісьменнікаў XVIII стагоддзя і творчасць амерыканскіх пісьменнікаў XIX стагоддзя. У арсенале кожнага пісьменніка, чые апавяданні публікуюцца тут, свае, асаблівыя прыёмы перадачы гатычнага светаўспрымання. Відавочна, аднак, што інтраспектыўнасць, накіраванасць на асвятленне ўнутраных глыбіняў чалавечае душы, цікаўнасць да таямнічага, містычнага, невядомага, стварэнне напружанай атмасферы, філасофскія развагі аб супярэчнасці чалавечае асобы і неадназначнасці яе праяваў былі і застаюцца характэрнымі рысамі гатычнае прозы.

**Ірына КУДРАЎЦАВА,**
**Наталля КАЛЯДКА**



Говард Лаўкрафт

# ЧУЖАНІЦА

Няшчасны той чалавек, якому ўспаміны дзяцінства прыносяць толькі страх і горыч. Няшчасны той, хто толькі азіраецца на доўгія гадзіны, праведзеныя ў вялікіх змрочных пакоях з цёмнымі цяжкімі шторамі і варожымі шэрагамі старадаўніх кніг ды прыгадвае вячэрнія шпацыры сярод гратэскавых, гіганцкіх, аблытаных плюшчом дрэваў, якія моўчкі калыхаюць свае галіны. Вось такі лёс падарылі мне багі – мне, ашаломленаму, расчараванаму, пакінутаму, спустошанаму. Але я па-дзіўнаму спакойны і чапляюся з усяе моцы за гэтыя прыкрыя ўспаміны, як толькі памяць мая спрабуе перакуліцца на *той бок*.

Я не ведаю, дзе нарадзіўся, але той замак быў неверагодна стары і неверагодна жахлівы – з цёмнымі калідорамі і высокай столлю, на якой бачна было адно павуцінне ды цені. Камяні ў здзічэлых калідорах заўсёды выглядалі непрыемна вільготнымі, паўсюль стаяў гідкі пах, як быццам гэта смярдзелі мерцвякі з розных стагоддзяў. У замку пастаянна было цёмна, таму я часта запальваў свечкі і доўга глядзеў на муры, а на вуліцы ніколі не было сонца, бо жахлівыя дрэвы







ўздымаліся вышэй за самую высокую вежу. Але была адна чорная вежа, якая ўзнімалася над дрэвамі і глядзела ў невядомае мне неба; яна была часткова разбураная, і на яе падняцца можна было толькі па сцяне, па голых цаглінах.

Я жыў у гэтым месцы гадамі, аднак час вымяраць не ўмеў. Нехта, напэўна, павінен быў задавальняць мае патрэбы, але я не магу прыгадаць аніводнага чалавека, акрамя мяне, аніводнае жывое істоты, за выключэннем пацукоў, кажаноў і павукоў. Я думаю, што той, хто наглядаў за мной, быў вельмі стары, бо мае дзіцячыя ўспаміны пра жывога чалавека малявалі некага падобнага да мяне, але скукожанага, старога, няўклюднага, як і сам замак. Косткі і шкілеты, што ляжалі там-сям у некаторых пакоях, асабліва ў лёхах, не ўяўляліся мне чымсьці надзвычайным ці страшным. Я асацыяваў іх са штодзённымі падзеямі, і для мяне яны былі больш натуральныя, чым каляровыя выявы людзей, якія я сустракаў у запляснелых кнігах. Усяму, што я ведаю, я навучыўся з гэтых кніг. У мяне не было настаўніка, і я не памятаю, каб я чуў чалавечы голас за ўсе гэтыя гады, нават свой уласны, бо хаця я і чытаў пра дар мовы, але сам нават не спрабаваў прамаўляць. Не ведаў я і пра ўласны выгляд, паколькі ў замку не было люстраў – таму я інстынктыўна лічыў сябе падобным да аднаго з тых маладых людзей, малюнкі якіх бачыў у кнігах. Я быў упэўнены ў сваім маладым узросце, бо так няшмат памятаў.

Я часта выходзіў з замка, ляжаў на мяккім імху пад цёмнымі нямымі дрэвамі і гадзінамі марыў аб тым, пра што прачытаў у кнігах; я ўяўляў сябе ў сонечным святле сярод вясёлага натоўпу, што віраваў за бясконцымі лясамі. Аднаго разу я паспрабаваў збегчы з лесу, але чым далей адыходзіў ад замку, тым больш цёмна рабілася і тым больш моцным рабіўся страх; таму я хутка пабег назад, пакуль не згубіўся ў лабірынце чорнае цішыні.

Урэшце, мне нічога не заставалася, як марыць у бясконцым змроку і чакаць, хаця я і не ведаў, нашто чакаю. Але аднойчы мая прага святла зрабілася настолькі неўтаймаванай, што я не мог болей заставацца ў спакоі і працягнуў рукі да адзінае вежы, якая падымалася над лесам і глядзела ў невядомае мне неба. Неўзабаве я вырашыў падняцца на вежу, хаця, караскаючыся на яе, мог

зваліцца; лепей убачыць неба і памерці, чымсьці пражыць жыццё, не ведаючы нават, што такое дзень.

У вільготным змроку я падымаўся па старых каменных сходах, пакуль не дайшоў да таго месца, дзе яны абрываліся, пасля чаго асцярожна рухаўся па друзу ля самога мура. Гэты каменны мёртвы калодзеж быў гідкі і жахлівы; чорны, разбураны, усімі пакінуты, толькі кажаны бязгучна лёталі над галавой. Чым марудней я рухаўся, тым большаў жах; хаця я і падымаўся, цемра наверсе не рабілася меншай, на мяне наваліўся холад ад цвілі на мурах. Я здрыгануўся, падумаўшы, што магу не дайсці да святла – і пабаяўся паглядзець уніз. Мне падалося, што раптоўна надышла ноч. Я пацягнуўся рукой да вузкай байніцы, каб выглянуць вонкі, а таксама даведацца, наколькі высока я падняўся, але ў мяне нічога не атрымалася.

І раптам, пасля бясконцага вусцішнага пад'ёму ў абсалютнай цемры і адчайнай небяспецы, я адчуў, як галава мая дакранулася да нечага цвёрдага, і зразумеў, што дайшоў да даху, або да перагародкі іншага паверха. Я падняў вольную руку і памацаў перагародку: яна была каменная. З паднятай рукой я паволі крочыў паўз мур вежы, пакуль не адчуў, што перагародка заварушылася, я піхнуў мацней абедзвюма рукамі, і каменны люк пачаў падымацца. Святла там не было, рука пасунулася вышэй, і я зразумеў, што мая вандроўка скончылася. Люк вёў на каменную пляцоўку, што была значна больш шырокая, чым ніз вежы; гэта, напэўна, быў нейкі вялікі пакой для назірання. Я асцярожна пралез праз люк і паспрабаваў утрымаць яго паднятым, аднак ён з грукатам зачыніўся. Я без сілаў ляжаў на каменнай падлозе і слухаў дзіўнае рэха ад падзення люка, спадзеючыся, што яго можна будзе адкрыць, калі спатрэбіцца вяртацца.

Палічыўшы, што я на вялікай вышыні, над лесам, паволі падняўся і пачаў шукаць вокны, праз якія першы раз у жыцці змог бы пабачыць неба, месяц і зоркі, пра якія так шмат чытаў. Але мяне чакала расчараванне: мае рукі ўсюды натыкаліся на вялікія мармуровыя паліцы з вялізнымі скрынямі. Якія жахлівыя таямніцы могуць хавацца ў гэтым пакоі, што знаходзіцца так высока над маім замкам. Раптам мае рукі намацалі дзверы з каменным парталам, на якім было выбіта нешта незразумелае. Дзверы





аказаліся зачыненымі, аднак я адчуў прыліў вялікае моцы і, пацягнуўшы іх на сябе, расчыніў. Адразу ж я адчуў найвялікшы экстаз майго жыцця: праз краты свяціла поўня, асвятляючы сходы, што вялі ад гэтых дзвярэй. Нават у сваіх марах і візіях, якія цяжка назваць успамінамі, я не бачыў нічога падобнага.

Я вырашыў, што гэта мяжа замку, і пабег быў наверх па сходах, аднак раптам месяц схаваўся за хмарай, і я, спатыкнуўшыся, пайшоў далей больш павольна. Калі я падняўся да брамы, усё яшчэ было вельмі цёмна; я асцярожна кранууў браму, якая аказалася незачыненай, аднак я адчыняў яе вельмі павольна, бо баяўся ўпасці з тае вышыні, на якой знаходзіўся. З-за хмары зноў вызірнуў месяц.

Нічога падобнага я не чакаў і таму не мог паверыць у тое, што ўбачыў. Нішто з таго, што здаралася са мной дагэтуль, нельга было параўнаць з тым, што я бачыў цяпер: усё было да жахлівага цудоўна. Відарыс быў просты і адначасова чароўны: вакол мяне распасціралася даліна, пазастаўленая мармуровымі калонамі і руінамі, непадалёк знаходзілася старажытная царква, і яе паўразбураны шпіль блішчэў у святле месяца.

Я быў напалову непрытомны ад убачанага; адчыніў браму і паволі выйшаў на сцежку белага жвіру, што кіравала ў двух напрамках. Мой розум працаваў хаатычна, але з гэтага мая прага святла не змяншалася. Нават той фантастычны краявід, што мяне ўразіў, не мог перабіць гэтае прагі. Я не ведаў дый не задумваўся над тым, было ўбачанае трызненнем вар'ята, сном або магіяй; у кожным разе, я хацеў пабачыць святло і вяселле натоўпу любым коштам. Я не ведаў ані таго, кім або чым я быў, ані таго, што мяне абкружае. Я марудна крочыў наперад, заўважаючы, што мая памяць пачала прыгадваць нешта, чаго я ведаць не мог. Я прайшоў пад аркай мармуровай калоны і выйшаў у чыстае поле; часам дарогу было бачна, а часам яна хавалася ў траве, і толькі руіны падказвалі, што раней дзесьці тут быў гасцінец. Я нават пераплыў раку, дзе вялізныя, заімшэлыя цвіллю камяні нагадвалі, што калісьці тут быў мост.

Мінула, мабыць, дзве гадзіны, калі я апынуўся ля таго, што, магчыма, было маёй мэтай: паросны плюшчом замак у моцна зарослым парку, які быў да болю знаёмы і адначасова абсалютна

чужы. Я ўбачыў, што роў вакол замку быў поўны вады, а некалькі раней знаёмых мне вежаў стаялі разбураныя, затое былі прыбудаваныя новыя крылы да асноўнага будынку. Але мяне найбольш цікавілі адкрытыя вокны – з іх лілося святло і чуліся гукі шумнае вечарыны. Падышоўшы да аднаго акна, я зазірнуў унутр і ўбачыў дзіўна апранутых людзей, якія весяліліся і сумоўнічалі паміж сабой. Дагэтуль я ніколі не чуў чалавечага голасу, таму амаль не разумеў, пра што ішла гаворка. Некаторыя твары чамусьці падаліся мне крыху знаёмымі, іншых я абсалютна не ведаў.

Я ўвайшоў праз адчыненыя шкляныя дзверы ў ярка асветлены пакой, і гэтым крокам праміную сваё адзінае добрае перажыванне, каб абрынуцца ў прадонне самага пакутнага адчаю. Кашмар пачаўся амаль адразу, бо не паспеў я ўвайсці, як у зале адбылося нешта жахлівае. Усе прысутныя на вечарыне пачалі лямантаваць, твары іх крывілі грымасы страху. У паніцы яны пабеглі з пакоя, некалькі чалавек знепрытомелі і ўпалі на падлогу; іх давялося цягнуць да выхаду. Многія закрывалі вочы рукамі, беглі напаўсляпую, пераварочвалі мэблю, натыкаліся на сцены і з цяжкасцю знаходзілі дзверы.

Гэта быў агульны шок. Я стаяў у ярка асветленым пакоі адзін, ашаломлены, слухаючы крыкі, што паволі знікалі ўдалечыні. Я дрыжаў, спрабуючы здагадацца, што ж такое жахлівае магло знаходзіцца побач са мной. На першы позірк пакой падаваўся абсалютна пустым, але калі я накіраваўся да аднаго з альковаў, то пачуў, быццам там нехта ёсць – хтосьці рушыў праз залатую арку дзвярэй, што вялі да іншага пакоя, які быў вельмі падобны да гэтага. Падыходзячы да аркі, я ўсё мацней адчуваў прысутнасць гэтае істоты, потым, выдаўшы першы і апошні ў маім жыцці гук — пудлівае краканне, якое напалохала мяне не менш за тое, што яго выклікала, – я ў поўны рост убачыў жудасную, неапісальную, страхотную пачвару, якая адным сваім выглядам пераменіла вясёлы натоўп у статак перапалоханых уцекачоў.

Я не ў стане нават распавесці пра тое, як яна выглядала, бо гэта было мяшанкай з усяго бруднага, жахлівага, непагляднага, ненармальнага ды пачварнага. Гэта была сумесь гніення, старызны і распаду; агідны прывід непатрэбшчыны, гідкае стварэнне, якое ніколі не павінна было з'явіцца на зямлі. Гэта было нешта не з гэтага свету, аднак я з жахам убачыў у яго згнілых рысах нейкае падабенства да чалавечае істоты і разам з тым здзек над чалавекам; а ў яго цвілым вобліку нейкую невымоўную якасць, якая палохае мяне і цяпер.

Мяне амаль спаралізавала, праўда, я нават паспрабаваў, хаця і не вельмі ўдала, біцца з гэтай агідай. Але не здолеў разбіць чорныя чары безгалосага кашмару, што трымалі мяне пры монстры. Мае вочы не маглі адарвацца ад бязбровых шклопадобных шароў, якія неадрыўна глядзелі на мяне не міргаючы. Дзякуй Богу, пасля першага шоку мае зрэнкі засціў нейкі змрок, і я не мог дакладна бачыць пачвару. Я паспрабаваў узняць руку, каб цалкам засланіць вочы, аднак быў настолькі ўражаны, што рука не слухалася мяне. Праз памкненне да гэтага руху я страціў раўнавагу і вымушаны быў зрабіць некалькі крокаў наперад, каб не ўпасці. Зрабіўшы гэта, я адчуў палохаючую *блізкасць* монстра, мне нават падалося, што я адчуваю ягоны подых. Я выставіў наперад руку, каб адхіснуць ад сябе пачвару, якая была так блізка, – і ў гэты момант, самы жудасны момант майго жыцця, *мае пальцы дакрануліся да халоднай лапы монстра, які схаваўся пад залачонай аркай*.

Я не закрычаў, але замест мяне закрычалі ўсе вурдалакі, якія падарожнічаюць з начным ветрам, і на мяне, быццам снегавая лавіна, абрынуліся ўспаміны маёй душы. Вокамгненна я ўспомніў, што адбывалася за страхалюдным замкам і змрочнымі дрэвамі, я ўзгадаў крыху зменены будынак, у якім цяпер знаходзіўся, аднак самае жахлівае было тое, што я пазнаў той вусцішны прывід, які стаяў перада мной, адхапіўшы свае пальцы ад маіх.

Але ў сусвеце ёсць лек на ўсе хваробы, і лек гэты – забыццё. У надзвычайным жаху таго імгнення я забыўся, што ж так напалохала мяне, і выбух чорных успамінаў расплыўся ў хаосе самых розных уяўленняў. У сне я паімчаў з гэтага жудаснага месца; я бег моўчкі пад святлом месяца. Калі я дабег да пакоя, з якога наверх вялі сходы, то аказалася, што каменны люк зрушыць немагчыма, аднак гэта мяне не спалохала, бо я ненавідзеў страхалюдны замак і яго змрочныя дрэвы. Цяпер я лётаю з сябрамі-вурдалакамі на начных вятрах, а днём гуляю ў катакомбах

Нефрэн-Ка ў нікому не вядомай даліне Гадота ля Ніла. Я ведаю, што святло не для мяне, хіба што святло месяца над грабніцамі Ментухатэпа; не для мяне і весялосць, хіба толькі святы Нітокрыса пад вялікімі пірамідамі; аднак у маёй новай дзікай свабодзе я амаль рады жорсткасці адчужэння.

Бо хаця забыццё супакоіла мяне, я заўсёды буду памятаць, што я – чужаніца; я чужы гэтаму стагоддзю і кожнаму, хто пакуль што чалавек. Я ведаю гэта з таго імгнення, калі працягнуў руку да жахлівае пачвары ўнутры залачонае аркі – я працягнуў руку і адчуў *халад цвёрдае паверхні адпаліраванага люстра.*



Джон Чывер

# *ВЯЛІЗНАЕ РАДЫЁ*

Джым і Айрын Уэсткат належалі да тых людзей, якія здольныя сяго-таго дасягнуць у жыцці, прынамсі, іх здольнасцяў хапала, каб патрапіць у статыстычны зборнік каледжа, які адзначаў поспехі сваіх выпускнікоў. Яны мелі дваіх дзяцей, былі ў шлюбе дзевяць год, жылі на трынаццатым паверсе высотнага дома непадалёк ад Сатн-Плейс, хадзілі ў тэатр у сярэднім 10,3 разы на год і спадзяваліся, што аднаго дня будуць жыць у Вестчэстэры. Айрын Уэсткат была прыемная, хаця і не вельмі прыгожая жанчына з мяккімі рудаватымі валасамі і шырокім ілбом, на якім нічога не было напісана; у халоднае надвор'е яна насіла паліто з шашка, перафарбаванага пад норку. Нельга сказаць, што Джым Уэсткат выглядаў маладзей за свае гады, аднак, гледзячы на яго, вы маглі, прынамсі, сказаць, што пачуваўся ён маладзейшым. Сівеючыя валасы Джым абразаў коратка, апранаўся гэтаксама, як ягоныя аднакласнікі ў Андоверы, манеры меў шчырыя і знарок наіўныя. Уэсткаты адрозніваліся ад сваіх сяброў, аднакласнікаў і суседзяў толькі тым, што захапляліся сур'ёзнай музыкай. Яны часта хадзілі на канцэрты – хаця і рэдка расказвалі пра гэта іншым, – і даволі шмат часу праводзілі, слухаючы музыку па радыё.

Радыё было старое, падпсаванае, вельмі далікатнае, і адрамантаваць яго было ўжо немагчыма. Яны не разумелі, як радыё працавала – тое самае тычылася і ўсіх механічных прыладаў, – таму, калі яно працавала кепска, Джым пляскаў па ім далонню. Часам гэта дапамагала. Аднойчы ў нядзелю, проста пасярэдзіне квартэта Шуберта, музыка знікла. Джым некалькі разоў пляснуў па радыёпрыёмніку, аднак музыка не аднавілася, і Шуберт быў страчаны назаўсёды. Тады Джым паабяцаў Айрын купіць новы прыёмнік, і калі ў панядзелак вярнуўся з працы, сказаў, што яны маюць новае радыё і яно будзе для яе сюрпрызам.

Радыё прывезлі наступнага дня. З дапамогай пакаёўкі і грузчыка Айрын распакавала яго і прынесла ў вялікі пакой. Яе ўразіла тое, што скрыня радыё, зробленая з эўкаліпту, была вельмі непрыгожая.

Айрын вельмі ганарылася вялікім пакоем, яна сама набыла для яго мэблю, а шпалеры з фіранкамі выбірала гэтаксама пераборліва, як адзенне для сябе, таму цяпер ёй падалося, што радыё паўстала сярод яе любімых рэчаў як агрэсар і захопнік. Яна была збітая з панталыку вялікай колькасцю кнопак і рычажкоў і доўга вывучала іх перад тым, як падключыць агрэгат да разеткі. Прыборны шчыток заліло злаславае зялёнае святло, і яна пачула слабы гук квінтэта піяністаў. Музыка была ціхая толькі напачатку, з хуткасцю, большай за хуткасць святла, кватэра запоўнілася музыкай настолькі гучнай, што з паліцы амаль не зляцела парцаляна. Яна кінулася да радыё і зменшыла гук. Тая магута

гуку, што знаходзілася ў эўкаліптавай скрыні, напалохала яе. Са школы прыйшлі дзеці, і яна павяла іх у парк. Толькі ўвечары яна вярнулася да радыё.

Пакаёўка прыгатавала дзецям вячэру і цяпер налівала для іх ваду ў балею. Айрын уключыла радыё, зменшыла гук і села слухаць квінтэт Моцарта, які добра ведала і любіла. Музыка гучала выдатна. Новы прыёмнік меў значна больш выразны тэмбр, падумала яна, чым стары. Айрын вырашыла, што тэмбр – гэта больш істотна за няўклюдную скрыню, якую можна схаваць за канапай. Аднак не паспела яна гэтым суцешыцца, як пачаліся новыя непрыемнасці. Раптам пачуўся лёгкі трэск, быццам гарэў бікфордавы шнур, і перабіў мелодыю скрыпак. Далей музыка іграла на фоне нейкага гуку, які нагадаў ёй мора, потым абертонаў з'явілася болей. Яна круціла рычажкі, націскала кнопкі, аднак старонніх гукаў не менела. Расчараваная Айрын села ў фатэль. Шахта ліфта ў гэтым будынку праходзіла побач з вялікім пакоем, з гэтага, пэўна, і былі на радыё памехі. Шоргат ад тросаў ліфта, стукат дзвярэй, якія то зачыняліся, то адчыняліся, чуліся ў яе радыё. Яна сцяміла, што прыёмнік вельмі адчувальны да электрычных раздражняльнікаў. Але тут скрозь музыку Моцарта яна пачула званок тэлефона, набор нумара па тэлефоне і выццё пыласоса. Прыслухоўваючыся больш уважліва, яна стала разрозніваць дзвярныя званкі і званкі ліфта, гудзенне электрабрытвы і кухоннага міксера – усе гэтыя гукі ішлі з суседніх кватэраў і чуліся праз рэпрадуктар. Непрыгожы прыёмнік са сваёй надзвычайнай чуйнасцю быў для яе залішне складаным інструментам, таму яна выключыла яго і пайшла да дзяцей.

Калі Джым Уэсткат прыйшоў таго вечару дадому, то адразу накіраваўся да радыё і ўключыў яго. Ён пачуў тое самае, што і Айрын. На станцыі, якую абраў Джым, прамаўляў мужчына, ягоны голас з ціхага ў імгненне зрабіўся такім голасным, што ўся кватэра здрыганулася. Джым зменшыў гук. Хвіліны праз дзве пачаліся перашкоды. Чуліся дзвярныя званкі і званкі тэлефонаў, шоргат дзвярэй ліфта і бурчэнне кухонных прыладаў. Характар шумаў змяніўся з таго часу, як іх слухала Айрын: электрабрытвы ўжо не працавалі, пыласосы вярнуліся на свае месцы – таму шумы цяпер адлюстроўвалі хатняе вечаровае жыццё. Джым






пакруціў рычажкі, аднак шумы не знікалі, таму ён выключыў радыё і сказаў Айрын, што ранкам патэлефануе тым, хто прадаў гэты прыёмнік, і выкажа ім усё, што ён пра іх думае.

Наступнага дня, калі Айрын вярнулася дамоў пасля сустрэчы з сяброўкай, пакаёўка сказала, што прыходзіў майстар і адрамантаваў радыё. Айрын прайшла ў вялікі пакой, не здымаючы капелюша і футра, і ўключыла прыёмнік. З рэпрадуктара пачуўся запіс "Вальсу Місуры". Запіс нагадаў ёй музыку са старога фанографа, які яна часам чула на возеры, дзе жыла ўлетку. Айрын даслухала вальс, чакаючы тлумачэння такой кепскай якасці запісу, але тлумачэння не было. Пасля музыкі задоўжылася цішыня, потым стары запіс паўтарыўся. Яна пакруціла ручку настройкі і пачула гукі каўказскае музыкі – пляскат босых ног і звон маністаў – аднак на фоне гэтай музыкі раптам пачуліся званкі і нейкія галасы. Тут са школы прыбеглі дзеці, і Айрын выключыла радыё.

Стомлены Джым вярнуўся дадому позна. Ён памыўся, пераапрануўся і толькі потым прайшоў у вялікі пакой да Айрын. Не паспеў Джым уключыць радыё, як пакаёўка паклікала іх да стала, таму радыё засталося ўключаным, калі яны з Айрын вячэралі.

Джым быў надта стомлены, каб нават размаўляць, з чаго ўвага Айрын вандравала ад ежы да срэбных падсвечнікаў і далей, да музыкі ў суседнім пакоі. Яна некалькі мінут слухала прэлюдыю Шапэна, а потым са здзіўленнем пачула голас мужчыны. "Божа, Кэці, – сказаў той, – ты што, не можаш не іграць на піяніна, калі я дома?" Музыка раптам спынілася. "Ды ў мяне больш магчымасці няма, – адказала жанчына. – Я ўвесь дзень у офісе." "Я таксама", – сказаў мужчына. Потым ён брудна вылаяўся наконт адкрытага піяніна і бразнуў дзвярыма. Меланхалічная і страсная музыка ўзнавілася.

– Ты чуў? – спытала Айрын.

– Што? – Джым якраз еў дэсэрт.

– Радыё. Мужчына нешта сказаў, калі іграла музыка... нешта бруднае.

– Магчыма, гэта п'еса.

– Я так не думаю, – сказала Айрын.

Яны ўсталі ад стала і пайшлі піць каву ў вялікі пакой.

Айрын папрасіла Джыма знайсці іншую станцыю. Ён павярнуў ручку. "Ты мае шлейкі не бачыла?" – спытаў мужчына. "Дапамажы мне зашпіліцца", – папрасіла жанчына. "Дык дзе ж мае шлейкі?" – паўтарыў мужчына. "Дапамажы зашпіліцца, і знайду я твае шлейкі", – запэўніла жанчына. Джым памяняў станцыю. "Калі ласка, не кідай недагрызкі ў попельніцу, – абурыўся мужчына. – Ненавіджу гэты пах."

– Дзіўна, – сказаў Джым.

– І я пра тое ж, – прамармытала Айрын.

Джым зноў пакруціў ручку. "Дзе лятаті, пчолкі? – пачуўся голас жанчыны з яўным брытанскім акцэнтам. – На лужку".

– Божа! – крыкнула Айрын. – Гэта ж нянька Суіні.

"Што адтуль прынеслі? – Сподачак мядку", – працягваў голас з брытанскім акцэнтам.

– Выключы, – папрасіла Айрын. – Магчыма, яны могуць чуць нас.

Джым выключыў радыё.

– Гэта была панна Армстранг. Нянька Суіні, – сказала Айрын. – Яна, пэўна, чытае калыханку дзяўчынцы. Яны жывуць у кватэры 17-Б. Я размаўляла з паннай Армстранг у парку. Я вельмі добра ведаю яе голас. Мы, пэўна, чуем, што адбываецца ў іншых кватэрах.

– Гэта немагчыма, – сказаў Джым.

– Гэта, напэўна, нянька Суіні, – горача сказала Айрын. – Я ведаю яе голас. Вельмі добра ведаю. Цікава, нас яны чуць могуць?

Джым павярнуў ручку прыёмніка. Спачатку нібы здалёк, а потым усё бліжэй, быццам голас прыносіў сюды вецер, пачуўся выразны акцэнт нянькі Суіні: "Запрашае бегемот, — сказала яна, – Калі ласка, кашалот."

Джым падышоў да радыё і голасна сказаў у рэпрадуктар:

– Гэй!

"У маё плыві балота, – працягвала нянька. – У балота? Неахвота."

– Па-мойму, яны нас не чуюць, – сказала Айрын. – Паспрабуй іншую станцыю.

Джым знайшоў іншую станцыю, і пакой запоўнілі гукі вясёлае вечарыны. Хтосьці іграў на піяніна і спяваў гуллівую песенку, іншыя весела яму падпявалі. "Пакаштуйце яшчэ сандвічаў", – крыкнула жанчына. Пачуліся крыкі, смех, на падлогу ўпала талерка і разбілася.

– Гэта, напэўна, Фулеры з 11-Е, – сказала Айрын. – Яны сёння збіраліся арганізаваць вечарыну. Я бачыла яе ў гарэлачнай краме. Гэта так дзіўна. Паспрабуй што-небудзь яшчэ. Паглядзім, ці зможам мы пачуць сям'ю з 18-Ц.

Таго вечару Уэсткаты пачулі маналог пра рыбную лоўлю ў Канадзе, гульцоў у брыдж, каментары пра кіно, якое нехта паглядзеў два тыдні таму на Сі-Айлэндзе, і жорсткую сямейную сцэну, што распачалася з-за недахопу грошай на банкаўскім рахунку. Апоўначы яны выключылі радыё і пайшлі спаць, ледзьве рухаючыся ад смеху.

Недзе ўначы сын папрасіў вады, і Айрын занесла шклянку да дзіцячага пакоя. Было вельмі рана. Ніводнае акно не свяцілася, з акна дзіцячага пакоя яна бачыла пустую вуліцу. Айрын прайшла ў вялікі пакой і ўключыла радыё. Пачуўся слабы кашаль, стогн, а потым мужчына запытаў: "Усё ў парадку, дарагая?" "Так, – стомлена адказала жанчына. – Са мной усё добра". Потым яна дадала: "Ведаеш, Чарлі, я ўжо не пачуваюся сама сабой. Часам ёсць на тыдні хвілін пятнаццаць або дваццаць, калі я пачуваюся, як раней. Але я не хачу ісці да іншага доктара, бо рахункі і так проста жахлівыя, аднак я не пачуваюся, як раней, Чарлі. Я ніколі не адчуваю сябе дастаткова добра." Яны не вельмі маладыя, падумала Айрын. Стрыманая меланхолія дыялогу і скразняк з акна спачывальні прымусілі яе здрыгануцца, і яна вярнулася ў ложак.

Наступным ранкам Айрын згатавала снеданне для сям'і – пакаёўка не паднімалася са свайго пакоя на першым паверсе раней за дзесятую, – запляла дачцэ касу і пастаяла ў дзвярах, пакуль дзяцей і мужа не звёз ліфт. Потым яна прайшла ў вялікі пакой і ўключыла радыё. "Не хачу ісці ў школу, – закрычаў хлопчык. – Ненавіджу школу. Не хачу ісці ў школу. Я яе ненавіджу". "Ты пойдзеш у школу, — сказала раззлаваная жанчына. – Мы заплацілі васемсот долараў, каб ты хадзіў у гэтую школу, і ты будзеш у яе хадзіць, нават калі паміраць будзеш". На наступнай станцыі іграла

старая пласцінка з "Вальсам Місуры". Айрын круціла ручку і раз-пораз трапляла на снеданне розных сем'яў. Яна чула праявы нястраўнасці, платанічнага кахання, бязмежнае мора пыхі, даверу і адчаю. Жыццё Айрын было простае і невыразнае, таму рэзкая і часам брудная мова, што неслася з рэпрадуктара, здзівіла яе і занепакоіла. Яна хутка выключыла радыё, бо раптам зразумела, што яе дзеянні нагадваюць падглядванне.

Таго дня Айрын днём сустракалася з сяброўкай і пайшла з хаты адразу апоўдні. Калі ліфт спыніўся на яе паверсе, у кабіне было некалькі жанчын. Яна паглядзела на іх прыгожыя спакойныя твары, на футры, штучныя кветкі ў капелюшах. "Якая з іх была на Сі-Айлэндзе? – падумала яна. – Якая перавысіла банкаўскі крэдыт?" Ліфт спыніўся на дзесятым паверсе, і да іх далучылася жанчына з парай скай-тэр'ераў. Яе валасы былі высока зачэсаныя пад норкавы капялюш. Жанчына напявала "Вальс Місуры".

Падчас абеду Айрын піла марціні, зацікаўлена глядзела на сяброўку і думала, якія тая мела сакрэты. Па абедзе яны меліся пайсці на закупы, але Айрын перадумала і вярнулася дадому. Пакаёўцы яна сказала, каб тая яе не турбавала, зачыніла дзверы ў вялікім пакоі і ўключыла радыё. Айрын праслухала маналог жанчыны, што доўга прамаўляла да сваёй цёткі, істэрычнае завяршэнне званага абеду і гаспадыню дому, якая давала пакаёўцы заданні на вечар. "Не налівай лепшы віскі тым, хто яшчэ не мае сівых валасоў, – казала гаспадыня. – Паспрабуй пазбыцца паштэту да таго, як пачнеш падаваць гарачае, і ці не магла б ты пазычыць мне пяць долараў? Трэба падмазаць ліфцёра".

Дзень канчаўся, размовы рабіліся ўсё больш частыя. Са свайго месца Айрын магла бачыць неба над Іст-Рывер. У небе плылі сотні воблакаў, быццам паўднёвы вецер разбіў на кавалкі зіму і цяпер гнаў яе на поўнач, а па радыё яна чула прыход гасцей, вяртанне дзяцей і бізнесменаў са школ і кантораў. "Сёння раніцай я знайшла ў ванным пакоі даволі вялікі дыямент, – сказала жанчына. – Напэўна, выпаў з бранзалета пані Данстан учора ўвечары". "Прададзім яго, – прапанаваў мужчына. – Занясі яго да ювеліра на Мэдысан-Авеню. Пані Данстан не збяднее, а нам пара соцень баксаў не зашкодзіць..." "На лясныя сцежкі, – спявала нянька Суіні, – падаюць арэшкі..." "Гэта не капялюш, гэта любоўная інтрыжка. Так Уолтэр Флорэл сказаў. Ён сказаў, што гэта не капялюш, а любоўная інтрыжка, – потым, крыху цішэй, тая самая жанчына дадала: – Пагавары з кім-небудзь, даражэнькая, пагавары. Калі яна заўважыць, што мы ні з кім не размаўляем, то больш не запросіць да сябе, а мне так падабаюцца гэтыя вечарыны."

Таго дня Уэсткаты вячэралі не дома. Калі Джым вярнуўся з працы, Айрын апранала вечаровую сукню. Яна падалася яму сумнай, і ён прынёс ёй выпіць. Яны сустракаліся з сябрамі, што жылі непадалёк, таму пайшлі туды пешшу. Неба было чыстае. Гэта быў адзін з тых цудоўных веснавых вечароў, які абуджае памяць і страсць, паветра, што кранала іх рукі і твары, было надзвычай мяккае. Аркестр Арміі Ратавання на рагу вуліцы іграў "Ісус салодкі". Айрын узяла мужа за руку і прытрымала яго на хвіліну, каб паслухаць музыку.

– Яны такія цудоўныя, праўда? – сказала яна. – У іх такія прыемныя твары. Яны нашмат лепшыя за тых людзей, якіх мы ведаем.

Яна выняла з вацка банкнот, падышла да аркестра і паклала банкнот у тамбурын. Калі яна вярнулася да мужа, на твары яе быў нейкі шчаслівы і адначасна меланхалічны выраз, якога ён раней не бачыў. Дый яе паводзіны на вячэры таксама падаліся яму дзіўнымі. Яна груба перапыняла гаспадыню і так разглядала ўсіх за сталом, што дзяцей за падобныя паводзіны папросту пакаралі б.

Калі яны вярталіся дадому, надвор'е ўсё яшчэ было выдатнае. Айрын паглядзела ў неба на веснавыя зоркі:

– Як далёка гэтая свечка дасылае сваё святло, – крыкнула яна. – Таксама добры ўчынак свеціць у кепскім свеце.

Тае ночы яна дачакалася, пакуль Джым засне, а потым пайшла ў вялікі пакой і ўключыла радыё.

Наступнага вечару Джым вярнуўся каля шостай. Пакаёўка Эма адчыніла дзверы, ён зняў капялюш і пачаў быў здымаць паліто, калі да яго выбегла Айрын. На яе твары блішчэлі слёзы, а валасы былі ўскудлачаныя.

– Пайдзі ў 16-Ц, Джым! – закрычала яна. – Не распранайся.

Пайдзі ў 16-Ц. Пан Осбарн б'е жонку. Яны лаяліся з чацвёртай гадзіны, а цяпер ён б'е яе. Пайдзі туды і спыні яго.

З радыё ў вялікім пакоі Джым чуў крыкі, лаянку і ўдары.

– Ведаеш, табе не трэба такое слухаць, – сказаў ён. Прайшоў у пакой і выключыў прыёмнік. – Гэта кепска. Быццам у чужыя вокны глядзець. Ты не павінна такое слухаць. Проста выключай, і ўсё.

– Божа, гэта так жахліва, – усхліпвала Айрын. – Я слухала радыё цэлы дзень і так разнервавалася.

– Калі ты нервуешся, чаму тады слухаеш? Я купіў гэтае чортава радыё, каб табе дагадзіць, – сказаў ён. – Заплаціў за яго шмат грошай. Думаў, што табе будзе прыемна. Я хацеў, каб табе было добра.

– Не трэба, не трэба, не трэба са мной сварыцца, – прастагнала яна і паклала галаву яму на плячо. – Усе іншыя сварыліся цэлы дзень. Суцэльныя сваркі, і ўсе размаўлялі пра грошы. Маці пані Хатчынсан памірае ад раку ў Флорыдзе, а яны не маюць дастаткова грошай, каб змясціць яе ў клініцы Маё. Прынамсі, пані Хатчынсан кажа, што яны не маюць на гэта грошай. А адна з жанчын у нашым доме мае інтрыжку са слесарам – брудным слесарам. Гэта так агідна. А ў пані Мэлвіл кепска з сэрцам, а пан Хэндрыкс у красавіку страціў працу, а пані Хэндрыкс вельмі з гэтага злуецца, а дзяўчына, што іграе "Вальс Місуры", шлюха, звычайная шлюха, а ліфцёр мае сухоты, а пан Осбарн біў пані Осбарн.

Яна галасіла і адначасна дрыготкаю рукой выцірала слёзы з твару.

– Ну, і чаму ты гэта слухала? – зноў запытаў Джым. – Чаму ты слухала тое, што так цябе нервуе?

– Не трэба, не трэба, – закрычала яна. – Жыццё такое жахлівае, такое агіднае, такое кепскае. Але мы такія ніколі не былі, праўда, дарагі? Не былі? Мы ўвесь час былі добрыя і сумленныя, кахалі адно аднаго, праўда? Мы маем дваіх дзяцей, дваіх цудоўных дзяцей. Наша жыццё не агіднае, праўда, дарагі? Праўда? – яна абняла яго за шыю і прыцягнула ягоны твар да свайго. – Мы шчаслівыя, праўда, дарагі? Мы шчаслівыя, праўда?

– Вядома, мы шчаслівыя, – стомлена сказаў Джым. – Вядома, мы шчаслівыя. Я папрашу, каб заўтра ж гэтае чортава радыё адрамантавалі або забралі, – ён пагладзіў яе па валасах. – Небарака ты мая, – дадаў ён.

– Ты кахаеш мяне, праўда? – спытала яна. – І мы не пераймаемся дробязямі, не турбуемся аб грашах і не падманваем адно аднаго, праўда?

– Праўда, дарагая, – сказаў ён.

Наступнага ранку прыйшоў майстар і адрамантаваў радыё. Айрын з асцярогай уключыла яго і пачула рэкламу каліфарнійскага віна і запіс Дзевятае сімфоніі Бетховена з "Одай радасці" Шылера. Яна слухала радыё цэлы дзень і не пачула з рэпрадуктара нічога незвычайнага.

Калі вярнуўся Джым, іграла іспанская сюіта.

– Усё добра? – спытаў ён.

Твар яго бледны, падумала яна. Яны выпілі па некалькі кактэйляў і павячэралі пад хор з оперы "Трубадур". Пасля гучала "Мора" Дэбюсі.

– Сёння я заплаціў рахунак за радыё, – сказаў Джым. – Яно каштавала чатырыста долараў. Спадзяюся, што яно прынясе табе хоць крыху задавальнення.

– Я ўпэўнена, што буду задаволеная, – адказала Айрын.

– Чатырыста долараў – гэта значна больш, чым я магу сабе дазволіць, — працягваў ён. – Я хацеў набыць нешта такое, што б табе спадабалася. Гэта апошняя вялікая пакупка ў гэтым годзе. Я тут убачыў, што ты яшчэ свае рахункі за вопратку не аплаціла. Яны на тваім століку ляжаць, – ён сурова паглядзеў на яе. – Чаму ты сказала, што аплаціла іх? Навошта ты мяне падманула?

– Проста не хацела, каб ты хваляваўся, Джым, – сказала яна, адпіўшы крыху вады. – Я аплачу свае рахункі з маіх кішэнных на гэты месяц. У мінулым месяцы былі непрадбачаныя выдаткі, да таго ж тая вечарына...

– Ты павінна навучыцца больш ашчадна распараджацца грашыма, што я даю табе, Айрын, – сказаў ён. – Трэба зразумець, што ў гэтым годзе ў нас не будзе столькі грошай, як у мінулым. Сёння я меў вельмі непрыемную размову з Мітчэлам. Ніхто нічога не купляе. Мы дарэмна трацім час, рэкламуючы новыя тавары. Я

не маладзею, мне ўжо трыццаць сем. Праз год я пасівею. Я не адчуваю сябе так добра, як бы гэтага хацеў. І не думаю, што справы пойдуць лепш.

– Так, дарагі, – пагадзілася яна.

– Нам трэба пачаць ашчаджаць грошы, – сказаў Джым. – Трэба думаць пра дзяцей. Буду з табой шчыры – я вельмі непакоюся пра грошы. Я зусім не ўпэўнены ў будучыні. Ніхто не ўпэўнены. Калі са мной нешта здарыцца, ты маеш страхоўку, але ў наш час яе надоўга не хопіць. Я вельмі цяжка працаваў, каб забяспечыць табе і дзецям сапраўднае жыццё, – з горыччу нагадаў ён. – І я не хачу бачыць, што ўсе мае сілы, уся мая маладосць марнуюцца на футры, радыё, непрадбачаныя выдаткі і...

– Джым, калі ласка, – сказала яна. – Калі ласка, яны нас пачуюць.

– *Хто нас пачуе?* Эмма не можа нас чуць.

– Радыё.

– Дастала! – крыкнуў ён. – Да смерці надакучыла твая чуллівасць. Радыё не можа нас чуць. Ніхто не можа нас чуць. А нават, калі яны нас могуць чуць? Ну і што?

Айрын паднялася ад стала і пайшла ў вялікі пакой. Джым падышоў да дзвярэй і крычаў на яе адтуль.

– З чаго гэта ты апошнім часам сталася такой цнатлівай? Што цябе зрабіла манашкай? Ты ж скрала матчыны каштоўнасці яшчэ да таго, як прачыталі яе тэстамент. Ты ўласнай сястры не дала ані цэнта з тых грошай, якія прызначаліся ёй, – нават тады, калі яны былі тваёй сястры вельмі патрэбныя. Ты ператварыла ў кашмар жыццё Грэйс Хаўлэнд, а дзе ж былі твае цнота і дабрачыннасць, калі ты пайшла рабіць аборт? Ніколі не забуду, якой ты тады была жорсткай. Запакавала торбу і пайшла забіваць дзіця, быццам гэта была прагулка на Насаў. Калі б ты мела прычыну, хаця б адну прычыну...

З хвіліну Айрын стаяла ля агіднае скрыні, ёй было млосна. Потым яна працягнула руку да прыёмніка, спадзеючыся, што ён зычліва звернецца да яе, што яна пачуе голас нянькі Суіні. Джым усё яшчэ крычаў на яе з-за дзвярэй. Голас у прыёмніку быў сухі і абыякавы.

– Падчас ранішняе катастрофы на такійскай чыгунцы, – казаў рэпрадуктар, – загінула дваццаць дзевяць чалавек. Пажар у каталіцкім шпіталі для сляпых дзяцей ля Буфала быў сёння раніцай патушаны манахінямі. Тэмпература сорак сем градусаў па Фарэнгейту. Вільготнасць – восемдзесят дзевяць працэнтаў.








Пітэр Тэйлар

## САПРАЎДНЫ ПРЫВІД

Гэта быў чалавек, які амаль заўсёды трымаўся ўласнага стылю; таму нават у цяперашнім даволі нязвыклым становішчы не ў стылі Хэла было б пабегчы ўніз па сходах на злом галавы. Больш за ўсё ён ганарыўся тым, што ўмеў "трымацца спакойна". Перад тым як пайсці ўніз, ён рэзка спыніўся ля самае верхняе прыступкі і паднёс да паўраскрытых вуснаў руку, каб адчуць пад пальцамі надзвычайную сухасць халодных вуснаў.

Як доўга ён стаяў там, пазней не мог прыгадаць. Аднак калі ён быў ужо ўнізе, то вельмі добра памятаў, што ўбачыў там наверсе, хаця і не мог сказаць дакладна, колькі часу бачыў тое, што бачыў. Ён ясна бачыў твар у люстры спачывальні, а потым той самы

твар у шыбе залы, ператворанай у люстра закрытымі звонку аканіцамі. У абодвух выпадках гэта быў жывы румяны твар, які належаў зусім не яму. Аднак ён убачыў таксама вялікае падабенства! Толькі на гэта ў яго і хапіла часу. З іншага боку, выраз твару быў нейкі няпэўны, быццам чалавек спрабаваў сфакусаваць свой некалі востры позірк на пэўным прадмеце. Вядома, гэта быў не такі твар, у які чалавек ягонага стылю і тэмпераменту мог так папросту паверыць. Ён інстынктыўна сумняваўся ў кожнай праяве самавыяўлення або якой-кольвек эмоцыі, што бачылі ягоныя вочы. Аднак ён ведаў, што кожны раз, калі твар з’яўляўся ў якімсьці шкле, ягоныя зубы пачыналі ляскаць. Праўда, наконт таго, колькі часу ляскалі зубы, ён упэўнены не быў. Кожны раз гэта магло займаць не больш за некалькі секунд.

Ва ўсялякім выпадку, калі ён павярнуўся і пайшоў па сходах, паварот і спуск былі рэзкія і хуткія, можа, нават паспешлівыя (паспешлівасць аніякім чынам не стасавалася з ягоным стылем!). Ён усё ж не пабег па сходах. Аднак у самым нізе, дакрануўшыся левай рукой да парэнчы, Хэл Кролі заўважыў, што рука – не, зусім незаўважна, – дрыжэла.

Рука, што дрыжэла, і памяць пра ляскат зубоў наверсе амаль прымусілі Хэла засмяяцца ўголас. Але ён стрымаўся. Гэта было не ў ягоным стылі. Дрыжыкі і ляскатанне зубоў былі вельмі яскравай праявай таго, што чалавек і павінен дэманстраваць, убачыўшы прывід! Але хто цяпер верыў у прывіды? Асабліва ў белы дзень, ды яшчэ ў доме, дзе ты пражыў усё жыццё, у доме, які стаяў пусты (праўда, мэблі там хапала) з таго часу, як памёр ягоны папярэдні ўладальнік, а ім быў бацька Хэла Кролі. Дом і мэбля падаліся Хэлу абсалютна незнаёмымі. Аднак дамы і мэбля былі такія рэчы, на якія ён ніколі не звяртаў пільнай увагі. І менавіта над гэтай ягонаю рысай пасмейваліся і бацькаў банкір, і брокер па нерухомасці, быццам праз гэта яму нечага не ставала. Пачуць *такое* ад людзей, якія лічацца сур’ёзнымі бізнесменамі...

Ён не бег па сходах, ён амаль не смяяўся, ідучы праз знаёмую залу ў вялікі пакой і бачачы пару ад свайго дыхання, бо сказаў сабе, што абставіны надта сур’ёзныя, каб смяяцца. У ягоным



узросце і з ягонымі хібамі – яму было амаль пяцьдзесят, і ўсё жыццё ён быў схільны да "дрыжыкаў" — ён вельмі лёгка мог памерці ад холаду ў гэтым халодным доме. Вось што было важна! Чым бы ні быў той прывід, якога ён убачыў на другім паверсе, цяпер ён казаў сабе, што гэта *вынік* холаду, які прабіраў яго да касцей, а зусім не *прычына* яго.

Ён паволі прайшоў праз залу ў вялікі пакой. Ён кіраваўся туды з надзеяй убачыць у каміне дровы. Або, дакладней будзе сказаць, ён ішоў туды, напэўна ведаючы, што там, у каміне, будуць ляжаць дровы. Бо калі дом абсталяваны так, як пакінуў яго бацька, – а на гэтым настойваў траставы аддзел банка, каб дом быў больш прывабны для магчымага пакупніка, – там напэўна павінен быць вялікі камін з дровамі, з паперай і лучынай для распалкі на масянжовых кратах.

Калі Хэл рос, камінам карысталіся рэдка: толькі на Дзень падзякі, Раство і Новы год. Аднак бацька пастаянна казаў, каб слугі трымалі камін напагатове, а на паліцы ляжалі запалкі. Рабілася гэта таму, што стары заўсёды баяўся, каб аднойчы не адключылі электрычнасць. Былі таксама іншыя асцярогі. Хаця электрычнасць за ўсе тыя гады адключылі толькі раз – калі зімовая бура на некалькі гадзін пазбавіла святла ўвесь горад, – стары пан Кролі пастаянна быў напагатове; усё жыццё ён расказваў сыну пра тое, як камін спатрэбіўся ў дзень катастрофы, з кожным годам расцягваючы гэтую катастрофу ў часе. А пад карабком запалак пастаянна ляжала паперка, на якой было дакладна апісана, як запальваць у каміне агонь.

Хэл сапраўды знайшоў, як і спадзяваўся, дровы ў каміне вялікага пакоя! На паліцы над камінам ляжаў карабок кухонных запалак. Ён хутка схапіў запалкі і падумаў: дзіўна, што траставы аддзел, які вызначыў самыя разнастайныя правілы, якіх Хэл мусіў прытрымлівацца пасля смерці бацькі, не загадаў прыбраць з дому запалкі. Працаўнікі гэтага аддзела проста вар’яцелі на пункце бяспекі! Праз іхнюю пільнасць у доме не працавалі награвальнікі. 15 сакавіка мінулага года дом адключылі ад электрычнасці, газу і вады, гэта здарылася на другі дзень пасля бацькавага пахавання. Звычайны карабок запалак быў у прыгожым медным футарале, што застаўся ад маці, бо яна лічыла, што кухонныя запалкі больш

пасавалі да вялікага пакоя. Ён зноў адчуў тую традыцыю ладу гаспадаркі ў доме, які калісьці быў усім ягоным жыццём. Магчыма, людзі з банка папросту не пазналі ў рэчы, што ляжала на камінная паліцы, карабок запалак або палічылі медны футарал дастаткова бяспечным.

Як бы там ні было, запалкі знаходзіліся на сваім звычайным месцы. Нахіліўшыся з карабком у руцэ, Хэл убачыў, што дровы ляжалі менавіта так, як любіў бацька. Дровы, напэўна, паклалі пад бацькавым кіраўніцтвам – не летась, бо тады бацькава хвароба была на апошняй стадыі і камін наўрад ці запальвалі; верагодна і не пазамінулай зімой, бо тады ў спачывальні над вялікім пакоем памірала Хэлава маці. Пан Кролі не мог тады думаць пра камін, яго больш займалі фізічныя пакуты жонкі, ён больш думаў пра выбухі дурнога гумару, якімі даводзіў жонку ўсё жыццё. Хэлу падавалася, што бацькі толькі і рабілі, што прасілі адно ў аднаго прабачэння за тое, што сказалі адно аднаму, або пераконвалі, што зусім не хацелі зрабіць тое, што зрабілі. Не вельмі ўтульнае дзяцінства для маленькага хлопчыка! Магчыма, праз гэта ён нават не думаў аб шлюбе. Магчыма, праз гэта ён пайшоў на тры гады ў войска і, вярнуўшыся, жыў не дома, а ў гатэлі кватэрнага тыпу ў цэнтры горада. (Выконваліся *ўсе* замовы!) Цяпер яму трэба было пазбыцца старое мэблі, усіх тых успамінаў, што гэтая мэбля выклікала! І ён усяго гэтага пазбудзецца. На хвіліну ён падумаў, што дровы ў каміне былі падрыхтаваныя некалькі год таму, калі бацька разважаў выключна пра тое, што ён і "Маці" сказалі або не сказалі адно аднаму.

Чыркнуў запалкай і запаліў пакамечаную газету, дата на якой магла дакладна сказаць яму, калі ж прыгатавалі дровы для каміна, але ён гэтым не пераймаўся. Хэл Кролі глядзеў на язычкі полымя, што пераскоквалі з газеты на дровы, крыху затрымліваючыся на сучках, і трывала замацоўваліся на акуратна пакладзеных паленцах. Напачатку дыму не было, адно ярка-жоўты агонь. Неўзабаве Хэл, які ўжо сядзеў на дыванку, адсунуўшы экран, што абараняў ад агню падлогу, пачуў моц цяпла. Аднак рэзка пасунуцца назад яго прымусіла не толькі спякота! У полымі, што гуло ў каміне, ён зноў убачыў той самы твар, які глядзеў на яго з люстра і шыбы на другім паверсе.







Ён адышоў на сярэдзіну пакоя — там вочы ўжо не слязіліся. Дым проста валіў з каміна, падымаючыся да столі. Хэл быў у шоку, бо памятаў, як бацька пастаянна сачыў, каб комін трымаўся ў парадку. Будуючы гэты дом, бацька не пакінуў такую важную дэталь, як комін, архітэктару або будаўнікам. Ён асабіста сачыў за тым, як складваўся комін. Пан Кролі любіў казаць, што ён дэталёва ведае, як трэба зрабіць комін, каб была нармальная цяга. (Проста неабходныя веды!) Самае галоўнае, што комін мусіў мець правільныя *заплечыкі*! Ён вырас на вёсцы ў тыя часы, калі цяга ў коміне мела істотнае значэнне. Потым ён стварыў уласны бізнес і сям'ю ў гарадку на мяжы штатаў Тэнэсі і Кентукі, у сарака мілях на поўнач ад Нэшвіля, у старым доме, абтыканым комінамі. Раптам Хэл убачыў шырокія коміны ў старым доме дзядулі і прыгадаў, як бацька скардзіўся, што яны не маюць заслонак. Хэл адразу скочыў у воблака дыму, тварам у твар з тым, каго зглядзеў у агні. Ён забыў адчыніць заслонку! Рызыка сутыкнуцца з надакучлівым тварам яго не палохала, ён схапіўся за жалезнае колца пад перамычкай і адкрыў заслонку, зробленую калісьці бацькам. Дым пайшоў угару, агонь зрабіўся ярчэйшы, большая частка дыму, што вывалілa ў пакой, вярнулася назад і са свістам паляцела па коміне. І тады вось Хэл адчуў, што гэта не ягоны пакой. І ўвесь гэты дом – не ягоны дом!

Хэл хадзіў па пакоі, расчыняў вокны і разганяў застарэлае паветра ранішняй газетай, якую ўвесь гэты час трымаў скручаную пад пахай. Хаця цела па-ранейшаму даймалі дрыжыкі, але ён ужо пачаў саграваццa рухам, а таксама цяплом агню, які вельмі прывабна скакаў у каміне. На нейкі час ён забыўся на прывід, які бачыў на другім паверсе, а таксама і на дым, штоываліўся з каміну ў пакой. Цяпер ён ужо ведаў, што хоча прадаць дом. Твары ў шыбах і дым пайшлі назаўсёды. Банкір, працаўнік траставага аддзела і той жахлівы брокер па нерухомасці – якія павінны былі прыехаць сюды раніцай і якія спазняліся – цяпер падаліся яму таксама прывідамі, і таму зніклі ў рэальнасці. Хэл падумаў, што яго абвінавацяць у тым, што ён задыміў пакой і таму перад продажам яго давядзецца падрамантаваць. Аднак гэта яго не турбавала: ён з гонарам стаяў перад агнём, адчуваючы сябе поўным гаспадаром гэтага дома.



Джойс Кэрал
Оутс

# ХРАМ

І зноў гэты дзіўны, таямнічы гук! – слабое мяўканне, потым глухое шкрабанне, быццам хтосьці шкрабаў пазногцямі або кіпцюрамі. Спачатку жанчына лічыла, што гук ідзе знутры дому, што гэта невялічкая звярыніна, напрыклад вавёрка, апынулася заціснутай на гарышчы пад самым дахам або ў далёкім кутку склепа з земляной падлогай; вельмі старанна абшукаўшы дом, жанчына прыйшла да высновы, што гук ішоў знадворку, магчыма, з саду. У залежнасці ад кірунку і сілы ветру гук то цішэў, то мацнеў.

Спакваля гук станавіўся ўсё больш жудасным і пачаў нагадваць крык дзіцяці! А шкрабанне, якое чулася час ад часу, было яшчэ больш жахлівым і выклікала нейкае кашмарнае пачуццё.

Жанчына была ўпэўненая, што ўпершыню пачула гэты гук падчас адлігі ў канцы сакавіка, калі талы лёд капаў з комінаў, дахаў, дрэваў. З надыходам цёплага надвор'я яна адчыняла акно спачывальні, але гэтай вясной сон яе не быў спакойным.

Выбару яна не мела, праўда? – яна павінна знайсці крыніцу гуку. Аднаго ранку яна даволі ўзважана пачала гэтую працу; выйшла на яркае,







цёплае сонца і стала прадзірацца праз густыя зараснікі, у якія ператварыўся за трыццаць гадоў сад яе маці. Мяўканне разам са шкрабаннем быццам чуліся з дальняга кутка саду, адтуль, дзе была старая бетонная каналізацыйная труба, якая абазначала канец яе надзелу. Аднак, калі жанчына пачала прыслухоўвацца, гук спыніўся.

Сэрца жанчыны білася роўна, нягледзячы на хуткі пульс травеньскае раніцы.

Са старога гаража, які яшчэ раней быў стайняй, жанчына ўзяла рыдлёўку, шуфель, граблі – усё начынне было аблытана павуціннем і пакрыта пылам, – і пачала капаць. Працавала яна нязграбна, і хутка яе мяккія далоні ўжо смылелі, таму яна пайшла ў гараж па пальчаткі – яны таксама былі ў павуцінні і пыле, не кажучы ўжо пра бруд. Сонца прыпякала, таму жанчына знайшла стары саламяны капялюш маці: ён не вельмі ёй пасаваў, стужка на ім згніла ад поту, дый сядзеў ён крывавата.

Яна вярнулася да працы. Перш прыбрала старую траву, плюшч, дзікую гарчыцу, іншыя расліны з таго месца, адкуль, на яе думку, ішоў гук; пакрысе яна дайшла да зямлі, вельмі вільготнай і чорнай. Раптам амаль пад нагамі пачула мяўканне! "Я тут", — прашаптала яна. Ад узрушэння яна на хвіліну спынілася, і тады пачула шкрабанне, якое хутка сціхла. "Так. Так. Я тут", — сказала яна. Жанчына пачала капаць, наваліўшыся на лапату ўсім целам; шкада, што яна так рэдка займалася садам, хаця ёй было ўжо пяцьдзесят. Зрэшты, яна была не вельмі зграбнай жанчынай ад прыроды, таму з рыдлёўкай чулася досыць няёмка, быццам жывёла, што стаіць на задніх лапах.

Яна капала, адкідвала зямлю, раўняла яе граблямі. Зноў капала, робячы яму больш глыбокай і шырокай. Яма рабілася падобнай да раны ў зарасніках. Абломкі старых цаглінаў, шкло, камяні звінелі аб рыдлёўку. Спехам беглі ўпрочкі жукі, іх панцыры палісквалі на сонцы. Чарвякі, якіх яна жорстка рэзала напалам, курчыліся. Некаторы час жанчына працавала ў цішыні, слухаючы толькі стук сэрца і шум крыві ў вушах; потым, быццам крык, яна пачула той жалобны гук, ён быў так блізка, што рыдлёўка ледзьве не вывалілася з яе рук.

Нарэшце жанчына адчула, што яе рыдлёўка наткнулася на

нешта цвёрдае. Яна, аблітая потам, упала на калені і пачала корпацца ў зямлі дрыжачымі рукамі; нарэшце намацала штосьці круглае і пустое – чалавечы чэрап? Аднак па памерах гэта не мог быць чэрап дарослага чалавека.

– Божа! – прашаптала жанчына.

Яна сядзела на кукішках над ямай і круціла чэрап у руках. Які ён быў лёгкі! Колеру пергаменту і трохі запэцканы глебай. Яна ачысціла яго ад зямлі і захапілася тонкімі лініямі. Валасоў не было. Далікатная костка ў некалькіх месцах трэснула, пакрыўшыся драбнюткім павуціннем, быццам кераміка. Не хапала некалькіх зубоў, аднак рэшта іх здавалася моцнай, хаця і была чымсьці запэцканая. Мяккія формы скіўцаў, выгіны скулаў! Якія круглыя пустыя вачніцы… Жанчына ўзняла чэрап і глядзела ў вачніцы, быццам у жывыя вочы. Надзвычай празрыстыя вочы. Паміж ёй і вачыма гэтага дзіцяці з'явілася пэўнае паразуменне. Гэтае дзіця пахавалі тут, на зямлі яго бацькоў, дзесяткі год таму? Без імені, без азначэння? Без прызнання? Без усялякіх звестак?

Некалькі гадзінаў жанчына яшчэ паглыбляла яму. Яна цяжка дыхала пад гарачым сонцам, якое прабіралася пад саламяны капялюш, быццам ён быў з марлі, і аблівалася потам. Жанчына знайшла яшчэ трохі кісцевых костак, некалькі рабрынаў, частку плечавога сустава, пальцы – яны таксама былі колеру пергаменту. Якія маленькія, зграбныя пальцы! Як яны шкрэблі, каб выкараскацца наверх! З гэтага часу пальцы нарэшце супакояцца назаўсёды.

Палуднем жанчына спынілася. Больш за той тузін костак яна нічога не знайшла.

Яна пайшла ў дом, скуль вярнулася з вялікім кавалкам старадаўняга аксаміту цёмна-бардовага колеру, каб у ім знесці чэрап і косткі. Ніхто не павінен быў гэтага бачыць. Ніхто не павінен быў гэтага ведаць. "Я побач. Я заўсёды буду побач, – паабяцала жанчына. – Я ніколі не пакіну цябе". Яна паднялася на другі паверх, дзе ў сваёй спачывальні разлажыла аксамітны пакунак на стале, што стаяў пад вакном эркера і на які падала святло. Паволі ды асцярожна жанчына расклала чэрап і косткі гэткім чынам, каб яны нагадвалі шкілет чалавека. Хаця большая частка костак адсутнічала, для яе замілаванага вока гэта не мела значэння.

З таго дня яе спачывальня ператварылася ў патаемны храм. Пасля смерці жанчыны чэрап і косткі невядомага дзіцяці знойдуць на тым самым аксаміце. Але гэта будзе яшчэ вельмі не хутка.









Урсула Ле Гуін

# КОТ ШРОДЫНГЕРА

Цяпер, калі ўсё падыходзіць да развязкі, я перайшла сюды. Тут больш прахалодна і нішто не рухаецца хутка.

На шляху сюды я сустрэла мужа з жонкай, якія ішлі наасобку. Жанчына проста на часткі развальвалася. Аднак на першы позірк яна падавалася нармальнай. Пакуль мужчына расказваў мне, што ў яго не было аніякіх гармонаў, яна сабралася з сіламі і, трымаючы галаву пад правай каленкай, падбегла да нас на пальцах усё той жа правай нагі, лямантуючы:

– Дык што, чалавеку ўжо нельга выказацца?

Левая нага, рукі, торс былі скіданыя да купы і торгаліся, дэманструючы сваю сімпатыю.

– Выдатныя ногі, – заўважыў муж, гледзячы на вытанчаную шчыкалатку. – Мая жонка мае выдатныя ногі.

Прыйшоў кот і перарваў маё апісанне. Гэта быў кот у жоўтыя паскі з белымі грудзьмі і лапамі. Ён меў доўгія вусы і жоўтыя вочы. Я раней ніколі не бачыла, каб каты мелі вусы на бровах, ці гэта нармальна? Бог яго ведае. Як толькі ён засне ў мяне на каленках, я буду працягваць.

Дзе?

Відавочна, нідзе. Аднак жаданне расказваць не прамінула. Многія рэчы не варта рабіць, але амаль пра ўсё варта расказваць. Як бы там ні было, у мяне заразная хвароба *Ethica laboris puritanica,* або "адамава хвароба". Яе магчыма вылечыць толькі шляхам адсячэння галавы. Дарэчы, мне падабаецца спаць, калі я сплю, то спрабую прыгадаць мае сны: гэта дае мне ўпэўненасць у тым, што я не змарнавала сем або восем гадзінаў, лежачы тут. А цяпер я тут проста ляжу. Вельмі старанна.

Пара, пра якую вам ужо казала, нарэшце распалася. Кавалкі мужа бегалі паўсюль, ціўкаючы, што тыя кураняты, а ад яе застаўся толькі камяк нерваў: быццам тонкі дрот, але безнадзейна перакручаны.

А я працягвала ляскаць, акуратна паставіўшы адну нагу перад другой і гаруючы. Гэтае гора і цяпер са мной. Баюся, што яно – частка мяне, быццам нага, сцягно або вока, або нават я сама: бо падаецца, што я не маю іншага "я", нічога наперадзе, нічога, што знаходзіцца па-за межамі гора.

Але я не ведаю, аб чым гарую: аб жонцы? аб мужы? аб дзецях або аб сабе? Я не памятаю. Большасць сноў забываецца, калі я спрабую запомніць хаця б адзін. Аднак пазней музыка нешта закране, і гармонія пабяжыць па струнах мандаліны маёй памяці, і мы маем у вачах слёзы. Нейкая нота, што гучыць, прымушае мяне плакаць; але навошта? Я не ведаю.

Жоўты кот, які мог належаць той пары, што распалася, бачыць сны. Яго лапы торгаюцца час ад часу, а аднойчы ён выдаў нейкі гук, не раскрываючы рота. Цікава, што сняць каты і да каго ён толькі што звяртаўся. Каты рэдка размаўляюць. Яны ціхія жывёлы. Яны думаюць, прыгадваюць нешта. Яны прыгадваюць нешта цэлы дзень, а ўначы маюць прыгоды.







Перакормленыя сіямскія каты могуць быць такія самыя буркатлівыя, як невялікія сабакі, і тады людзі кажуць: "Яны размаўляюць", аднак буркат гэты зусім непадобны да мовы, у адрозненне ад глыбокае моўчы якога-небудзь ката ў паскі. Такі кот можа толькі мяўкаць, але сваім маўчаннем ён гаворыць мне пра тое, што я згубіла, аб чым гарую. Я адчуваю, што ён ведае гэта. Таму ён сюды прыйшоў. Каты заўсёды шукаюць лепшага.

Рабілася вельмі горача. Я хачу сказаць, што ўсё менш рэчаў было можна кранаць. Напрыклад, кухонныя пліты. Цяпер я ведаю, што кухонныя пліты заўсёды робяцца гарачыя; гэта іх мэта, яны існавалі дзеля таго, каб рабіцца гарачымі. Аднак яны рабіліся гарачымі, нават калі іх не ўключалі. Калі вы ўваходзілі на кухню, каб зрабіць снеданне, яны гарэлі чатырма вачыма блакітнага газу або чырвонае электрычнасці, а паветра над імі калыхалася ад жару. Калі іх выключалі, гэта ўсё роўна не дапамагала, бо іх ніхто не ўключаў. Да таго ж, ручкі таксама былі гарачыя, непрыемныя.

Некаторыя людзі спрабавалі іх ахаладзіць. Самым папулярным метадам было адключэнне газу. Часам гэта спрацоўвала, але давяраць цалкам такому метаду было нельга. Некаторыя вывучалі сам феномен, спрабавалі дайсці да каранёў праблемы. Яны, напэўна, былі самыя напалоханыя, аднак чалавек болей за ўсё чалавек, калі ён напалоханы. Стоячы тварам у твар з гарачай плітой, яны паводзілі сябе надзвычай спакойна. Яны вывучалі, яны назіралі. Яны былі падобныя на таго хлопца з "Суднага дня" Мікеланджэла, які ў жаху закрываў твар рукамі, калі дэманы цягнулі яго ў пекла – але закрываў ён толькі адно вока. Другое вока ўважліва глядзела. Больш ён нічога не можа, і таму робіць хаця б гэта. Ён назірае. Дзіўна, чалавек думае, што пекла не будзе існаваць, калі на яго не глядзець. Аднак ані той хлопец, ані тыя людзі, пра якіх я расказваю, не маюць дастаткова часу, каб нешта зрабіць. І, нарэшце, былі тыя, хто нікуды не глядзеў і нічога не рабіў з гэтымі плітамі.

Калі аднаго ранку з кранаў халоднае вады палілася гарачая, нават тыя, што ва ўсім вінавацілі дэмакратаў, пачалі пачувацца даволі няёмка. У хуткім часе відэльцы, алоўкі і ключы былі такія гарачыя, што брацца за іх можна было толькі ў пальчатках;

аўтамабілі былі ўвогуле проста жахлівыя. Адчыніць дзверцы вашага аўтамабіля было тое самае, што адчыніць распаленую духоўку. Тады даволі шмат людзей спалілі свае пальцы. Пацалунак нагадваў ліццё чыгуну. Валасы вашага дзіцяці ліліся па руцэ, як агонь.

Тут, як я ўжо казала, не так горача; да таго ж гэтая жывёліна класная і прахалодная. Класны кот. Не дзіва, што лашчыць яго прыемна. Ён таксама рухаецца паволі, прынамсі, найчасцей паволі, гэта тая павольнасць, якой чакаеш ад усіх катоў. Ён не навучыўся тае непрыемнае хуткасці, якую ўпадабалі многія каты і коткі – ФЫР, і няма іх. Ім не хапала вытрымкі. Па-мойму, птушкі заўсёды былі такія, хаця калібры завісалі на секунду ў самым цэнтры свайго няспыннага метабалічнага працэсу і віселі пэўны час над кветкамі – потым зноў знікалі, аднак вы ведалі, што нешта там толькі што было. Але цяпер нават малінаўкі і галубы, звычайна цяжкія і марудныя птушкі, ператварыліся ў гоначныя машыны; што да ластавак, то яны перасягнулі хуткасць гуку. Вы ведалі, што праляцела ластаўка, па невялічкім выбуху ў паветры ўвечары над вашым домам.

Чарвякі, як цягнікі метро, імчалі пад зямлёй сярод перакручаных каранёў ружовых кустоў.

А дзяцей спыніць было ўвогуле немагчыма: надта хуткія і надта гарачыя. Яны раслі літаральна на вашых вачах.

Але, магчыма, так яно заўсёды было.

Мяне перапыніў кот, які прачнуўся і мяўкнуў раз, потым саскочыў з маіх каленак і пацёрся аб мае ногі. Гэта быў кот, які ведае, як атрымаць ежу. Ён таксама ведае, як скакаць. У ягоным скачку была пэўная лянота, быццам моц прыцягнення дзейнічала на яго менш, чым на другіх істотаў. Між іншым, перад тым як я сыходзіла, адзначаліся асобныя выпадкі, калі прыцягненне зусім не дзейнічала; аднак у скачку гэтага ката было нешта зусім невядомае. Я пакуль што яшчэ не ў такім стане няўцямнасці, каб мяне палохала зграбнасць. Я нават набіраю ад яе ўпэўненасці. Калі я адкрывала бляшанку сардзінак, нехта прыйшоў.

Пачуўшы грук, я падумала, што гэта паштальён. Мне вельмі не хапае пошты, таму я падбегла да дзвярэй і запытала:



– Гэта пошта?

– Ну?! – адказаў голас.

Я адчыніла дзверы. Ён увайшоў, адпіхнуўшы мяне ўбок у сваім спеху. Скінуў на падлогу вялізны заплечнік, распрастаўся, памасіраваў плечы і сказаў:

– Ваў!

– Як ты сюды трапіў?

Ён паглядзеў на мяне і сказаў:

– Ваў?

Вось тут да мяне вярнуліся думкі пра мову людзей і жывёлаў, і я вырашыла, што ён, магчыма, зусім не чалавек, а невялікі сабака. (Вялікія сабакі рэдка кажуць баў, ваў, гаў, калі толькі гэтага не патрабуе сітуацыя.)

– Да нагі, — павабіла я яго. – Сюды хадзі, добры сабачка!

Я адразу адкрыла для яго бляшанку свініны з гарохам, бо выглядаў ён на вельмі галоднага. Ён еў прагна, голасна чмякаючы. Калі ежа скончылася, ён некалькі разоў сказаў:

– Ваў!

Я збіралася палашчыць яго за вушамі, але тут ён скамянеў, а поўсць яго паднялася. Ён загыркаў на ката.

Кот заўважыў яго значна раней, але зусім не зацікавіўся ім. Ён сядзеў на нотах "Добра тэмпераванага клавіра" і злізваў з вусаў алей ад сардзінак.

– Ваў, – гаўкнуў сабака, якога я вырашыла клікаць Ровер. – Ваў! Ты ведаеш, хто гэта? *Гэта кот Шродынгера!*

– Зусім не, больш не ягоны. Гэта мой кот, – сказала я з абразай у голасе.

– Добра, Шродынгер даўно памёр, але гэта ягоны кот. Я бачыў сотні фотаздымкаў Эрвіна Шродынгера, вялікага фізіка, ты ж ведаеш. Ваў! Толькі падумаць, што ягоны кот тут!

Кот холадна зірнуў на сабаку, потым пачаў абыякава вылізваць сваё левае плячо. На твары Ровера з'явіўся такі выраз, быццам ён толькі што пабачыў Бога.

– Гэта прызначэнне, – сказаў ён ціха, але ўрачыста. – Так. Гэта *прызначэнне*. Гэта не можа быць звычайным супадзеннем. Гэта амаль немагчыма. Я са скрыняй, ты з катом, і сустрэліся… тут… цяпер.

Ён зірнуў на мяне знізу ўверх, у ягоных вачах свяцілася радасць.

– Ці ж гэта не цудоўна? – сказаў Ровер. – Я адразу ж падрыхтую скрыню.

І ён пачаў хутка распакоўваць заплечнік.

Пакуль кот лізаў пярэднія лапы, Ровер распакоўваўся. Калі кот лізаў хвост і жывот, месцы, да якіх цяжка дацягнуцца, Ровер сабраў тое, што выняў з заплечніка, а гэта было няпроста. Калі і ён, і кот адначасова скончылі свае заняткі і паглядзелі на мяне, я была ўражаная. Яны прыйшлі да фінішу секунда ў секунду. Гэта было не простае супадзенне. Заставалася спадзявацца, што не я гэтаму прычынай.

– Што гэта? – спытала я, паказаўшы на тое, што тырчала збоку скрыні. Я не пыталася, што гэта за скрыня, бо гэта напэўна была скрыня.

– Стрэльба, – з гонарам адказаў Ровер.

– Стрэльба?

– Каб забіць ката.

– Каб забіць ката?

– Або *не забіць* ката. У залежнасці ад фатона.

– Фатона?

– Ага! Гэта вялікі "геданкенэксперымент" Шродынгера. Бачыш, тут невялічкі клапан. У гадзіну "зэра", праз пяць секунд пасля таго, як накрыўка скрыні зачыніцца, праз клапан праходзіць адзін фатон. Фатон адаб'ецца ад напалову пасрэбранага люстра. Механічная магчымасць таго, што фатон пройдзе праз люстра, роўна пяцьдзесят працэнтаў, так? Так! Калі фатон патрапляе куды трэба, актывізуецца стрэльба і страляе. Калі фатон затрымаецца, то стрэлу не будзе. Цяпер садзім туды ката. Кот у скрыні. Закрываем накрыўку. Адыходзім далей! Застаемся на адлегласці! Што здараецца?

Вочы Ровера свяціліся.

– Кот робіцца галодны?

– Кот загіне або не загіне, – сказаў Ровер, схапіўшы мяне за руку, добра, што не зубамі. – Але стрэльба бясшумная, абсалютна. Скрыня гуканепранікальная. Таму невядома, забіла ката або не, пакуль не ўзнімем накрыўку. *Невядома!* Бачыш, наколькі гэта важна для ўсяе квантавае тэорыі? Перад гадзінай "зэра" ўся сістэма на квантавым узроўні або на нашым узроўні, вытанчаная і простая. Але пасля гадзіны "зэра" ўся сістэма можа быць прадстаўленая толькі лінейнай камбінацыяй дзвюх хваляў. Мы не можам прадказаць паводзіны фатона, і таму пасля яго дзеяння мы не можам прадказаць, як ён зменіць сістэму. Мы не можам прадказаць гэта! Бог гуляе ў косці са светам! Таму гэта выдатна дэманструе, што калі ты хочаш пэўнасці, хоць якой-кольвек пэўнасці, то павінен сам яе стварыць!

– Як?

– Падняўшы накрыўку скрыні, – сказаў Ровер, гледзячы на мяне з пэўным расчараваннем, магчыма з ноткай недаверу, як баптыст, які раптам зразумеў, што размаўляў пра царкоўныя справы не з такім самым баптыстам, а з метадыстам, або, барані Божа, з прыхільнікам епіскапальнай царквы. – Каб даведацца, жывы кот ці не.

– Ты хочаш сказаць, – паволі вымавіла я, – што пакуль не падымеш накрыўку скрыні, кот застаецца ані забітым, ані жывым?

– Ну! – сказаў Ровер, проста ззяючы ад палёгкі. – А можа, і тым, і тым.

– Але чаму, калі мы адчынім скрыню і зазірнем у яе, то гэта зменшыць сістэму толькі да аднае магчымасці, да мёртвага ці жывога ката? Чаму мы не ўключаемся ў гэтую сістэму, узнімаючы накрыўку скрыні?

Паўза.

– Як гэта? – недаверліва гаўкнуў Ровер.

– Ну, мы далучаемся да сістэмы як суперпалажэнне дзвюх хваляў. Няма аніякае падставы, каб сістэма існавала толькі *ўнутры* адкрытае скрыні, праўда? Таму, калі мы хочам паглядзець у яе, то ты і я разам будзем глядзець на жывога ката або разам будзем глядзець на мёртвага ката. Бачыш?

Хмара апусцілася на твар Ровера. Ён двойчы гаўкнуў хрыпатым голасам і адышоў убок. Стоячы спіной да мяне, ён сказаў цвёрда, але з сумам:

– Ты не павінна ўскладняць становішча. Яно і так даволі складанае.

– Ты ўпэўнены?

Ён кіўнуў, павярнуўся і папрасіў:

– Слухай. Мы маем толькі гэта – скрыню. І ўсё. Скрыню. І ката. І яны абое тут. Нарэшце, кот і скрыня. Пасадзі ката ў скрыню. Калі ласка. Або дазволь мне пасадзіць ката ў скрыню.

– Не, – сказала я ў шоку.

– Калі ласка. Толькі на хвіліначку. На паўхвіліначкі! Калі ласка, дазволь мне пасадзіць ката ў скрыню!

– Навошта?

– Бо я не вытрываю гэтае жахлівае няпэўнасці, – сказаў ён і загаласіў.

Я стаяла, не ведаючы, што рабіць. Хаця мне было шкада гэтага сукінага сына, я збіралася мякка сказаць яму "не"; але здарылася нечаканае. Кот падышоў да скрыні, абнюхаў яе, падняў хвост, пацеміў сваю тэрыторыю, а потым з гэтай сваёй лянівай зграбнасцю заскочыў у скрыню. Ягоны жоўты хвост злёгку ўдарыў па накрыўцы, і накрыўка закрылася з мяккім грукам.

– Кот у скрыні, – сказала я.

– Кот у скрыні, – шэптам паўтарыў Ровер, падаючы на калені. – Аў-ваў, аў-ваў, аў-ваў.

Потым была цішыня, глыбокая цішыня. Мы абое глядзелі: я стоячы, Ровер – укленчыўшы ля скрыні. Ані гуку. Нічога не здарылася. Нічога не здарыцца. Нічога ніколі не здарыцца, пакуль мы не падымем накрыўку скрыні.

– Быццам Пандора, – слаба прашаптала я. Я не магу напоўніцу прыгадаць легенду аб Пандоры. Яна выпусціла са скрыні ўсе хваробы і ўсё зло, аднак там было і яшчэ нешта. Пасля таго, як усе дэманы былі ўжо на волі, яшчэ засталося нешта, нешта нечаканае. Што гэта было? Надзея? Мёртвы кот? Я не памятала.

Ува мне расла нецярплівасць. Я павярнулася да Ровера. Ён паглядзеў на мяне сваімі рудымі вачыма. І не кажыце мне, што сабакі не маюць душы.

– Што ты хочаш давесці? – запатрабавала я адказу.

– Што кот мёртвы або не мёртвы, – прамармытаў ён. – Я хачу адно пэўнасці. Я хачу *напэўна* ведаць, што Бог гуляе ў косці са светам.

Нейкі час я са здзіўленнем глядзела на яго.







– Гуляе ён ці не, – сказала я, – не думаеш жа ты, што ён пакіне табе ў скрыні цыдулку.

Я падышла да скрыні і драматычным жэстам падняла накрыўку. Ровер устаў з каленак, каб паглядзець. Ката там, вядома ж, не было.

Ровер ані гаўкнуў, ані страціў прытомнасць, ані вылаяўся, ані загаласіў. Ён паводзіў сябе годна.

– Дзе кот? – спытаў ён нарэшце.

– Дзе скрыня?

– Тут.

– Дзе тут?

– Вось тут.

– Так мы думалі, – сказала я, – але трэба надалей карыстацца больш вялікімі скрынямі.

Ашаломлены Ровер моўчкі азіраўся і нават не здрыгануўся, калі дах дома нехта падняў, быццам накрыўку скрыні, запускаючы да нас незвычайнае зорнае святло. Ён толькі здолеў выдыхнуць:

– Аў-ваў!

Цяпер я здагадалася, якая нота гучала ўвесь час. Праверыла на мандаліне яшчэ да таго, як на ёй растаў клей. Гэта нота "ля", тая самая, што давяла да вар'яцтва кампазітара Шумана. Гэта цудоўны чысты тон, больш чысты цяпер, калі бачна зоркі. Я буду сумаваць па кату. Цікава, ён знайшоў тое, што мы згубілі?

***Пераклаў з англійскай***
***Алесь КУДРАЎЦАЎ.***



# Валянцін Акудовіч

*Рэдакцыя і аўтарскі актыў часопіса "Крыніца" ад усёй душы віншуюць рэдактара аддзела культуралогіі, вядомага філосафа і публіцыста Валянціна АКУДОВІЧА з прысуджэннем яму Беларускім ПЭН-цэнтрам літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча (за культуралагічныя эсэ, прысвечаныя самаідэнтыфікацыі беларусаў).*
*Жадаем здароўя, дабра, творчага плёну і новых літаратурных удач!*











# Галіна Булыка

***

Вяртаецца мода,
Бо трызняцца ў шафах
шкілетам
Мундзірна пакроены час
і акопная золь.
Лампасяцца словы,
Сусаліцца бляск
эпалетаў,
І поўні гербоў
атакуе
сусветная моль.

Вятры сутыкаюцца
ў швах непамернага сцяга,
Што мроіць
імперскія шпілі заняць без чаргі.
А рэха люструе:

Галіна БУЛЫКА

Пад зыркім світанкам
ГУЛАГа
Натхнёна спявае
зялёнае мора тайгі.

Пад вечнасцю
хмарацца цені апошняга цмока,
І курчацца ў трасцы маланкі
між душаў і цел.
А з твані ўздымаецца
інфрачырвонае вока –
Зірнуць на нябесны прастол
праз аптычны прыцэл.





Paul VERLAINE



# Поль Верлен

*Мастацтва, дзеці мае, –
гэта быць абсалютна самім сабой.*

# *Мастацтва паэзіі*

*(анталогія аднага верша)*

*De la musique avant toute chose...*
**Paul Verlaine**

**Б**язгучная – ці *амаль* бязгучная – музыка, што, аднак, гучыць – а можа, мроіцца? – "у тонкіх зёлках" і "ў струнах сонца залатых", але нашмат бліжэй! – адвольна кружыць думкі і не дае гадаць, адкуль яна і што гэта творыцца: "не паняць таго ніколі, не разведаць, не спазнаць", якім чараваннем склалася песня, што ўжо "рвецца і ліецца" вонкі, "на раздольны, вольны свет", *шапаціць у тонкіх зёлках* і *звоніць ледзьве чутна ў струнах сонца...* Што гэта я пераплятаю Багдановіча?..

А – спрабуючы прасачыць гэты павеў, яшчэ не агучаны ні голасам, ні інструментам, гэтую "ледзьве чутную" праяву, таемна жыццядайную і творчую, якую Верлен заве музыкай, – і тым радком ягоным пра музыку Максім Багдановіч пазначае свой "ціхі, ясны гімн вясне":

*Музыка перадусім...* Стыхія "чыстага руху". (Хто сказаў: нараджэнне трагедыі?! Вуйй, шалапут!)

"У набліжэнні да музыкі твор мастацтва і глыбее, і шырэе... Блізкасцю да музыкі вызначаецца вартасць мастацкае формы, што імкнецца праз вобразы перадаць бязвобразную непасрэднасць музыкі", скажа разумнік Белы Андрэй у "Сімвалізме".

А што скажа сам Верлен? А "самому Верлену, відаць, было няўцям, чаму пародыю на Буало абвясцілі эстэтычнай праграмай:





*Няможна ж "Мастацтва паэзіі" разумець літаральна... гэта ж бо толькі песня, дый не ўзяўся б я гарадзіць тэорыяў!"*
(І. Гарын. Бедны Леліян.)

Сапраўды, нашто складанне тэорыяў складальніку песень, які, паводле сведчання Заля, нараджаў свае вершы "падобна як ігруша родзіць свае йгрушкі. Вецер дзьмуў, і ён хінуўся туды, куды хінуў яго вецер. Ён ніколі не хацеў чаго-кольвек, ніколі не спрачаўся пра што-кольвечы, не абдумваў, не выконваў, ніколі нічога не чыніў паводле развагі... Дзеля гэткай натуры глеба не дужа істотная, бо ўсё ў ёй расце ў паўнаце неадбітнае асобы".

То як так склалася, што "гэткая" натура ("бессвядомая", на думку Анатоля Франса) налучыла на с п р э ч к у з Буало? Ат, маўляў, седзячы ў астрозе, чаго толькі не перагушкаеш у галаве... І вершаў наскладаецца – на дзве кніжкі... У адной – хрысціянскае прасвятленне аблуднага сына, у другой – "паралельныя" блюзнерствы... У абедзвюх – "неадбітная" дзіцячая шчырасць і грацыя. Заадно і пра вершы самыя спяецца. То як тут не ўзыдзе на памяць валатоўскі трактат пра вершаванне, завершаны (і, натуральна, завершаваны) слаўным папярэднікам роўна за два стагоддзі, у 1674-м... Што гэта – невызнаная гульня супадзенняў? ці ўсё-ткі "глеба" – далікатная глеба асветы, – усплываючы, плыве пад ногі? Балазе, часу даволі, а заняткаў – хіба думанне ды творчасць. Творчы занятак: *ars poetica*.

Дык чаму б і не зачапіцца са старэйшым калегам, і не падужацца, і не выкруціць тэму праз 200 гадоў па-свойму? Ты сваё ведаеш, а я сваё ведаю. Дзядзька Нікаля цвердзіць: с э н с перадусім. Прытым здаровы! А Поль цвеліцца: – музыка! у ёй-то і сэнс увесь! Нікаля: словы каб на сваіх месцах стаялі! А Поль: ды няхай сабе хістаюцца, як п'яныя! Першы: трэба ўсё пра тутэйшае, наскае, знаёмае! Другі ж: ляціма да іншых нябёсаў! Аднак ёсць у абодвух і моманты згоды, розпай ступені, аж да самае поўнае, – напрыклад, непрынящце грубага – "часнычнага" – досціпу, ані рытарычнага пышнаслоўя, ці недавер да рыфмы, якая ірвецца бегчы й брынчэць паперадзе глузду. Але, хоць і кранаюцца абодва як быццам тых самых рэчаў, усё ж гавораць яны крыху пра рознае.

Буало тут найперш, як ён сам кажа, – "цэнзар", крытык,

староннняе вока, ён вучыць, як трэба ўзрушаць, але сам не ўзрушае, сузіраючы паэзію, як мажліва сузіраць навальніцу з веранды, – з грымотамі ўвушшу, бліскавіцамі ўваччу і пырскамі на твары, ды ўсё-ткі ў адноснай бяспецы. Таму ягоны *"Art poétique"* ёсць хутчэй "Тэорыя вершавання", "Збор вершавальных правілаў", – калі выбіраць з усяго скарбу значэнняў лацінскага й грэцкага словаў, спалучаных у загалоўку, найбольш адпаведныя.

А Верлен, які пачаў быў песню-пярэчку, *песню-навыва-рат* – пародыю, – а выпусціў, што пажадала нарадзіцца, – песню-лёт, песню-свет, песню-вырай, – ён увесь пад гэтаю Боскаю зліваў, у ейнай сарцавіне, мокры як цюцік, можа, і рады б захінуцца, ды няма як, бо сам яе ўчыніў ("напаэзіў", па-грэцку). Таму ягоны *"Art poétique"* – гэта не толькі "Мастацтва паэзіі", а яшчэ і "Творчая здольнасць", і "Творчая праява", і "Чын стварэння", – папросту "Творчасць".

Але за ўсім гэтым – найглыбейшае: "Мастацтва, дзеці мае, – гэта быць абсалютна самім сабой", – высноўвае Поль Верлен.

*Qui canit arte, canat,* – запрашае Авідый: хто ўмее спяваць, хай спявае.

Paul Verlaine

## Art poétique

*A Charles Morice*

De la musique avant toute chose,
Et pour cela préfère l'Impair
Plus vague et plus soluble dans l'air,
Sans rien en lui qui pèse ou qui pose.

Il faut aussi que tu n'ailles point
Choisir tes mots sans quelque méprise:
Rien de plus cher que la chanson grise
Où l'Indécis au Précis se joint.

C'est des beaux yeux derrière des voiles,
C'est le grand jour tremblant de midi,







C'est, par un ciel d'automne attiédi,
Le bleu foullis des claires étoiles!

Car nous voulons la Nuance encor,
Pas la Couleur, rien que la nuance!
Oh! la nuance seule fiance
Le rêve au rêve et la flûte au cor!

Fuis du plus loin la Pointe assassine,
L'Esprit cruel et le Rire impur,
Qui font pleurer les yeux de l'Azur,
Et tout cet ail de basse cuisine!

Prends l'éloquence et tords-lui son cou!
Tu feras bien, en train d'énergie,
De rendre un peu la Rime assagie.
Si l'on n'y veille, elle ira jusqu'où?

O qui dira les torts de la Rime!
Quel enfant sourd ou quel nègre fou
Nous a forgé ce bijou d'un sou
Qui sonne creux et faux sous la lime?

De la musique encore et toujours!
Que ton vers soit la chose envolée
Q'on sent qui fuit d'une âme en allée
Vers d'autres cieux à d'autres amours.

Que ton vers soit la bonne aventure
Eparse au vent crispé du matin
Qui va fleurant la menthe et le thym...
Et tout le reste est littérature.

*1874*

Верленавы *"Art poétique"*, пачуты не раней, чым выспела новая паэтычная генерацыя, стаўся для яе мастацкім Сімвалам веры. Калі ў 1894 годзе памёр Леконт дэ Ліль, часопіс *"La plume"* ("Пяро") прапанаваў паэтам абраць яму "наступніка", новага

"караля паэтаў". Адгукнулася звыш сотні галасоў, і пераважнай большасцю быў абраны Верлен.

Паэтычная моладзь літаральна закахалася ў яго, вышуквала свайго неабычайлівага мэтра па шынках, шпіталях ды ўбогіх прытулках – абы толькі пачуць-пабачыць. Гэты "вечны дзіцёнак" (чаму й не маглі зразумець яго старэйшыя і раўналеткі) учыніў незраўнаны вызваленчы зрух у мастацтве мяжы стагоддзяў: ён разняволіў *дыханне* верша, сваёю "найвытанчанай наіўнасцю" (Г. Шынгелі) ён вывеў унутранае жыццё і мову чалавека за мулкія рамкі прадпісаных забабонаў, выслабаніў душу дзеля *непасрэднага* перажывання й самаўсведамлення.

Магутны верленаўскі ўплыў на сусветную паэзію доўжыцца ўжо больш як стагоддзе, праменіцца і сёння. Паэты ўсіх еўрапейскіх моваў і многіх азіяцкіх, адзначаючы рыхтык заклятую неперакладальнасць Майстра, які адно ў сваёй роднай мове застаецца "абсалютна самім сабой", зноў і зноў, бы магнітам цягнёныя, бяруцца за пераклады з яго, каб зазнаць напоўніцу і творчай пакуты, і ласкі надмоўнага сумоўя.

Прыводжу адну з магчымых падрадкоўных версіяў "Мастацтва паэзіі":

*1. Музыка/музыкі – перадусім,*
*2. І дзеля гэтага хіліся да Няцоту,*
*3. Больш плыўкага й знікомага ў паветры,*
*4. Без каліва паважнасці/позы й вагі.*

*5. Заўваж таксама, што ані не маеш*
*6. Вышукваць словы без ніводнае заганы/абмылкі:*
*7. Няма мілей ад песні падгулялай,*
*8. Дзе Хісткае з Дакладным уваблымку.*

*9. Гэта <як> вабныя вочы з-пад вялёнаў,*
*10. Гэта паўдзённае трымценне святла,*
*11. Гэта ў восеньскім астуджаным небе*
*12. Гармідар сіні ясных зораў.*

*13. Яшчэ бо нам Адценне трэба,*
*14. Не Колер – усяго толькі адценне/нюанс!*







*15. О! адценне адзінае заручыць*
*16. Лятунак з лятункам і з флейтай ражок!*

*17. Як далей уцякай ад Вастрыні забойчай,*
*18. Досціпу злога ды Смешкаў брыдкіх/нячыстых,*
*19. З якіх здараецца вачам Сінечы плакаць,*
*20. Ды ўсяго гэтага часныку грубай кухні!*

*21. Вазьмі <пеўня> красамоўства дый скруці яму шыю!*
*22. Ды слушна зробіш, калі, у настроі рашучым,*
*23. Рыфму крыху да адказнасці звернеш.*
*24. А не ўпільнуй – памкне яна куды?*

*25. О, хто правіны Рыфмы перакажа?*
*26. Які глухі дзіцёнак ці які негр шалёны*
*27. Скляпаў/адкуў нам гэтую грашовую бразготку,*
*28. Што пад напілкам пустазвоніць ды фальшывіць?*

*29. Яшчэ <раз> – музыкі, і <музыкі> заўжды!*
*30. Хай верш твой будзе лёткаю праявай,*
*31. Што адчуеш, як вымкне з душы (у кірунку)*
*32. Да іншых нябёсаў, іншых каханняў.*

*33. Хай будзе верш твой варажбою,*
*34. На золку зблытанаю з дрыжыкамі ветру,*
*35. Што ляціць, павяваючы мятаю й чаборам...*
*36. А рэшта ўся – то літаратура.*

Верш пабудаваны вельмі рэдкім у французскай паэзіі дзевяціскладовым радком з "кальцавой" рыфмоўкай *AbbA/aBBa*, дзе чаргуюцца "жаночыя" і "мужчынскія" рыфмы (г. зн. з націскам адпаведна на перадапошні і апошні склад; пры тым, што ў французскай мове "жаночая" рыфма дасягаецца адно больш выразным "размыканнем" апошняга складу ў слове, што сканчаецца на нямое *e* – так бы мовіць, агучваннем гэтага "нямога *e*"). Нераўнамернае размеркаванне націскаў унутры радка надае вершу ягонае характэрнае "няроўнае дыханне".

(1) *Найперш – музыка.* Згадайма шэкспіраўскія радкі пра

"чалавека, які не мае музыкі ў сабе" *(The man that has no music in himself)*: гэта той, хто здатны да ўсялякае "здрады, подступу ды псоты", бо "цьмяныя, як ноч" памкненні ягонага духу, і прыхільнасці ягоныя "цёмныя, як Эрэб(-дамавіна)", – таму "*Let no such man be trusted*", не давай веры такому чалавеку, "зважай на музыку". Так "музыка" наўпрост лучыцца з этыкай.

(2) *Няцот.* Цот і няцот – асноўныя рытмічныя ўзоры свету. Цот – ураўнаважана-сіметрычны, у-сабе-завершаны, улагоджаны, статычны, да-сканалы. Няцот – асіметрычны, на-сабе-не-супакоены, няпоўны, разамкнёны, запрашальны. "Няцотны" букет падорым камусьці, хто нам адкажа ўсмешкаю; "цотны" – нябожчыку, чыйго "адказу" мы ўведаць не можам. (Адвольная развага. Верлен тут мае наўвеце *vers impair* – няцотнаскладовы верш).

(5–8) *...Зусім не след //Вышукваць словы без якой абмылкі: //Нічога даражэйшага ад песні хмельнай* і г. д. Знаёмае з Пушкіна: "Неправильный, небрежный лепет, //Неточный выговор речей //По-прежнему сердечный трепет //Произведут в груди моей". Не тое ў Буало: яго не проймеш "мілагучнасцю", калі выраз – "недакладны", альбо канструкцыя – "заганная", альбо яшчэ ўтачыўся "надзьмуты барбарызм" (Пушкін: "Мне галлицизмы будут милы")... Усё гэта, паводле Буало, – хіба знакі на тое, што аўтар, хай сабе і "творца найсамы Боскі", ёсць папросту "паганы пісьменнік".

А мы ўсіх паслухаем, дый зробім па-свойму.

(17) *...уцякай ад Вастрыні...* Тут не зусім дакладна пададзена тэрміналагічнае "*la pointe*" – "вастрыё". Маецца на ўвазе дасціпная канцоўка (радок ці двухрадкоўе), што прэтэндуе стацца прымаўкай, "крылатым выслоўем".

(25–28) *...правіны Рыфмы* і г. д. Як бачым, Верлен не толькі не ўважае рыфму за складнік "музыкі", але амаль процістаўляе першую другой. Няцяжка здагадацца, што "музыка", неабходная "перадусім", – гэта музыка ўнутраная, тонкая, высокачастотная, не граная, не пяяная, гэта музыка лучнасці Стварэння з Творцам, з нябёснай Радзімай, – музыка ўдзячнасці й любові. Такое разуменне музыкі цалкам сугучнае з шэкспіраўскім, закранутым вышэй.

***

Першы з вядомых нам беларускіх перакладаў Верленавага *"Art poétique"* адбыўся праз поўныя сто гадоў ад з'яўлення арыгіналу, праз трыста гадоў ад стварэння *"L'art poétique"* Буало.







Поль Верлен

## Майстэрства паэзіі

*Шарлю Морысу*

Для музыкі ўсё падначаль
І тым памерам перавагу
Аддай ты, што вагу і вагу
Заменяць вохкім лётам хваль.

Навошта па-над мовай млосць,
Не гэтым слова перамелем, –
Што песень прыгажэй пад хмелем,
Дзе ўсё дваіцца і ўсё ёсць?!

Няхай мігоча верш на здзіў,
Як з-за вуалі цуда-вочы,
Як хаас зор блакітнай ночы,
Які кастрычнік астудзіў!..

Адценне – вось жаданы Бог.
Што колеры!.. Адны адценні
Вянчаюць водбліскі і цені
І з марай – мару, з флейтай – рог!

І пазбягай забойчых кпінаў,
Кухонных смешачак і дум,
Каб слёз не гнаў часночны глум
З вачэй блакітных успамінаў!

Рыторыцы ламі хрыбты!
І не пашкодзіш прыгажосці,
Калі прымнеш ты рыфме косці,
Што прэ няведама куды!..

Хто ўвёў пакут яе пасты?
Дзіця глухое, раб шалёны,
Каб танныя іх перазвоны
Ўзвышалі гладкапіс пусты?..

Дык – музыкі!.. У ёй – наш лёс,
Калі крылатым быць ён хоча
І ў далеч зазіраць прароча
Каханняў іншых і нябёс.

Загадкавым світаннем хмура
Чакай у празарэнні змен:
Вось-вось чабор запахне, кмен...
Астатняе – літаратура.

***Пераклаў з французскай***
***Алег Лойка,***
*1974*

## Мастацтва паэзіі

*Шарлю Морысу*

Спачатку Музыка... І з ёй
Застанься і забудзь пра Слова.
Паветра, хваля – вось аснова
Дзеля паэзіі тваёй.

Гаворка – стыгма на шчацэ!
Не словы здабываюць складнасць –
Спявай, і з'явіцца дакладнасць
З вакхічным кубкам у руцэ, –

І позірк юны праз вуаль,
І дзень арфічны ў струнах поўдня,
А, восенню п'яная, поўня
На зоры скідвае свой шаль!

Пусці адценне на парог!
Не колер, а яно ўладарыць –
Вядзе да шлюбу сны і мары,
І з флейтай паляўнічы рог!



Цынічны смех не для цябе,
А для якой часночнай кухні –
З ім вочы, плачучы, апухлі
І аддалі блакіт журбе.

Напышлівасць пятлёй здушы –
Няхай хрыпіць пустое горла,
Хай рыфму неспакой агорне,
Каб сон пайшоў з тваёй душы.

Хто рыфму даў на шкоду нам?
Які вар'ят, які прыблуда
Прывабіў нас фальшывым хлудам
І дуплы выглыбіў званам?

Дык Музыкі – на ўвесь твой лёс!
Тады душа ў лірычным цудзе
Нябёсы новыя здабудзе,
Каханне іншае ўсур'ёз.

Хай верш у добрых авантурах
І ў ранку ветраным жыве,
І ў мяце з кменам, і ў траве...
Астатняе ж – літаратура.

***Пераклаў***
***Леанід Дранько-Майсюк,***
*1991*

## Мастацтва паэзіі

*Шарлю Морысу*

Спачатку музыка між хаосу
І ў ёй намёк на рытм-памер:
Бязважкі й лёткі, як сам этэр,
Няцот лаві, што не мецьме зносу.

І хай, можа, песенька твая
Лучае ў словы, нібы з капрызу:
Пад хмелем расхростанага брызу
Дакладнасць мілая – удвая.

Гэта – як позіркі праз вялёны,
Гэта скрозь лісце вырай святла,
Гэта ў затокі плыўкага шкла
Гармідар зораў глядзіць шалёны!

Цяпер Адценне хай возьме лейцы:
Не Колер пэўны – адно Нюанс
Пакліча мары на кантраданс,
Ражок павядзе насустрач флейце!

Але адцурайся Вастрыні,
Няхай ні Смех падступны й забойчы
Імгліць не смее Даверу вочы,
Ні потых нізкае варыўні!

Красамоўству шыю скруці набок!
А там, абы не адмовіў густ,
Навесці Рыфму крыху на глузд.
Бо дасца ў знакі нам ейны скок!

О Рыфма, споўненая пракудства!
Які глушэц, а які лайдак
Бразготку тую цаной мядзяк
Пусціў па свеце назвоньваць глупства?

І толькі з музыкаю – зліцця!
І верш твой, быццам уздых няроўны,
З-пад сэрца вымкне, любасці поўны,
Да вышаў, поўных жыцця.






І верш твой, дрыжыкамі па скуры,
Пяройме хвілю, дзе шэпча бор,
Палошча вецер мяту й чабор...
А іншае ўсё – з літаратуры.

***Пераклала***
***Галіна Дубянецкая,***
*2001*

Два першыя пераклады трапляюць у 8/9-складовы рытм Брусава – Пастарнака, рускіх перакладчыкаў Верлена, – безумоўна эфектны, адно што безуважны да парадыйнае "трактатнасці" арыгіналу. У Алега Лойкі шмат выдатных радкоў, і між іх – асабліва блізкі сэрцу кожнага рыфмаплёта – пра рыфму, "што прэ няведама куды". Дадаю да тэкставага клічніка маргінальны! Пераклад Леаніда Дранько-Майсюка палоніць адвольнасцю вобразаў, якая зусім не супярэчыць аўтарскаму намеру, і якую б не прамінуў ацаніць той, каго Леанід называе "Настаўнік мой Верлен". Але найбольшае замілаванне выклікаюць (у мяне асабіста) радкі, па-верленаўску наіўна-даверлівыя:

*Спявай – і з'явіцца дакладнасць*
*З вакхічным кубкам у руцэ...*

Хацела была паставіць іх загалоўкам "анталогіі", а вось, цытую на завяршэнне.

Што ж датычыць апошняга перакладу, зробленага спецыяльна дзеля гэтай публікацыі, яшчэ як след не прасохлага, не астылага ад зорных бяссонняў і г. д. ... – мяркуйце самі.

**"Укладанне анталогіі",прадмова і каментар**
**Галіны ДУБЯНЕЦКАЙ.**





© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019



# Алесь Астраўцоў

*Нацыя на сваім творчым шляху да развіцця перажывае прыкладна тыя ж самыя этапы, што і Асоба. А гэта азначае, што нам, беларусам, каб набыць раўнавагу і дабрабыт у нацыянальным маштабе, непазбежна давядзецца самастойна прайсці ад пачатку да канца ўвесь шлях нацыянальнай "індывідуацыі". Пакуль жа мы, на жаль, усяго толькі стагоддзямі безвынікова змагаемся з уласным Ценем. Прычым з прастадушнай надзеяй, што нехта спрэзентуе нам за гэты "подзвіг" адраджэнне, свабоду і незалежнасць "на сподачку з блакітнай аблямовачкай".*







# НЕ КАЗКА, А МІФ

*"Індывідуум, зазвычай, да такой ступені недасведчаны, што зусім не ўяўляе ўласных магчымасцяў выбару і з гэтае прычыны кожны раз палахліва азіраецца ў пошуках зададзеных правілаў і законаў, на якія ён мог бы абаперціся ў сваёй бездапаможнасці... нягледзячы на тое, што магчымасць больш глыбокага самапазнання для шматлікай колькасці сучасных людзей лёгка дасягальная".*

**(К.Г. Юнг.)**

"Задачы другой паловы жыцця адрозніваюцца ад задачаў першай", – сцвярджаў д-р Юнг. Гэта наўпрост пацвярджаецца вядомай ангельскай прымаўкай: хто ў юнацтве не быў бунтаром, у таго няма сэрца, хто ў сталым узросце не стаў кансерватарам, у таго няма розуму. Юнг, праўда, у дадзеным выпадку быў больш памяркоўны. Ён лічыў, што спачатку чалавек мусіць развіць у сабе асноўную функцыю, каб навучыцца менавіта мірнаму ўзаемаплённаму суіснаванню з іншымі прадстаўнікамі чалавечага грамадства, а потым звярнуцца да прыгнечанай функцыі, каб праз яе паглыбіцца ў бездань калектыўнага несвядомага ў пошуках уласнай глыбіннай сутнасці (працэс індывідуацыі). Вось як тое тлумачыць д-р Робін Робертсан: "Працэс індывідуацыі ў псіхалогіі Юнга ў асноўным тычыцца другой паловы жыцця. Як меркаваў Юнг, першая палова жыцця прысвечана развіццю здаровага "эга", інакш "Я", якое забяспечвае нармальнае існаванне ў свеце рэчаіснасці. Пасля завяр-

---

*(Заканчэнне. Пачатак у "Крыніцы" № 63–66.)*

шэння гэтага этапу (і толькі пры ўмове паспяховага яго заканчэння) у другой палове жыцця нам належыць зазірнуць у сярэдзіну саміх сябе ў пошуках уласнай больш глыбіннай сутнасці. Індывідуацыя патрабуе ад нас паспяховага праходжання абодвух этапаў. Да тае пары, пакуль не навучымся нармальным узаемаадносінам са знешнім светам, мы не можам спадзявацца раскрыць больш глыбокі духоўны бок сваёй асобы. (Упэўнены, усе мы сутыкаліся з людзьмі, якія былі да ванітаў станоўчыя толькі таму, што баяліся прызнацца ў сваім жаданні здзяйсняць благія ўчынкі.)".

Гэтага, зрэшты, ніхто і не адмаўляе. У заходнім грамадстве, напрыклад, лічыцца, што любы нармальны чалавек павінен да трыццаці з нечым гадоў паспець зрабіць кар'еру, дасягнуць матэрыяльнага дабрабыту, а потым "можна і пра душу падумаць". На тым жа, хто "не паспеў", ставяць крыж, спісваюць "ва утыль", адпраўляюць "на пенсію" і да т.п. Аперыруючы тыпалогіяй Юнга, мы можам вельмі даходліва растлумачыць памылковасць дадзенага стэрэатыпу: у прадстаўнікоў розных псіхатыпаў адрозніваюцца і шляхі вырашэння жыццёвых задач як першай, так і другой паловы жыцця. А гэта значыць, што вышэйзгаданы рэцэпт падыходзіць (і цалкам слушна) для прадстаўнікоў чалавечага грамадства кшталту мысляроў і сенсітывістаў, але задачы першай паловы жыцця ў прадстаўнікоў пачуццёвага кшталту і інтуітывістаў, можна сказаць, амаль супрацьлеглыя, чым у першых двух. А таму ацэньваць іх набыткі ў плане кар'ернага росту ці фінансавага забеспячэння тэрмінам, што мяжуе з "узростам Хрыста", памылкова. (Класічны прыклад – лёс выдатнага ангельскага пісьменніка Джона Фаўлза: толькі ў трыццаць сем гадоў гэты нікому не вядомы да таго правінцыйны настаўнік роднай мовы апублікаваў свой першы раман "Калекцыянер", які быў адразу ж перакладзены болей чым на дваццаць моваў свету.) Нягледзячы на тое, што сілы, калі табе каля сарака, ужо не тыя, як у дваццаць, у гэтым няма ніякай закладзенай ад прыроды несправядлівасці, бо набытая глыбіня разумення прадмета ўласнай дзейнасці някепска кампенсуе недахоп маладзёвага спрыту. Таму асноўны прынцып для маладых пачувальнікаў і інтуітывістаў – нікуды не спяшацца. Але і не марудзіць, калі надышоў час. Вызначыць гэты момант – самая складаная задача, што паўстае перад імі на шляху да творчай самарэалізацыі, якую, зрэшты, Юнг і пазначаў паняццем "індывідуацыя".

Тут паўстае пытанне, адкуль у кожнага чалавека з'яўляецца архетыповая залежнасць ад пэўнага псіхатыпу. Будызм і іншыя "архаічныя" рэлігіі тлумачаць тое досыць проста: уся справа ў рэінкарнацыі душы. Гэта азначае, што душа, якая з'яўляецца канстантнай манадай (вечнай і непадзельнай адзінкай), незлічоную колькасць разоў адраджаецца на Зямлі ў самых розных увасабленнях, якія кожны раз залежаць ад набыткаў папярэдніх жыццяў. Такім чынам, жыццё чалавека ад самага нараджэння запраграмавана на пэўны архетып, які ёсць праявай ціску з боку ягонага ўласнага лёсу (кармы). Адсюль задача кожнага чалавека – вызваліцца ад гэтага прыгнёту (задача вельмі і вельмі складаная, паколькі душа ўвесь час вымушана вяртацца назад да зямнога жыцця). У гэтым – прынцып найвышэйшай справядлівасці: як казаў Буда, "роўнасць людзей крыецца ў дадзенай кожнаму магчымасці дасягнуць праўдзівай свабоды". Але шлях да такой свабоды ў кожнага свой, бо ад нараджэння людзі няроўныя: адзін нараджаецца прынцам, другі – жабраком і г.д. І, такім чынам, адказ на пытанне "Каму з іх у гэтым жыцці прасцей, а каму складаней?" зусім не адназначны. Праўдзівая свабода – гэта, кажучы словамі Юнга, паспяховае дасягненне ўласнай "індывідуацыі", што ў канчатковым выніку абазначае пазбаўленне (выз-**вал**енне) ад кармічнага ціску. Такі чалавек (у дадзеным выпадку пад словам "чалавек" трэба разумець не цела, а менавіта часцінку Боскага духу – манаду) вызваляецца ад непазбежнага адраджэння на Зямлі ў чарговым увасабленні і пераходзіць у іншыя, больш складаныя вымярэнні духоўнага (і, натуральна, матэрыяльнага) быцця. Але паколькі такі чалавек з'яўляецца ўжо асобай з зусім іншым (значна вышэйшым) узроўнем свядомасці, ён можа – як тое згодна з традыцыяй робіць сам Буда, – абраць шлях вяртання на Зямлю, каб у якасці майстра-настаўніка-гуру дапамагаць вызваляцца іншым. Але для яго, у адрозненне ад рэінкарнацыі іншых людзей, такі крок – цалкам свядомы ўчынак. (Цяпер мы дакладна разумеем, што меў на ўвазе д-р Юнг, калі казаў, што лёс кожнага літаратурнага героя – спроба прарвацца за межы ўласнага архетыпу.)

Але падобнае тлумачэнне ў заходнім свеце, выхаваным на іуда-хрысціянскай традыцыі, якая рэінкарнацыю душы рашуча адмаўляе, падмяняючы яе “вечнымі” “раем” ці “пеклам” (згодна з будызмам атрымліваецца, што “пекла” – гэта і ёсць наша зямное жыццё), дагэтуль гучыць задужа адыёзна. Юнг тое цудоўна разумеў, а таму вымушаны быў прыдумляць нешта болей прымальнае для пануючых у грамадстве мысляроў і сенсітывістаў, перакананых у тым, што “жывуць адзін раз”. Ён выкарыстаў паняцце “самасць” для вызначэння прыроджанай асобы, у якую мы развіваемся (дарастаем) на працягу ўсяго нашага жыцця (прыроджанасць на дадзеным этапе можна даволі проста растлумачыць генетычнымі назапашваннямі продкаў кожнага асобна ўзятага чалавека). Прычым ён не акрэсліваў, што трэба разумець пад паняццем “усё жыццё” – цыкл існавання ад нараджэння да смерці фізічнага цела ці этапы развіцця манады. Як бы там ні было, але канчатковая мэта жыцця – “самасць” – уплывае на кожны этап развіцця асобы. Юнг параўноўваў дадзены архетып з рэчышчам, якое паступова фармавалася на працягу тысячагоддзяў з вузенькай крынічкі, што выбірала для сябе напрамак па шляху найменшага супраціўлення глебы, шмат разоў мяняла яго, пакуль не ператварылася ў шырокае магістральнае вусце, якое ўліваецца ў акіян калектыўнага несвядомага (сусветнае душы).

Аднак далёка не кожная крыніца сягае акіяна. Асноўная маса іх губляецца ў твані балота ці знясілена знікае ў пясках бязводнае пустэльні...

Але калі моцы нашага жадання хапае на тое, каб у рэшце рэшт уліцца кропляй у акіян “сусветнай душы”, мы непазбежна мусім абмінуць шматлікія перашкоды, што будуць узнікаць на шляху “крыніцы” нашай душы.

Першае выпрабаванне, якое чакае нас, – сустрэча з галоўным супернікам, уласным Ценем. Хто ён і адкуль узнікае?

У кожнага дзіцяці ёсць прыроджаныя схільнасці: як станоўчыя з пункту гледжання грамадства, так і адмоўныя. З дапамогай выхавання першыя імкнуцца ўсяляк развіваць, а другія – прыгнечваць. Але паколькі яны належаць да архетыпу – рэчы дужа трывалай і непахіснай – дык пазбавіцца іх вельмі і вельмі няпроста. Гэта магчыма толькі шляхам развіцця ўласнай свядомасці. Выхаванне ж толькі “выцясняе” такія схільнасці ў сферу несвядомага, і чым глыбей яны там апынаюцца, чым даўжэй знаходзяцца ў прыгнечаным стане, тым у больш пачварнай форме часам праяўляюцца, прарываючыся па нейкім непадуладным чалавеку клічы з “цемры” несвядомага ў рэальнае жыццё. Але такі варыянт развіцця падзеяў зусім не непазбежны. Прырода – яна бясконца мудрая, а таму кожнаму даецца шанц гэта абмінуць. І ўсё дзякуючы таму, што вакол нашых уласцівасцяў, адрынутых і загнаных у глыбіню несвядомага, фармуецца асоба (альбо шмат асобаў) – яны персаніфікуюцца (гэта само па сабе не дзіўна, бо мы непазбежна бачым навакольны свет менавіта праз прызму чалавечых узаемаадносінаў). Вось такую асобу Юнг і назваў Ценем, бо яна, падобна фізічнаму ценю, з’яўляецца цёмным контурам усяго нашага быцця.

Варта дадаць, што паколькі Цень увасабляе ўсё самае адмоўнае з нашага пункту гледжання, дык у расава-класавым соцыуме ён будзе часцей за ўсё поўным нашым антыподам. Гэта азначае, што для белага амерыканца Цень з’явіцца ў абліччы “мурына” ці “лацінаса”, для афраамерыканца – у абліччы “белага”, для антыкамуніста – у абліччы бальшавіка (і наадварот), для рускага шавініста – у абліччы “жыда”, для габрэя – у абліччы “фашыстоўца-баркашоўца”, для беларускага нацыяналіста – у абліччы “маскаля” (магчыма, адноснай агульнасцю аблiччаў Ценю тлумачыцца вялікая колькасць габрэяў у шэрагах беларускіх нацыяналістаў), для “лоха” – у абліччы “кідалы”, для “кідалы” – у абліччы “лоха” і г.д.

Сустрэчы з Ценем – асобай заўсёды аднаго з намі полу – адбываюцца альбо ў снах, альбо ў рэчаіснасці (у такім выпадку ролю нашага Ценю выконвае нейкая рэальная асоба з нашага наваколля, адбываецца гэтак званая Праекцыя).

Спынімся на снах. Справа ў тым, што для чалавека недасведчанага звышпільная ўвага з боку псіхааналітыкаў і аналітычных псіхолагаў, якая надаецца гэтай з’яве, часта незразумелая і лічыцца амаль блюзнерствам. Так адбываецца таму, што ў сучасным грамадстве існуе памылковы стэрэатып, быццам чалавек, здаровы фізічна і псіхічна, ніякіх сноў не бачыць. На самай справе гэта зусім не так: у мінулым стагоддзі з дапамогай прыбораў,

якія рэгістравалі актывізацыю мазгавой дзейнасці, было даказана, што кожны чалавек (гэта тычыцца і жывёлаў, у першую чаргу млекакормячых) мроіць сны кожную ноч. Але тое адбываецца не на працягу ўсяго тэрміну сну, а ў досыць кароткі прамежак часу, які ў чалавека цягнецца адну-паўтары гадзіны. Псіхолагі назвалі гэты перыяд "хуткім сном".

Каб паспяхова пераадолець перашкоды этапу Ценю, чалавек, згодна Юнгу, павінен інтэграваць Цень у сваю асобу. Першае, што трэба дзеля гэтага зрабіць, – перастаць баяцца, нават калі сон – самы сапраўдны "ўжасцік".

На гэтым таксама варта спыніцца падрабязней. Працэс індывідуацыі – гэта пашырэнне нашай свядомасці ў сферу калектыўнага несвядомага. Усё ж звязанае з калектыўным несвядомым людзі здаўна акрэслілі паняццем "містыка" (ці "метафізіка"). Дадзенае паняцце ўзнікла яшчэ ў часы антычнасці, бо праца Арыстоцеля, у якой ён разглядаў гэтую з'яву, у старажытным агульным зборы твораў знакамітага філосафа ішла адразу ж за працай пра "фізіку" (*meta* – па-грэцку "за", "пасля"). Такім чынам, на шляху індывідуацыі чалавек непазбежна трапляе ў сферу містычнага. Пра тое, што яна існуе, не спрачаюцца нават самыя зацятыя "матэрыялісты" з пазітывістамі (разыходзяцца яны толькі ў назвах). Напрыклад, Марцін Хайдэгер акрэслівае сферу калектыўнага несвядомага як "нішто", а Імануіл Кант называў "трансцэндэнцыяй" (ад лац. *transcendo* – "выходжу за межы"), паколькі дадзеная сфера знаходзіцца за межамі разумовага пазнання. Такім чынам, містыка асацыіруецца з нечым незразумелым, што выклікае "містычны страх". Спашлемся на Хайдэгера (у перакладзе Валеркі Булгакава): "Вытыкнёнасць быцця ў нішто на аснове *сукрытага страху* (вылучэнне маё, – *А.А.*) з'яўляецца перасяганнем бытуючага ў цэласці, трансцэндэнцыяй". Такім чынам, сучасная філасофія сцвярджае, што страх, які паралізуе разумовую дзейнасць чалавека і вядзе да непазбежнай разгубленасці, узнікае пры судакрананні з трансцэндэнтным (містыкай, метафізікай). Памылковасць дадзенага стэрэатыпу псіхалогія даказала яшчэ ў часы Фрэйда, які ўказваў на тое, што рэчаіснай дзейнасцю чалавека таксама кіруюць "прыродныя страхі" перад смерцю (комплекс самазабойцы), голадам (комплекс, так бы мовіць, "прыгожага






жыцця"), жабрацтвам (комплекс "рыцара-скнары"), сексуальнай неспатоленасцю (цэлы букет сексуальных комплексаў), вечным рабствам (комплекс улады), няўпэўненасцю ў сабе (комплекс "кругога") і інш. Таму метафізіка, якая, безумоўна, выклікае мноства містычных страхаў (перад мерцвякамі, зданямі, начнымі могілкамі і г.д.), у прынцыпе нічым не адрозніваецца ад рэальнага жыцця. А паколькі ў рэчаіснасці чалавек, які не ў стане пераадолець свае страхі, як мінімум вар'яцее, дык і працэс індывідуацыі, падчас якога псіхіка, безумоўна, павінна застацца цалкам трывалай і ўраўнаважанай, у першую чаргу павінен пачынацца менавіта з пераадолення містычных страхаў.

Такім чынам, сустрэўшыся ў сне з якой-небудзь пачварай, мы мусім зразумець, што гэтая адыёзная асоба – усяго толькі наш уласны Цень. А таму мы не павінны яго палохацца, як не павінны пужацца саміх сябе. І тады паступова Цень пачне змяняцца, набываць усё больш і больш прывабныя рысы...

Тут мы падыходзім да вельмі цікавага моманту: аказваецца, і Юнг упэўнена сцвярджае, што чалавек у стане ўплываць на змест уласных сноў. Сучаснаму "цывілізаванаму" заходняму чалавеку ў такое вельмі цяжка паверыць. Затое ў прыхільніка любой "архаічнай" рэлігіі падобнае сцверджанне не выкліча ніякага здзіўлення. Памятаеце, мы ўзгадвалі пра тое, што медытатыўнасць жыцця для дзэн-будыстаў – гэта пастаянны кантроль над сабою ў стане не-сну. Наспеў час дадаць, што наступны крок для чалавека, які дасягнуў падобнага ўзроўню самасвядомасці і самакантролю, – гэта татальнае самаўсведамленне, якое не спыняецца ніколі (і ў стане сну – таксама). Для шамана сон – увогуле асноўны час, у які ён праходзіць праз усе этапы самапасвячэння і ў які адбываюцца асноўныя падзеі ягонай наступнай "прафесійнай" дзейнасці. (У сне шаман гіне і нараджаецца наноў у больш "дасканалым" целе, перамагае татэм і "захоплівае" яго ў сабе, знаходзіць духа-дапаможніка і г.д. Уводзячы сябе падчас камланняў у транс – той жа сон – шаман падарожнічае па паралельных светах у пошуках злых духаў, што скралі душу хворага супляменніка, і змагаецца з імі за жыццё пацыента.) Здаецца, ужо стала нямодным пасміхацца з падобных "прымхаў дзікуноў", бо распаўсюджанне інфармацыі пра гэтае протаверанне даказвае: лекуюцца

людзі, яшчэ як лекуюцца. Нягледзячы на тое, як да падобнай "медыцыны" ставіцца сучасная навука. Аднак пакуль яна спрабуе па-свойму разабрацца ў дадзеным феномене, шаманы "цывілізаваліся ў свеце" і самі пра ўсё распавялі. Але, натуральна, не панавуковаму. А калі шукаць не адрозненні ў тлумачэннях, а агульнае, дык ізноў трапляем да Юнга: шлях індывідуацыі вельмі нагадвае шлях шамана. Па сутнасці, гэта адно і тое ж. (Адзначым, што пад паняццем "шаман" ва ўзгаданым вышэй выпадку мелася на ўвазе менавіта тое, што разумеў пад ім Мірча Іліадэ, хаця на самай справе слова "шаман" (ад тунгуск. *samaan*) азначае "служка культу" і, такім чынам, яно ідэнтычнае словам: жрэц, валхавец, святар, поп, ксёндз, рабі, мула і шмат інш. Менавіта "шаманы" ў кожнага народа, дзе яны існуюць дагэтуль, называюцца парознаму (напрыклад, у тыбецкім Непале іх называюць "янкры".)

Але інтэграваць уласны Цень зусім неабавязкова ў сне (каб пачаць дзеля наступнага аналізу памятаць уласныя сны, трэба захацець гэтага – праз нейкі час яны паступова пачнуць заставацца ў памяці пасля абуджэння). Як ужо было сказана, з Ценем мы сустракаемся і ў рэальным жыцці. Гэта чалавек, які даў "кручок", зачэпку для вашых уласных "адмоўных" якасцяў і ў кім яны праяўляюцца найбольш яскрава. Пазнаць такі Цень не цяжка: чым больш нейкая асоба *a priori* выклікае ў вас раздражненне і непрыязнасць, тым з большай верагоднасцю можна сцвярджаць, што перад вамі – ваш уласны Цень. У такой сітуацыі працэс інтэграцыі выглядае наступным чынам: вы мусіце знішчыць у сабе тыя раздражнёнасць і непрыязнасць. Прычым не абстрактна – так, маўляў, рабіць нельга, бо гэта грэх, бо трэба "палюбіць бліжняга свайго", нават калі ён "поўная сволач", – а з перакана765 нем у тым, што перад вамі – ваша адлюстраванне, у якім адбілася найболей вашых якасцяў, што вам не даспадобы, а таму замест таго, каб злавацца на гэтага чалавека, лепей ужо злавацца на сябе самога. Калі такое атрымаецца, калі падобны чалавек перастане раздражняць, калі вы ўбачыце, што ў ім "станоўчых" якасцяў не меней, чым "адмоўных", калі зразумееце, якая карысць можа быць ад "адмоўных" якасцяў у рэальным жыцці, тады тое будзе азначаць, што этап Ценю на шляху да індывідуацыі паспяхова вамі пройдзены. (У літаратуры ці кіно падобны працэс найбольш удала ілюструюць пацыфісцкія сюжэты пра вайну, у якіх апісваецца паступовае знікненне нянавісці між зацятымі ворагамі, пасля чаго яны часам пачынаюць дзейнічаць заадно. Такія творы пераканаўча даказваюць, што інтэграцыя Ценю патрабуе ад чалавека мужнасці і праўдзівасці, каб пагадзіцца, што насамрэч у нас хаваюцца патрэбы і жаданні, якія з-за стэрэатыпаў выхавання ці іншых сацыяльных прычынаў мы раней лічылі бессэнсоўнымі ці нават амаральнымі. Але без падобнага свежага позірку на сябе "збоку", без усведамлення таго, хто мы і што з сябе ўяўляем насамрэч, немагчыма дасягнуць псіхалагічнага і духоўнага росту, немагчыма дасягнуць цэласнасці асобы.) Інтэграцыя Ценю зусім не азначае, што вы больш ніколі не сустрэнецеся з ім. Жыццё чалавека пастаянна змяняецца, ставячы перад ім усё новыя і новыя задачы, а таму Цень застаецца нязменным спадарожнікам "па жыцці". Але аднойчы свядома пераадолеўшы страх перад ім, надалей вы будзеце ўспрымаць яго адно як "паплечніка".

Працэс пераходу да наступнага, згодна Юнгу, этапу Анімы/Анімуса (лац. *anima* – "душа"; *animus* – "дух") вельмі часта суправаджаецца нейкай значнай падзеяй, якая прыводзіць да глыбокага эмацыйнага ўзрушэння (напрыклад, каханне) і непазбежна правакуе перагляд маральных каштоўнасцяў. Але, як пісаў Юнг, "сутнасць крыецца не ў тым, каб, як традыцыйна ўяўляецца, аслабіць маральныя прынцыпы, а ў тым, каб надаць маральным высілкам іншы накірунак". Вось тут і ўзнікаюць асноўныя праблемы паміж чалавекам, які імкнецца стаць Асобай, і грамадствам "тых, хто баіцца ўласнага Ценю" (напрыклад, каханне ў юнацтве лічыцца нармальным, а ў сталым узросце часцей за ўсё выклікае ў грамадстве адно абурэнне, хаця насамрэч, з псіхалагічнага пункту гледжання, гэта ўсё этапы аднаго і таго ж працэсу развіцця асобы). Але Асобу, якая інтэгравала ўласны Цень, ужо немагчыма разглядаць з трывіяльнага пункту гледжання, бо яе маштаб ужо не ўціскаецца ў яго вузкія рамкі. І праблема тут якраз не ў Асобе, а ў "пункце гледжання". Бо, як кажа Юнг, "мы павінны пачаць з пераадолення сваёй дабрачыннасці, адчуваючы, з іншага боку, апраўданую небяспеку перад здзяйсненнем граху. Небяспека, бясспрэчна, існуе, бо найвялікшая дабрачыннасць заўсёды ўнутрана кампенсуецца магутнай схільнасцю да заганы, а таму так

шмат заганных людзей ашчадна песцяць у сабе цукровыя дабрачыннасці і маральную манію велічы".

Адзначым, што паняцці "Аніма" і "Анімус" належаць выключна гласарыю працаў Юнга, а таму іх нельга разглядаць з тэалагічнага пункту гледжання, згодна з якім яны набудуць адценне іерархічнай дыскрымінацыі (паводле рэлігійных уяўленняў, зямны чалавек мае тры целы: грубаматэрыяльнае фізічнае і тонкаматэрыяльнае эфірнае цела – душу, а таксама дух – яшчэ больш тонкаматэрыяльнае цела, якое і з'яўляецца "сасудам" для "іскры Боскага духу" – манады). Проста, зыходзячы з уласнага псіхалагічнага досведу, Юнг пераканаўся, што мужчыны ўспрымаюць сваю душу як істоту жаночага полу, а жанчыны – як істоту мужчынскага. Адсюль можна зрабіць выснову, што, інтэграваўшы ў сябе прыгнечаныя раней якасці, якія былі персаніфікаваны ў Ценю, чалавек набывае адносную цэласнасць уласнай душы, якая з любога пункту гледжання – "істота" амбівалентная. У ёй адначасова суіснуюць "чорнае" і "белае", "добрае" і "дрэннае", "разумнае" і "вар'яцкае" і інш. Існуюць у ёй таксама "мужчынскае" і "жаночае". Інтэграцыя ва ўласную асобу такіх якасцяў і ёсць наступны этап індывідуацыі.

Згодна Юнгу, сустрэча з Анімай/Анімусам адбываецца па ўжо "накатанай" схеме – у снах ці ў рэчаіснасці, толькі на гэты раз — сустрэча з асобай іншага з намі полу. Падобная персаніфікацыя таксама не здзіўляе псіхолагаў, якія ведаюць, што адносіны з супрацьлеглым полам практычна з'яўляюцца асновай жыцця дарослага чалавека (як адзначае Робін Робертсан, "...акрамя стасункаў з супрацьлеглым полам, у нашым жыцці існуе мноства іншых – напрыклад, нас з дзецьмі, сына з бацькам, дачкі з маці, з сябрамі і аднакласнікамі, вучня з настаўнікам, а таксама з калегамі, начальствам і г.д. Усе гэтыя стасункі з'яўляюцца фільтрамі, праз якія жыццёвы вопыт трапляе ў нашую свядомасць. Аднак, за выключэннем дзіцячых стасункаў з бацькамі, ніводзін з іх не можа параўнацца па інтэнсіўнасці і складанасці з узаемаадносінамі паміж супрацьлеглымі поламі"). Толькі інтэграваўшы ў сябе непрымальныя для "звычайнага" індывіда рысы супрацьлеглага полу, мы сустракаемся са сваім сапраўдным архетыпам, які з'яўляецца безасабовым калектыўным архетыпам узаемных стасункаў паміж







намі і знешнім светам, паміж нашым унутраным светам і светам знешнім. Юнг пісаў: "Я пазначыў Аніму (натуральна, і Анімус таксама, – А.А.) як персаніфікацыю несвядомага цалкам і як мост, што вядзе да несвядомага. Іншымі словамі – як функцыю ўзаемных стасункаў з несвядомым". Натуральна, Юнг меў на ўвазе інтэграцыю асноўных архетыповых псіхалагічных рысаў, а не гомасексуальныя стасункі, якія ёсць, па сутнасці, не інтэграваннем рысаў супрацьлеглага полу, а падменай імі рысаў полу ўласнага. Таму часцей за ўсё этап Анімы/Анімуса пачынаецца з кахання (менавіта кахання, а не любові ці закаханасці) да асобы супрацьлеглага полу, калі аб'ект пачуцця выклікае захапленне ўвесь цалкам, разам з усімі сваімі якасцямі, – і з тымі, што раней выклікалі адно неразуменне ці раздражнёнасць. І гэта не дзіўна (спашлемся на Юнга): "У гісторыі мы сустракаемся з Анімай перш за ўсё ў боскіх сізыгіях (ад грэцк. *syzygia* – "злучэнне", – А.А.) жаноча-мужчынскіх параў багоў. З аднаго боку, яны сыходзяць каранямі ў цемру прымітыўнай міфалогіі, з другога – імкнуцца да вышыняў філасофскіх пабудоваў гнастыцызму і класічнай кітайскай філасофіі, у якой касмаганічная пара канцэпцыяў пазначаецца як "ян" (мужчынскі пачатак) і "інь" (жаночы пачатак). Мы можам упэўнена сцвярджаць, што гэтыя сізыгіі нагэтулькі ж універсальныя, як і існаванне мужчыны і жанчыны. Такім чынам, можна зрабіць выснову, што ўяўленне чалавека настолькі звязана з гэтым матывам, што ён быў вымушаны праектаваць яго паўсюль і ва ўсе часы".

Паколькі каханне сімвалізуе сабою наступны этап індывідуацыі, натуральна, адбываецца працэс інтэграцыі супрацьлеглых рысаў і якасцяў паміж партнёрамі. Такім чынам, жанчына непазбежна робіцца больш мужнай, цвёрдай і мэтанакіраванай, а мужчына – больш тонкім, чуллівым і мяккім. Гэта цалкам разыходзіцца з поглядамі на мужчыну ў заходнім грамадстве, дзе пануюць выключна мужчынскія рысы духу спаборніцтва – мужнасць і непахіснасць, адсюль – амаль цалкам адмоўнае стаўленне да закаханага мужчыны (жанчыне такую "вольнасць" збольшага даруюць). (Не так даўно давялося пагартаць цытатнік "Вялікія думкі вялікіх людзей", дык у трэцім томе, прысвечаным XIX–XX стагоддзям, кінуліся ў вочы з дзесятак прыкладна аднолькавых вы-

казванняў накшталт таго, што закаханы мужчына выглядае брыдка, падобны да вар'ята, на анучу, нагадвае "бабу" і г.д. Прычым выказванні належалі як мужчынам, так і жанчынам – Агаце Крысці, напрыклад.) А паколькі зборнік складаўся амаль выключна з выказванняў мысляроў і літаратараў (былі, праўда, і палітыкі), дык няцяжка ўявіць маштабы псіхалагічнай непісьменнасці ў сферы сучаснага мыслення і літаратуры (Юнг, які сцвярджаў, што "ў кожным мужчыне спрадвеку закладзена адлюстраванне жанчыны, ...не той ці іншы канкрэтны жаночы вобраз, а канкрэтнае адлюстраванне жаночага полу... Тое ж праўдзіва і для жанчыны: яна таксама нараджаецца з адлюстраваннем мужчыны", у спісе аўтараў, натуральна, пазначаны не быў).

Зусім іншае стаўленне да кахання на Усходзе. Вось як казаў пра гэтае пачуццё самы вядомы ўсходні мысляр-містык канца XX стагоддзя Оша Багван Шры Раджніш: "Вы не можаце рабіць каханне. Яно альбо здараецца, альбо не. Вы мусіце чакаць яго... Гэта падобна на тое, як узыходзіць сонца: вы можаце зачыніць дзверы – тады ягоныя промні не ўвойдуць у ваш дом, вы будзеце жыць у цемры... Калі вы шчаслівыя за сваімі зачыненымі дзвярыма ў цемры, сонца ў поўным парадку, яно не хвалюецца. Вы можаце адчыніць дзверы – і сонца ўвойдзе... Каханне большае за вас. Калі вы хочаце кахаць, вы павінны быць недзеячом... Але забудзьцеся на каханне, таму што каханне – рэдкая з'ява. Вельмі шмат хто думае, быццам кахае, але каханне настолькі ж рэдкае, як любое высокае мастацтва...

Вы можаце рабіць паэзію, але паэты ў свеце сустракаюцца рэдка. Хто заўгодна можа рабіць вершы – насамрэч кожны чалавек калі-небудзь спрабаваў пісаць іх. Існуе пэўны ўзрост, калі кожны чалавек такі дурны, што спрабуе пісаць вершы. Але потым усе кідаюць гэта. У вас могуць быць рытм, метр, граматыка – усё слушна, і ўсё ж такі ў гэтым няма паэзіі, таму што паэзія не ёсць нешта, што вы можаце рабіць, паэтам нараджаюцца, а не становяцца. Здольнымі кахаць таксама нараджаюцца, а не становяцца. Здольны да кахання – такая ж рэдкая з'ява, як паэт, вялікі музыка ці вялікі мастак. Але калі справа тычыцца кахання, людзі могуць у крайнім выпадку суцяшаць сябе, што яны таксама кахаюць.







Кожны лічыць, што ён кахае, але гэта вельмі і вельмі рэдкая з'ява, таму што кахаць – значыць ведаць вялікую таямніцу нядзеяння. Калі вы кахаеце, вы станеце прасветленым. Калі вы кахаеце, вы ўжо дасягнулі, таму што вы ведаеце гэтую таямніцу – той жа сакрэт вядзе вас да прасвятлення".

Незадоўга да смерці Юнг напісаў сваю апошнюю працу, якая называецца "Познія думкі". Вось апошнія словы, якімі скончыў свой творчы шлях васьмідзесяцігадовы мысляр: "Эрас – касмаганіст, творца і бацька-маці ўсялякага пазнання. Мне здаецца, што *conditionalis* Паўла "калі б не было Кахання" ўтрымлівае ўсё пазнанне і нават вышэйшую праяву Боскасці. Тое, што магла даць калі-небудзь інтэрпрэтацыя выразу "Бог ёсць Каханне" – Боства як *"complexio oppositorum"*, – пацвярджаюць ягоныя ўласныя словы:

"Мой медычны вопыт, таксама як і маё ўласнае жыццё, няспынна ставілі перада мною пытанне пра каханне, і ніколі я не мог даць на яго хоць у чымсьці здавальняючы адказ. Быццам Іоў, "руку маю пакладу на вусны мае. Аднойчы я казаў, – цяпер адказваць не буду" (Іоў. 39, 34 сл.). Гаворка ідзе пра найвялікшае і найменшае, найбольш аддаленае і бліжэйшае, высачэйшае і глыбейшае, і адно ніколі не выказваецца без другога. Ніводная мова не выпеставала такіх парадоксаў. Увогуле можна сказаць, што ніводнае слова не выказвае цэлага. Казаць пра прыватныя аспекты – заўсёды задужа шмат ці занадта мала там, дзе на самай справе мае сэнс толькі цэлае. Каханне "ўсё пакрые" і "ўсё стрывае" (1 Кар., 13, 7). Гэтыя словы кажуць пра ўсё. Да іх няма чаго дадаць. У найглыбейшым разуменні менавіта мы – ахвяра ці сродак і інструмент касмаганічнага "кахання". Я стаўлю гэтае слова ў двукоссе, каб адзначыць, што разумею пад ім не адны толькі пажаду, перавагу, прыхільнасць, жаданне і да таго падобнае, – але пераўзыходзячую адзінкавую сутнасць цэлае, адзінае, непадзельнае. Чалавек, пакуль будзе часткай, не спасцігне цэлага. Яно пераўзыходзіць яго. Ён можа сказаць "так" ці запрацівіцца; але заўсёды ён у палоне ў цэлага і ягоны вязень. Ён заўсёды залежыць ад цэлага і абапіраецца на яго. Каханне ёсць ягонае святло і ягоная цемра, канца якой ён угледзець не ў стане. "Каханне не вычарпаецца ніколі", нават калі ён "прамаўляе на мове

анёлаў" ці з навуковай пільнасцю прасочвае да самага ніжэйшага ўзроўню жыццё клеткі. Ён можа надаць каханню ўсе імёны, якія ёсць у ягоным арсенале, але толькі пакорыцца з бясконцым самападманам. Калі ён валодае хоць гранам мудрасці, дык складзе зброю і выкажа *ignotum per ignotius* (невядомае праз яшчэ больш невядомае), а менавіта імем Божым. У гэтым — своеасаблівасць ягонай падначаленасці, нясконачанасці і залежнасці, аднак таксама і знак свабоды яго ад выбару паміж ісцінай і аблудай".

Але вернемся да індывідуацыі. Чалавек, які кіруецца па гэтым шляху, не павінен зважаць ні на якія перашкоды з боку "тых, хто застаўся ззаду". Бо наперадзе яшчэ адзін – і самы галоўны – этап. (Паколькі стасункі паміж мужчынам і жанчынай хоць і асноўныя, але далёка не адзіныя ў жыцці дарослага чалавека, дык, каб стаць Асобай, трэба інтэграваць у сабе і мноства іншых рысаў ды якасцяў. Напрыклад, са стасункаў з дзецьмі, аснову жыцця якіх складае гульня, вынікае, што дарослы чалавек павінен пачаць жыць "гуляючы", пазбавіцца празмернага трагізму ва ўспрыманні непазбежных жыццёвых перашкодаў і да т.п. Са стасункаў "з начальствам" варта пераняць патрабавальнасць да іншых, напрыклад, з пункту гледжання пунктуальнасці – пачаць ставіцца да ўласнага часу з большай павагай. І так – па кожным пункце.)

Трэба адзначыць, што, акрамя рысаў, якія прыводзяць нас да адмоўнага стаўлення, існуюць такія, што выклікаюць "святое трымценне", пра якія мы нават марыць баімся. Іх таксама неабходна інтэграваць у сабе, зразумеўшы, што яны ўласцівыя нам гэтак жа, як і ўсім іншым людзям. Падобныя рысы здаўна асацыіруюцца ў людзей з багамі і багінямі, а таму з'яўленне іх у снах на стадыі Анімы/Анімуса – з'ява нярэдкая (у сучасным грамадстве іх усё часцей падмяняюць вобразы кшталту кіна- ці рокзорак). Вось што пра гэта піша Робін Робертсан: "Любая рыса, якая выклікае ў нас захапленне, жаданне прыпадабніцца ці сполах, цалкам верагодна, будзе праектавацца на бога ці багіню. Калі мы яшчэ верылі ў божышчаў, дзеля ўшанавання іх узводзіліся алтары, а каб дамагчыся літасці ад іх, прыносіліся ахвяры. Бягучая папулярнасць багоў і багіняў лёгка вызначалася па колькасці







людзей, што ўшаноўвалі іх у храмах, і па багацці ахвяраванняў на алтарах. Калі ў храм пераставалі наведвацца, а алтары былі закінутыя, вы маглі быць упэўненыя, што тое ці іншае божышча больш не шанавалася грамадствам ці не выклікала ў ім страху. Сёння для хуткага вызначэння папулярнасці бога ці багіні ў простых смяротных даволі пазнаёміцца з касавымі зборамі.

Кожны з багоў, што жыў калі-небудзь, усё яшчэ існуе дзесьці ў спадчыннай памяці ўсіх людзей. Чалавецтва мала змянілася за адно ці два тысячагоддзі (у залежнасці ад таго, хто робіць разлікі) сваёй гісторыі. У нас больш агульнага, чым адрозненняў, з продкамі, што жылі ў пячорах ці ў афрыканскай саване. Адносна невялікая колькасць рысаў з'явілася на золку гісторыі чалавецтва, і з цягам часу яны перажылі адно нязначныя змены. Гісторыя багоў і багіняў – гэта гісторыя варыяцыяў вечных чалавечых тыпаў (альбо калі не вечных у літаральным сэнсе дадзенага слова, дык такіх, што развіваюцца досыць павольна, каб падавацца такімі)".

Такім чынам, мы выйшлі да апошняга этапу індывідуацыі, які Юнг пазначыў паняццем "Самасць" і пад якім ён разумеў унутраны ідэал той Асобы, якой нам наканавана стаць. Іншымі словамі, Самасць – канчатковая мэта, трансцэндэнтная функцыя, якая вызначае суцэльную раўнавагу, цэласнасць, поўную ўпарадкаванасць чалавечай душы. Вось што казаў пра яе сам Юнг: "[Інтэграцыя Анімы/Анімуса] натуральным чынам вяртае нас да... "нечага" незнаёмага і ў той жа час настолькі блізкага да нас, цалкам нашага і тым не меней недаступнага, сапраўднага цэнтра канстытуцыі, настолькі таямнічай, што яна здольная "прэтэндаваць" на што заўгодна – сваяцтва з жывёламі і багамі, крышталямі і зоркамі, – не выклікаючы ў нас пры гэтым ні здзіўлення, ні нават пачуцця непрымання. Гэтае "нешта" прэтэндуе на ўсё сказанае і на большае, і, не маючы ў нашым распараджэнні нічога, што можна супрацьпаставіць гэтым прэтэнзіям, мы, натуральна, паступім найбольш мудра, калі прыслухаемся да яго голасу... Я назваў гэты цэнтр Самасцю... У роўнай ступені слушна будзе назваць яго "Богам унутры нас".

Няхай вас не засмучае такое "размытае" вызначэнне заснавальніка аналітычнай псіхалогіі. Неканкрэтнае яно не таму, што

Юнг з цяжкасцю ўяўляў тое, пра што пісаў. Зусім не. Ён цудоўна разумеў, што гаворка ў дадзеным выпадку вядзецца пра з'яву, якая ў "архаічных" рэлігіях і ўсходніх духоўных традыцыях завецца "прасвятленнем" (узгадаем словы Ошы Раджніша). Цяжкасць для спадара была не ў тым, *пра што* ён пісаў, а ў тым, *для каго*. Таму што прасвятленне – "абуджэнне да Боскага святла" (у сібірскіх шаманаў такі стан, калі чалавек пачынае бачыць святло энергетычных ліній, якія злучаюць усё існуючае ў прыродзе ў адзінае звышскладанае аб'ёмнае "павуціннe", называецца "каўманэк") – гэта стан Буды. А стан Буды і стан Хрыста (а таксама стан, якога дамагліся Махамед, Рама, Крышна, Заратустра і інш.) – адзін і той жа. У гэтай справе ніякай іерархіі не існуе: ты альбо можаш убачыць адзінства Сусвету, альбо не. Катэгорыя "бачыць лепш за іншых" існуе ў свеце блізарукіх і ў дадзеным выпадку, калі размова ідзе пра найвышэйшую – Боскую – дасканаласць, не падыходзіць. "Архаічныя" рэлігіі і духоўныя традыцыі могуць блытаць чалавека, памылкова адводзіць яго са Шляху-Дао, але ніводная з іх ва ўсялякім выпадку не адмаўляе, што кожны чалавек ад самага нараджэння – часцінка Бога, і праблема толькі ў тым, каб "раскрыць вочы душы" і ўбачыць гэта. Заходняя іудахрысціянская рэлігія рашуча тое адмаўляе (таму Юнг так доўга блукаў навокал перад тым, як наважыцца вымавіць: "Бог унутры нас"). "Езус – адзіны сын Божы на Зямлі!" – крыкне вам любы празамбаваны сектант, і з ім будзе вымушаны пагадзіцца праваслаўны ці каталіцкі святар. Памылка ў тым, што калі нарадзіўся Хрыстос, Езус "памёр" як асоба (тое ж: калі нарадзіўся Буда, "памёр" прынц Сідхартха). Стагоддзямі хрысціянская царква прымушае вернікаў чакаць прышэсця Езуса (хаця нараджэнне двух цалкам аднолькавых людзей немагчымае), у той час як "хрыстосы" прыходзяць і сыходзяць, а іх адпраўляюць на вогнішча ці ў вар'ятню (адзначым, што прарокаў знішчалі толькі ў іуда-хрысціяна-мусульманскім свеце; на Усходзе падобнай "практыкі" не існавала).

Тут мы падыходзім да спрэчак, якія ўзнікалі і ўзнікаюць вакол юнгаўскага паняцця "Самасць". Справа ў тым, што шлях да прасвятлення – індывідуацыя, як называў яго Юнг, гэта якраз наадварот – паступовае пазбаўленне ад эга-Самасці (чым мацней эга, тым меней Боскасці; Бог і эга – рэчы несумяшчальныя). А таму болей падышло б паняцце "разіндывідуацыя" (у эзатэрыцы падобны працэс называецца "ініцыяцыя"). Эга – спараджэнне розуму, а паколькі недасканалы "розум" не ў стане ўсвядоміць Боскую дасканаласць ("гульні Стваральніка, – як пісаў індыйскі мусульманскі паэт-містык Кабір, – не ў стане ніхто зразумець"), толькі са спыненнем ягонай "працы" чалавек у стане раскрыцца для сусветнага розуму.

Але ў заходнім свеце, прасякнутым духам татальнага спаборніцтва, адмовіцца ад эга – значыць выйсці з гульні. Тады трэба з'язджаць на Усход (што шмат хто і робіць – індыйскія ашрамы перапоўненыя сотнямі тысячаў "саньясінаў" з краінаў Захаду). Аднак, каб пры імкненні да індывідуацыі застацца заходнім чалавекам, трэба прайсці "ўвесь шлях да канца": каб пазбавіцца эга, трэба стаць татальна-эгаістычным. Па сутнасці, у гэтым і заключаецца асноўны сэнс працэсу індывідуацыі – зрабіцца Богам.

Юнг пісаў для заходніх людзей.

Не будзем доўга спыняцца на снах. Наступленне этапу Самасці Юнг характарызаваў рознымі сюжэтамі: сланамі, быкамі, мядзведзямі, белымі і чорнымі птушкамі, рыбамі, змеямі, чарапахамі, слімакамі, павукамі, жукамі, а таксама кветкамі, дрэвамі, азёрамі і гарамі. Паверым спадару на слова, але адзначым для сябе, што наўрад ці ў ягонай клініцы было шмат будаў і хрыстосаў, якія маглі даць багаты матэрыял для псіхалагічных даследаванняў. Заўважым толькі, што імкненне да цэласнасці-самасці можа выявіцца ў тым, калі замест хаатычных малюнкаў мы падчас роздуму пачнём машынальна маляваць дыяметральна-сіметрычныя фігуры – мандалы (напрыклад, роўнабаковы крыж, упісаны ў кола). (У шаманскай практыцы выявы мандалаў у выглядзе мапы Сусвету выкарыстоўваюцца для ўваходжання ў транс і падарожжаў па паралельных Светах.)

Паколькі мы разглядаем тэорыю менавіта сп. Юнга, таму і надалей будзем карыстацца ягонай мовай. Такім чынам, мэта індывідуацыі – дасягненне Самасці. Гэта вельмі і вельмі складаны шлях. Зусім няшмат людзей за тысячы гадоў чалавечай гісторыі

здолелі прайсці гэты шлях да канца, але адзначым, што імёны іх усіх засталіся ў нашай памяці.

Каб зразумець, у чым крыецца сэнс Самасці, вернемся да асноўнай навуковай псіхалагічнай катэгорыі – да псіхічнай энергіі. Спачатку для яе азначэння Юнг карыстаўся фрэйдаўскім паняццем “лібіда”, але ў дадзеным выпадку пачаў ужываць слова “мана” (у Меланезіі *mana* азначае абстрактную звышнатуральную сілу, якая часам авалодвае людзьмі ці прадметамі). Справа ў тым, што за сваю неверагодна доўгую гісторыю архетыпы акумулявалі ў сабе велізарную энергію. А значыць, чалавек, які дасягнуў сваёй глыбіннай сутнасці, атрымлівае доступ да крыніцы практычна не абмежаванай Боскай энергіі – маны. Такім чынам, у яго пачынае атрымлівацца ўсё, за што б ён ні браўся (у гэтым і крыецца сэнс даоскага “дзеяння праз нядзеянне”). Не атрымацца не можа, бо цяпер праз чалавека пачынае дзейнічаць, так бы мовіць, сам Бог.

Вось чаму так шмат перашкодаў на шляху да Самасці: ману можна выкарыстоўваць толькі на карысць усяго Сусвету. Калі ў чалавеку засталася хаця б часцінка эга, якое будзе патрабаваць карысці для сябе, усё можа скончыцца вельмі і вельмі сумна – велізарным катаклізмам, бо задзейнічаны будуць задужа магутныя сілы, якія ў стане адчувальна паўплываць на ўсё Светастварэнне.

Першая прыступка да Самасці – гэта з’яўленне персаніфікаванай маны. “Мана-персона, – як пісаў Юнг, – гэта істота, якая валодае звышнатуральнымі і чароўнымі сіламі *(mana)*, надзеленая чароўнымі ведамі і магутнасцю”. Задача чалавека – інтэграваць гэтыя рысы ў сабе. Каб ісці далей, ужо не павінна застацца ніякага эгаізму. “На жаль, – піша Робін Робертсан, – шматлікім людзям не ўдаецца мінуць стадыю “мана-персоны”. Такія людзі “апранаюцца ў мантыю” варажбіта ці чараўніка, гуру ці настаўніка, мудраца ці вядзьмаркі або праецыруюць падобны вобраз на каго-небудзь іншага, а на сябе прымаюць такую ж абмежаваную ролю вучня майстра (мудраца, чарадзея). Ніводная з дзвюх узгаданых роляў не абяцае станоўчага выніку. Абодва вынікі асабліва характэрныя для духоўных традыцыяў, якім уласцівы не паступовы прагрэс ад стасункаў з Ценем да стасункаў з Анімай/Анімусам, а істотныя спробы дасягнуць непасрэдна нейкай канчатковай мэты – Святла, Нірваны, злучэння з Богам і да т.п.

Барацьба з Ценем і сізыгіяй дапамагае авалодаць псіхічнай і маральнай моцай, якая здольна перамагчы “ману-персону”. Людзі, што інтэгравалі ў сваю асобу Цень, ніколі не забудуцца на тое, наколькі падманлівымі могуць быць нашыя думкі і жаданні. Людзі, якія інтэгравалі ў сваю асобу Аніму/Анімус, ніколі не забудуцца, наколькі падманлівымі могуць быць нашыя пачуцці і каштоўнасці. Стрыманасць як вынік падобнага досведу ўяўляе добрую браню супраць самаўпэўненасці”.

Але нават дасягнуўшы Самасці, чалавек застаецца самім сабою, з рэшткавымі адбіткамі свайго характару і псіхатыпу (Крышна, напрыклад, які меў тысячы каханак, пастаянна танчыў, а Езус ніколі нават не ўсміхаўся). У Кітаі існуе культавая карціна, на якой намаляваныя Лао-Цзы, Буда і Канфуцый у ролі дэгустатараў воцату. Усе яны каштуюць з адной бочкі. Лао-Цзы смяецца, бо яму соладка, Буда крывіцца, бо яму кісла, Канфуцый курчыцца, бо яму горка... А гэта азначае, што “Я” чалавека, нават пазбаўленае “Эга”, застаецца пры ім (вось чаму Юнг ужываў менавіта слова Самасць). Вы працягваеце рабіць тое, што рабілі і раней, вы не ператвараецеся ў Бога на зямлі (Хрыста ператварылі ў Бога хрысціяне, а Буду – будысты). Задача апошняй стадыі этапу Самасці – гарманічнае спалучэнне сябе з Сусветам (у шаманаў гэта – кауманэк). Вось што пра гэта пісаў Юнг: “Калі мы адчуем Самасць як нешта ірацыянальнае, невыразна існуючае, якому “я” не супрацьпастаўляецца і не падначальваецца, але з якім яно магутна ўзаемазвязана і вакол якога круціцца, дакладна як Зямля круціцца вакол Сонца, – тады мы дасягнем канчатковай мэты індывідуацыі...

Чалавек не ператвараецца ў сваю несмяротную частку пасля смерці, ён і смяротны, і адначасова несмяротны яшчэ пры жыцці, спалучаючы ў сабе і “я”, і “Самасць”.

Шлях да Самасці небяспечны. Трэба дакладна вызначыць накірунак уласнай дзейнасці. Не патрапіш – пойдзеш на “паўторнае кола”. Бо энергія маны, Боская энергія – энергія стваральная. Атрымаўшы далучанасць да яе, вы робіцеся сустваральнікам Дэміурга. Таму карыстацца ёй можна толькі творча. А калі не

хапае творчага таленту, калі вы не ў стане перапрацоўваць энергію, а яна ўсё прыбывае, лішак яе проста пазбавіць вас розуму. Лёс спадара Ніцшэ – найяскравейшы доказ таго…

Напрыканцы экскурсу ў псіхалогію Карла Густава Юнга па пытанню сувязі гэтай навукі з творчасцю хочацца дадаць, што паколькі псіхалогія – навука агульная, якая ўбірае ў сябе безліч спецыяльных раздзелаў, сярод якіх таксама псіхалогія асобы, трансасабовая псіхалогія і псіхалогія сацыяльная, усе яны, за выключэннем некаторых асаблівасцяў, падначальваюцца агульным законам. Такім чынам, нацыя на сваім творчым шляху да развіцця перажывае прыкладна тыя ж самыя этапы, што і Асоба. А гэта азначае, што нам, беларусам, каб набыць раўнавагу і дабрабыт у нацыянальным маштабе, непазбежна давядзецца самастойна прайсці ад пачатку да канца ўвесь шлях нацыянальнай “індывідуацыі”. Пакуль жа мы, на жаль, усяго толькі стагоддзямі безвынікова змагаемся з уласным Ценем. Прычым з прастадушнай надзеяй, што нехта спрэзентуе нам за гэты “подзвіг” адраджэнне, свабоду і незалежнасць “на сподачку з блакітнай аблямовачкай”.









# Юрась Нераток

*То дасць жыццё пад дых каленам,*
*то смехам абсмяе пустым.*
*І быць, напэўна, пераменам.*
*Але якім?*

## АД БЕЛАРУСАЎ

Драбнее лёс і вые час.
Той б'е ў званы, той джалам круціць.
Чаго вы хочаце ад нас?
Ваду навошта каламуціць?

Навошта нас цягнуць у яр?
Вы хто? Калі ўжо разабрацца –
нашчадкі шляхціцаў, баяр,
ліцвінаў-ваяў і казацтва.

А нам што веча, што статут,
што дзіды, што мячы, што шаблі.
Спрадвеку мучымся мы тут,
а зброя наша – плуг ды граблі.

Не трэба вабіць барацьбой
і спакушаць не трэба раем!
Вы паваюйце між сабой –
мы, як заўсёды, пачакаем.

## ШТО ДАЛЕЙ?

Дзень булькнуў, як у рэчку камень.
"Жыць стала лепш і весялей" –
"чарніла" жлукціў з мужыкамі.
А што далей?

Лёс звыклы – чыгуном гантэляў,
а неразважнасць – наўздагон.
Відаць святло ў канцы тунэлю...
І што з таго?

Фартуна блісне – шар у лузе,
часцей – не выпадае біць.
І сон дурны ідзе па крузе...
А што рабіць?






То дасць жыццё пад дых каленам,
то смехам абсмяе пустым.
І быць, напэўна, пераменам.
Але якім?

Анёлы плачуць, скачуць чэрці,
чакае да сябе зямля.
Калісьці прыйдзецца памерці...
А што пасля?

## РАЧКАВАННЕ

"Знаёмае вам слова? Спачуваю.
А нетутэйшым гэтак гавару:
ёсць завядзёнка дзіўная такая –
заўсёды ў вераснёўскую пару
на бульбу з каларадскімі жукамі
з кашамі і капачкамі хадзіць,
а там перабіраць яе рукамі,
а ўвечары мяхі канём вазіць.

Дзяўбе зямлю руплівa, борзда, дбайна
ўвесь люд ад бабылёў да шкаляроў.
Навошта нам буржуйскія камбайны?
І так кіпіць работа – будзь здароў!

Дождж, вецер, пыл, парэпаныя рукі,
у спіну – лом, пясок – у валасы...
Глыні нагбом сялянскай той навукі
і ёлкім салам хвацка закусі!"

...Так я нудзеў суседу ў электрычцы,
які таксама ехаў рачкаваць.
Ён пагадзіўся: "Ёсць такая звычка.
Затое ўмеем хораша спяваць!"

Юрась НЕРАТОК

## АБЫЯКАВАСЦЬ

Стан здароўя – не адбавіць.
(Сплюнь і не грашы!)
Роўна дыхаю і нават
роўна на душы.
Ні журбе, ні думкам горкім
не скараюся!
Выйду ў горад надвячоркам,
прагуляюся.

Дагарэла сонца свечкай,
за дамы сцякло.
Цёплы вецер, ціхі вечар,
ліхтароў святло.
А з апошняй цыгарэты
ўецца сіні дым...
Адляцеў акраек лета.
Ну і ліха з ім!

Шэпчуць шынамі машыны,
зораць фарамі.
А мужчыны і жанчыны
ходзяць парамі.
Толькі дзе паненка тая,
што была маёй?
Ці сумуе, ці чакае?
Зрэшты, ліха з ёй!

Распрастаў, бы коўдру, неба
месяца ражок.
А што ўсё не так, як трэба, –
я прывык ужо.
Вось і выбраўся з балота,
у якое ўлез!
Спляжыў прыкрасць і маркоту
*раўнадушша* прэс.



*Шаноўны чытач і падпісчык!*

**"Крыніца" – твой часопіс.**

**Будзьма разам у плыні літаратурнага
і культурнага жыцця Беларусі!
Шчыра дзякуем за разуменне і падтрымку.**